# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

17-18

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦККП/б/Б

1930

МЕНСК

# № 17-18 „ПАРТРАБОТНІК“

ПЕРАДАВАЯ: Стр.



Галоўлітбел № 2741. Заказ № 39. У ліку 2000 экз. „Палесдрук“, Гомель

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 17-18 | Сьнежань, 1930 г. | № 17-18

## Аб чарговых задачах партыйных організацый на вёсцы

1930 год канчаецца. За гэты год мы маем значны рост социялістычнай прамысловасьці і ў першую чаргу буйнай індустрыі. На гэтай аснове значна вырасла рабочая кляса, ліквідавана беспрацоўе. Узмацнілася пралетарскае кіраўніцтва ўсім социялістычным будаўніцтвам. За 1930 г. мы дасягнулі рашаючых посьпехаў у галіне разгортваньня саўгасаў, калгасаў і машынна-трактарных станцый. На парозе 1931 г. вёска Беларусі прадстаўляе з сябе ўжо іншы социяльна-гаспадарчы арганізм, чым у 1929 г. 15 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ужо калектывізаваны, гэта значыць, што за апошні год вырасла новая, моцная апора рабочае клясы на вёсцы ў твары калгасьнікаў.

На базе суцэльнай колектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса. 1930 год характэрны значным абвастрэньнем клясавай барацьбы, пасіленьнем супраціўленьня гарадзкой і вясковай буржуазіі социялістычнаму будаўніцтву. 1930 год увойдзе ў гісторыю рэвалюцыі, як год вялізарнага пералому ў галіне разгортваньня культурнай рэволюцыі. Уведзена ўсеагульнае абазязковае навучаньне. У 1930 г. мы пасьпяхова пачалі разгортваць наступленьне па лініі падрыхтоўкі новых кадраў.

Усе гэтыя дасягненьні зьяўляюцца вынікам правільнай генэральнай лініі нашай партыі, якая забясьпечыла разгорнутае наступленьне сацыялізму па ўсяму фронту будаўніцтва і паскораныя тэмпы наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

Вынікам правільнай лініі нашай партыі зьяўляецца вялізарны рост палітычнай актыўнасьці, працоўнага энтузыязму ў рабочых масах, сярод калгасьнікаў, беднаты і серадняцтва. У 1930 г. мы маем вялізарны рост камуністычных элемэнтаў працы як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы.

Адным з вялізарнейшых дасягненьняў 1930 г. зьяўляюцца значныя посьпехі ў галіне прыстасаваньня работы ўсіх нашых організацый да задач разгорнутага наступленьня социялізму па ўсяму фронту. Чыстка партыі, савецкага апарату, барацьба з бюрократызмам, сур'ёзныя дасягненьні ў галіне перабудовы профсаюзаў, сельсаветаў, усяго дзяржаўнага апарату—усе гэтыя мерапрыемствы значна ўзмацнілі апарат дыктатуры пролетарыяту. Нашы вялізарныя дасягненьні ў гэтай галіне—лепшы адказ Сырцовым і Ломінадзе на іх паклёпы на партыйны і савецкі апарат. За апошні год мы таксама маем сур'ёзныя дасягненьні ў галіне перабудовы масава-палітычнай і організацыйнай работы ўсіх парт. організацый, ячэек на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах.

Для кожнага з нас відавочна, што гэтыя дасягненьні былі-б немагчымы без барацьбы бязьлітаснай з усялякімі опортуністычнымі скажэньнямі лініі партыі

і ў першую чаргу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай. У 1930 годзе мы разграмілі права-опортуністычную опозыцыю Бухарына, Рыкава, Томскага. У апошнія месяцы партыя ўскрыла і разграміла двурушніцкі бяспрынцыпны права-„лявацкі“ блёк Сырцова-Ломінадзе. Разгорнутая барацьба з опортуністычнымі тэорыямі, з опортуністычнай практыкай падняла на вышэйшую ступень політычную актыўнасьць усіх парт. організацый. Гэта барацьба яшчэ больш завастрыла бальшавіцкую пільнасьць партыйнай організацыі.

* * *

Перадышка, заваёваная намі на франтох грамадзянскай вайны, канчаецца. Ваенную інтэрвэнцыю супроць Савецкага Саюзу нам удалося ў гэтым годзе сарваць, але інтэрвэнцыя толькі адкладзена. Ва ўсёй сваёй далейшай рабоце мы павінны выходзіць з неабходнасьці максымальнага забесьпячэньня абароназдольнасьці нашай краіны.

Ваенная работа партыйных організацый, усіх ячэек павінна быць паднята на больш вышэйшую ступень. Зусім нецярпімымі зьяўляюцца факты пасыўных адносін да выкананьня заданьняў па лініі абароннай работы.

1931 год зьяўляецца рашаючым годам пяцігодкі, посьпехі трэцяга году пяцігодкі прадрашаюць выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. Заданьні на 1931 год значна большыя, чым у 1930 г. Тэмпы работы ў 1931 г. павінны быць больш хуткімі, як у 1930. Патрэбна больш паскораная і лепшая работа ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва і перш за ўсё ў гаспадарчым будаўніцтве. Важнейшым элемэнтам забесьпячэньня выкананьня пляну 1931 г. зьяўляецца рашучая мобілізацыя ўсіх унутраных рэсурсаў. Выканаць заданьне 1931 г. мы зможам толькі пры тэй умове, калі мы скарыстаем рэзэрвы, якія ў нас маюцца, як у рабочай сіле, сродках, матар'ялах, пустуючай зямлі, сельска-гаспадарчым сырцу, абсталяваньні і г. д.

Уся работа 1931 г. будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. У сваёй рабоце мы павінны выходзіць з таго, што кожны вучастак нашага будаўніцтва зьяўляецца адначасова вучасткам клясавай барацьбы. **Патраеньне клясавай пільнасьці, пасіленьне пралетарскага кантролю, сваячасовае выкрыцьцё ўсіх клясава-варожых вылазак, далейшае разгортваньне наступленьня на капіталістычныя элемэнты і ўпартая работа над ліквідацыяй кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, рашучая барацьба з правым ухілам, які застаецца галоўнай небясьпекай, з „левым“ опортунізмам—усё гэта зьяўляецца важнейшымі задачамі ўсёй нашай работы ў 1931 г.**

* * *

**У 1931 г. неабходна зрабіць значны паварот усіх вясковых партыйных організацый да пытаньняў гаспадарчай работы ў раёнах.** Да гэтага часу раёны вельмі слаба кіруюць гаспадаркай раёну. 1931 г. павінен быць пераломным годам у галіне мобілізацыі ўсіх камуністых, камсамольцаў, рабочых, беспартыйных актывістаў, калгасьнікаў, беднаты, серадняцтва вакол пытаньняў гаспадарчага будаўніцтва. Сваячасовае давядзеньне пляну гаспадарчых задач да кожнай вёскі, да кожнага калгасу, да кожнага двара, да кожнага калгасьніка, рабочага саўгасу зьяўляецца важнейшым элемэнтам сапраўднага павароту тварам да пытаньняў гаспадаркі.

Буйным недахопам у рабоце вясковых організацый зьяўляецца слабая апэрацыйнасьць у рабоце. Апэрацыйнасьць у рабоце прадугледжвае сваячасовую дачу заданьняў, сыстэматычную праверку выкананьня гэтых заданьняў і сваячасовую ўпартую барацьбу за іх ажыцьцяўленьне. Мы падкрэсьліваем значэньне **сваячасовай** сыгналізацыі масам і кіраўніком аб прарывах і адставаньні ў тэмпах, аб скрыўленьнях клясавай лініі пры ажыцьцяўленьні нашых задач. Дрэнна, калі прарыў сыгналізуецца і ўскрываецца зьверху—трэба забясьпечыць большае разьвіцьцё чуласьці кожнага члена вясковай парторганізацыі і сваячасовую мобілізацыю мас на ліквідацыю прарываў.

**Важнейшай задачай усіх вясковых парт. організацый зьяўляецца падрыхтоўка і правядзеньне другой бальшавіцкай вясеньня-пасеўнай кампаніі** Не-

абходна давесьці плян пасеўнай кампаніі да кожнага двара, да кожнага калгасьніка, рабочага саўгасу, распрацаваць апэрацыйны плян падрыхтоўкі мерапрыемстваў, забясьпечваючых пасьпяхоўвае выкананьне пляну вясеньня-пасеўнай кампаніі, і **організаваць кантроль над яго выкананьнем. У выніку прапрацоўкі пляну вясеньня-сельска-гаспадарчай кампаніі масамі, павінен нарадзіцца сустрэчны плян вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі.**

Ва ўсёй сваёй гаспадарчай рабоце раённая партыйная організацыя павінна забясьпечыць максымальнае разгортваньне **вядучай галіны сельскай гаспадаркі**. 1931 г. павінен стаць пераломным годам у галіне паглыбленьня спэцыялізацыі асобных раёнаў. У жывёлагадоўчых раёнах плян работы раённых партыйных організацый павінен перш за ўсё прадугледзець усе неабходныя мерапрыемствы для разгортваньня жывёлагадоўлі, і для вырашэньня гэтай задачы павінны быць скарыстаны лепшыя сілы і асноўныя сродкі. У ільнаводчаскіх-канапляных раёнах партыйныя організацыі павінны тое самае зрабіць для забесьпячэньня выкананьня заданьняў па ільну і каноплях.

Якасьць кіраўніцтва раённых партыйных організацый, вырашэньняў гаспадарчых задач будзе вымярацца перш за ўсё тым, як раённая партыйная організацыя здолела забясьпечыць разьвіцьцё асноўнай галіны сельскай гаспадаркі на аснове яе соцыялістычнай рэконструкцыі.

Другой групай гаспадарчых задач раёну зьяўляецца выкананьне і перавыкананьне ўсіх плянаў нарыхтовак. Правядзеньне нарыхтовак зьяўляецца аднэй з важнейшых палітычных задач. Асабліва неабходна забясьпечыць бязумоўнае выкананьне плянаў нарыхтовак ільну і нарыхтовак і вывазкі лесу. Пытаньні забесьпячэньня нарыхтоўкі і вывазу лесу асабліва востра стаяць у лесазагатоўчых раёнах, але і іншыя раёны павінны прымаць удзел у выкананьні гэтых задач. Увагай да пытаньня лесу вызначаецца паварот тварам да гаспадарчых задач каля паловы раёнаў БССР.

Выкананьне фінансавага пляну таксама павінна стаяць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных організацый. Выкананьнем фінансавага пляну вызначаецца баяздольнасьць нашых партыйных організацый і іх уменьне своечасова вырашыць адну з важнейшых задач соцыялістычнага будаўніцтва. Перад усімі раённымі організацыямі таксама стаяць задачы разгортваньня капітальнага шляховага, прамысловага, культурнага, жыльлёвага і інш. відаў будаўніцтва і кіраўніцтва прадпрыемствамі. Пытаньні будаўніцтва зьяўляюцца адказьнейшым вучасткам раённых організацый. Ва ўвесь свой рост паўстала вялікая задача правільнай організацыі працы, рацыянальнага скарыстаньня рабочай сілы, організацыі адходніцтва.

* * *

Раённыя партыйныя організацыі адказваюць за становішча саўгасаў і калгасаў. Пытаньні соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі павінны быць на першым месцы ў пляне работы райкомаў КП(б)Б. Пасьпяховае выкананьне ўсіх гаспадарчых, культурных задач магчыма толькі пры апоры на соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі. Зусім зразумела недапушчальнасьць ігнараваньня разам з тым адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

**Зіма 1931 году павінна быць скарыстана для падваеньня колькасьці калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР.**

Пытаньні кіраўніцтва і організацыі новага прыліву ў калгасы павінны быць тэй цэнтральнай палітычнай задачай, якой падпарадкоўваюцца ўсе іншыя задачы. Падпарадкаваньне ўсіх задач задачам колектывізацыі не азначае ігнараваньня своечасовага выкананьня іншых задач альбо пасляблення ўвагі да іх, як могуць растлумачыць гэты тэзіс опортуністыя на практыцы. Наадварот, усе кампаніі, выкананьне ўсіх задач, уся падрыхтоўка да вясеньняга севу павінна быць скарыстана для організацыі новага прыліву ў калгасы, для стварэньня новых калгасаў.

Пасьпяховае выкананьне задач вясновай сяўбы, як важнейшай палітычнай кампаніі, і вырашэньне ўсёй сумы гаспадарча-палітычных задач, што стаяць перад вясковай парторганізацыяй, немагчымы без карэннага палепшаньня работы сярод батрацтва і беднаты.

Да гэтага часу работа сярод беднаты **знаходзілася ў нездавальняючым становішчы. Парторганізацыі павінны прыняць рашучыя меры да ўзмацненьня работы сярод беднаты і бязьлітасна змагацца з праваопортуністычнай недаацэнкай гэтай** важнейшай галіны работы партыі.

* * *

У шмат якіх мясцох скардзяцца на тое, што маецца шмат кампаній, што многа „асноўных“, „рашаючых“, „цэнтральных“ задач. Неабходна ўсім зразумець, што ў 1931 г. перад намі будзе стаяць многа важнейшых задач. Ніяк ня выйдзе, каб перад раённай партыйнай організацыяй стаяла адна конкрэтная гаспадарчая альбо іншая задача. **Уся сутнасьць правільнай пастаноўкі работы заключаецца ў тым, каб навучыцца злучаць выкананьне ўсіх бягучых гаспадарчых і культурных задач з організацыяй прыліву ў калгасы.**

Трэба весьці рашучую барацьбу з распаўсюджанай практыкай, калі шэраг важнейшых задач, якія павінны выконвацца адначасова, ставяцца „ў чаргу“, і ўся работа набывае характар мэханічнага пераходу ад аднэй кампаніі да другой кампаніі з „законным перапынкам“ паміж паасобнымі кампаніямі. Такі парадак вырашэньня важнейшых задач прыводзіць на практыцы да таго, што па шэрагу важнейшых вучасткаў сацыялістычнага будаўніцтва шмат якія раёны злачынна адстаюць.

Няма і ня можа быць такога становішча, калі раённая організацыя зможа, па думцы некаторых опортуністых, адпачыць. Законны адпачынак патрэбен кожнаму асобнаму працаўніку. Партыйная оранізацыя ў цэлым ня можа адпачываць, яна павінна працаваць бесьперапынна.

* * *

Пасьпяхова выканаць задачы, што пастаўлены перад раённымі організацыямі, немагчыма без карэннай перабудовы работы раёну, без узмацненьня раёну. Пытаньне аб перабудове работы ў раёнах—важнейшае палітычнае пытаньне, паколькі ад перабудовы работы залежыць пасьпяховае выкананьне чарговых задач. Трэба зламаць шэраг аджыўшых, нягодных мэтадаў работы, трэба абвясьціць вайну бюрократызму ў рабоце.

Раённыя партыйныя організацыі дрэнна **і мала скарыстоўваюць тыя масавыя організацыі, якія існуюць у раёнах. Маюцца раёны, дзе ўсё робяць бюро Райкому і яго ўпаўнаважаныя на вёсцы.** РВК, Райкалгассаюз, Райпаляводсаюз. Райспажыўкаапэрацыя, нарыхтоўчыя органы, прафсаюзы ў шмат мясцох фактычна не нясуць адказнасьці за сваю работу—іх часта падмяняюць.

Трэба павесьці рашучую барацьбу з падменай работы ўсіх гэтых організацый, адначасова ўзмацніўшы кіраўніцтва імі. Уся работа павінна быць так пастаўлена, каб даць максымальную ініцыятыву гэтым організацыям. Кожная з гэтых організацый павінна па-сапраўднаму адказваць за сваю працу. Кожная з іх абавязана організоўваць, выхоўваць масу і актыў для выкананьня сваіх задач. Райкомы павінны навучыцца па-сапраўднаму карыстацца „прыводнымі пасамі“ ад партыі да мас, усімі рычагамі пралетарскай дыктатуры.

**Патрэбен рашучы курс на ўзмацненьне нізавога зьвяна, на ўзмацненьне сельсавету, нізавога зьвяна каапэрацыі, калгаснай сыстэмы, культурных організацый, добраахвотных таварыстваў.** Бяз моцнага сельсавету немагчыма пасьпяховая работа РВК. **Рашаючымі элемэнтамі перабудовы работы зьяўляецца перабудова масава-палітычнай работы, уцягненьне мас ва ўсё соцыялістычнае будаўніцтва, выхаваньне новага актыву, узмацненьне сельскага зьвяна.** Уся гэта работа павінна быць накіравана па лініі:

а) падбору, падрыхтоўкі і ўзмацненьня кіруючымі кадрамі раённых і нізавых організацый; б) сапраўднага забесьпячэньня магчымасьці праявіць самадзейнасьць, ініцыятыву ў рабоце; в) рашучай барацьбы з падменай сельскага зьвяна ўпаўнаважанымі з раёну альбо з цэнтру: упаўнаважаны павінен дапамагаць у рабоце, а не падмяняць мясцовыя організацыі; г) пашырэньня правоў сельскага зьвяна ўсіх організацый. Паварот усіх нізавых звеньняў тварам да гаспадарчых пытаньняў, да калектывізацыі зьяўляецца важнейшым элемэнтам перабудовы і ўзмацненьня работы нізавога зьвяна.

Узмацненьне сельскага зьвяна, разгортваньне работы па лініі ўсіх масавых

арганізацый, палепшаньне масавай работы, узмацненьне актыву і асабліва рашучае ўзмацненьне работы сярод беднаты—усё гэта зьяўляецца асноўным элемэнтам перабудовы работы па лініі масава-палітычнай і арганізацыйнай работы. Райком павінен павярнуць работу ўсіх арганізацый тварам да вясеньняга севу, тварам да новага прыліву ў калгасы. Неабходна самая рашучая барацьба з фактамі голага адміністраваньня, неабходна сапраўдная мабілізацыя мас, большае ўцягненьне ў актыўны ўдзел, у сацыялістычнае будаўніцтва, а для гэтага патрэбна разгорнутая бальшавіцкая самакрытыка, пралетарская дэмакратыя ў рабоце ўсіх арганізацый.

* * *

Вялікія задачы стаяць перад раённымі партыйнымі арганізацыямі ў галіне ўзмацненьня вясковых партыйных арганізацый. У 1931 г. трэба дабіцца таго, каб ня было ніводнага сельсавету без партыйнай ячэйкі, дабіцца таго, каб ва ўсіх саўгасах, на ўсіх машынна-трактарных станцыях былі партыйныя ячэйкі. Кожны калгас павінен мець партыйную групу альбо партыйнага арганізатара.

**Стварэньне магутнай вясковай арганізацыі павінна ісьці перш за ўсё па лініі ўзмацненьня партыйнай ячэйкі на вёсцы, у саўгасе і калгасе.** Асноўнымі задачамі ў галіне ўзмацненьня партыйнай ячэйкі зьяўляецца ўзмацненьне кадраў вясковай ячэйкі, патрэбны моцныя сэкратары і працаздольнае бюро. Неабходна ўзмацніць тэмп вярбоўкі ў партыю лепшых калгасьнікаў, батракоў, беднякоў. Узмацненьне вясковай партыйнай арганізацыі павінна ісьці за лік павышэньня ўзроўню палітычных і агульнаадукацыйных ведаў і вытворчай кваліфікацыі камуністых. Важнейшай умовай росту вясковай ячэйкі зьяўляецца ўзмацненьне кіруючай ролі ячэйкі ў галіне выкананьня чарговых задач сацыялістычнага будаўніцтва.

* * *

Нам прадстаіць прарабіць вялізарную работу ў абставінах абвостранай клясавай барацьбы. Разгорнутае наступленьне на клясавага ворага зьяўляецца асноўнай умовай нашых посьпехаў

Самацёкам нельга вырашыць ніводнай задачы. Патрабуецца ўзмацненьне бальшавіцкага кіраўніцтва ўсім соцыялістычным будаўніцтвам. Усё гэта абавязвае нас яшчэ больш завастрыць барацьбу з опортуністычнымі скажэньнямі генэральнай лініі партыі і прымірэнцтвам да гэтых скажэньняў. Правы ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай; на барацьбу з усімі праявамі правага ўхілу неабходна і надалей накіроўваць галоўны агонь барацьбы.

Побач з гэтым трэба памятаць, што „левыя“ загібы—рэцыдывы трацкізму дапамагаюць праваму ўхілу, дапамагаюць клясаваму ворагу, пагэтаму бязьлітасная барацьба з „левымі“ загібамі—з рэцыдывамі трацкізму зьяўляецца бязумоўным абавязкам усіх партыйных арганізацый.

**Толькі ў бязьлітаснай барацьбе з клясавым ворагам, з правымі і „левымі“ опортуністамі можна ажыцьцявіць плян 3-га году 5-годкі.** Цэлы шэраг спраў, якія прайшлі ў Цэнтральным Камітэце партыі, сьведчаць аб тым, што ў шэрагу месц няма дастатковай клясавай пільнасьці, і клясавы вораг скарыстоўвае гэта для зрыву выкананьня паасобных заданьняў.

Усё наша будаўніцтва адбываецца ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі, пагэтаму на правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня, на барацьбу з вялікадзяржаўным расейскім шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам і шовінізмамі іншых нацыянальнасьцяй павінна быць зьвернута сур'ёзьнейшая ўвага. Месячнік праверкі беларусізацыі ідзе вельмі слаба. Шэраг раёнаў правальваюць гэту работу. Гэта сьведчыць аб палітычнай недаацэнцы важнейшай задачы ў галіне моблізацыі мас на выкананьне пастаноў партыі па нацпытаньню. Павінна быць забясьпечана цьвёрдае партыйнае кіраўніцтва правядзеньнем месячніку і далейшай штодзённай работы.

**1931 г. павінен стаць годам па-бальшавіцку разгорнутай работы вясковых партыйных арганізацый, годам выкананьня ўсіх важнейшых задач, зьвязаных з барацьбою за суцэльную колектывізацыю БССР і ліквідацыю на гэтай аснове кулацтва як клясы.**

Ліпкін

# За перабудову партыйна-масавай работы на транспорце

I

На прыкладах цэлага шэрагу фактаў, якія асьветлены ў газэтах, і з практыкі работы амаль што ўсіх вузлавых арганізацый можна наглядна пераканацца ў тым, што няўмеласьць, нежаданьне павысіць тэмпы работы, узглавіць і накіраваць актыўнасьць мас і працоўны ўздым рабочай клясы, няўмеласьць перабудаваць работу прыводзяць да паслабленьня клясавай пільнасьці рабочых мас чыгункі і да здачы ў асобных момантах клясавых позыцый пролетарыяту і да сур'ёзьнейшых прарываў на гаспадарчым фронце.

**„Неабходна ўзяцца, нарэшце, па-бальшавіцку за справу транспорту, узрушыць яго наперад“** (Сталін, Справаздача ЦК на XVI партзьезьдзе). Гэта патрабуе ад усіх організацый транспорту і ў першую чаргу ад партыйных організацый безадкладнай перабудовы зьместу, форм і мэтодаў работы ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія пастаўлены партыяй перад транспортам, для сапраўднай мобілізацыі масы партыйцаў і рабочых на барацьбу за генэральную лінію партыі—супроць правай практыкі і прымірэнчых адносін да яе, супроць элемэнтаў шкодніцтва, чужых рабочай клясе хвасьціцкіх і адсталых настрояў і ўплываў, супроць рвацтва, гультаёў і прагульшчыкаў.

Практыка работы партыйных організацый чыгуначнага транспорту паказвае, што паварот, які маецца ў гэтых адносінах, зьяўляецца зусім недастатковым. Асноўнай умовай выкананьня задач, якія стаяць перад парторганізацыяй, павінна зьявіцца штодзённая мобілізацыя мас партыйцаў і рабочых на барацьбу за генэральную лінію партыі—супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левых“ загібаў і прымірэнчых адносін да іх. Гэтая барацьба павінна весьціся ня толькі па агульна-палітычных пытаньнях, але і ня ў меншай меры на конкрэтных фактах штодзённай практыкі работы. Гэтага няма на большасьці буйных вузлоў Беларусі. Па Воршы і Жлобіну ЦК констатаваў наліччa правага опортунізму ў рабоце кіруючых партыйных, профэсіянальных і гаспадарчых організацый. Адпаведнай сыгналізацыі аб гэтым з боку мясцовых парторганізацый ня было. Опортунізм у рабоце іншых вузлоў, які знаходзіць сваё найбольш яркае выражэньне ў пасыўным супраціўленьні бальшавіцкім тэмпам работы, у тэндэнцыях тлумачэньня недахопаў об'ектыўнымі прычынамі, у масабаязьні, ігнараваньні рабочай актыўнасьці і недаацэнцы значэньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва—усе гэтыя асноўныя факты, не заўсёды знаходзяць дастатковы адпор з боку парт'ячэек і партколектываў.

Адозва ЦК УсеКП ад 3/IX, пастанова ЦК УсеКП ад 10/IX амаль на ўсіх вузлох прапрацованы з вялікім спазьненьнем, а на некаторых вузлох да гэтага часу не даведзены да ўсіх груп рабочых.

Пытаньне барацьбы за працоўную дысцыпліну зьяўляецца адным з важнейшых пытаньняў у працы транспорту і патрабуе ўвагі ўсяе парторганізацыі. Не заўсёды маюцца рэагаваньні ў партыйным парадку на партыйцаў, што парушаюць працдысцыпліну. У Воршы меў месца факт адваротнага парадку, калі прапанавалі паставіць пытаньне аб таварышу, які падаў заяву на партыйца аб парушэньні ім працдысцыпліны.

Па ўсіх буйных вузлох констатавана неправядзеньне ў жыцьцё дырэктыў партыі аб адзінаначальлі. У Воршы ЦК адзначыў нежаданьне выконваць гэтыя дырэктывы. Гэтае пытаньне амаль нідзе не займала спэцыяльнай увагі ячэек. Аб ім гаварылі выключна толькі ў сувязі з другімі пытаньнямі і ў большасьці выпадкаў абмяжоўваліся агульнымі па-

становамі. Амаль няма фактаў прыцягваньня да адказнасьці за конкрэтнае парушэньне адзінаначальля, і аб гэтых фактах не заўсёды даведаешся ў ячэйцы.

Паказваючы на прыкладзе асобных фактаў штодзённай работы клясавы характар барацьбы за выкананьне гаспадарчых задач, трэба мобілізаваць масы на барацьбу з усякімі скрыўленьнямі, што маюць месца ў цэху, брыгадзе, групе, зьмене, не выпускаючы і неабыходзячы ніводнага факту скрыўленьня клясавай лініі партыі.

Трэба адмовіцца ад такой практыкі, калі затрымліваецца азнаямленьне масы з надрукаванымі партыйнымі і палітычнымі дакумантамі да атрыманьня яшчэ дадатковых дырэктыў аб прапрацоўцы. Адказныя за работу ў цэху, брыгадзе, зьмене, арцелі павінны своячасова падхопліваць гэтыя матар'ялы і праявіць ініцыятыву па правядзенью іх у жыцьцё. У сучасны момант неабходна сконцэнтраваць увагу на пытаньнях барацьбы за працоўную дысцыпліну, барацьбы з крушэньнямі. Трэба паставіць плянава-папераджальную работу па адрамантаваньню цягніковай і вагоннай гаспадаркі, выкананьню эксплёатацыйных вымернікаў, рацыяналізатарскай работы, выкананьню рабочых прапаноў. Концэнтруючы ўвагу парторганізацыі і масы на асноўных пытаньнях работы, на перамогу вузкіх месц, парт'ячэйкам неабходна ў той-жа час абхапіць сваім кіраўніцтвам усе галіны гаспадаркі.

II

**„Задача штодзённай мобілізацыі ўсё больш шырокіх мас і накіраваньня з боку парторганізацыі ўсё ўзрастаючай актыўнасьці рабочай масы і прыцягненьня іх да работы непасрэдна ўпіраецца ў пытаньне перанясеньня цэнтру цяжкасьці работы ў нізавыя зьвеньні, цэх, брыгаду, групу, зьмену арцель, і ў задачу памяншэньня цыркуляраў і размоў зьверху, большую ўвагу нізавой рабоце, дзе творыцца сапраўды жывая справа соцыялістычнага будаўніцтва“** (з дакладу т. Кагановіча на XVI партзьезьдзе).

У большасьці выпадкаў ня толькі не перанесена работа ў нізавыя звеньні, але да гэтага часу яна сур'ёзна не пастаўлена. У гэтым напрамку неабходна організаваць партыйныя групы па брыгадах у дэпо і майстэрнях. Сярод зьменных груп рабочых трэба ствараць групы пазьменна па месцу работы і па месцу разьмяшчэньня (зьмена стрэлачнікаў на гаспадарчай, зьмена рабочых аднаго вугальнага складу, зьмена манэўровых брыгад вызначанага парку, зьмена работнікаў таваранага двару, зьмена работнікаў станцыі, зьмена работнікаў сувязі і г. д.)

Ва ўмовах работы транспорту партгрупу з выбарным группарторганізатарам мэтазгодна ствараць у брыгадзе, арцелі, зьмене, дзе налічваецца ад 10 да 30 рабочых і ад 3 да 10 членаў партыі. Там, дзе маецца больш партыйцаў, больш мэтазгодна ствараць цэхавую ячэйку, напрыклад, у брыгадах, групах, арцелях і зьменах, дзе налічваецца да 30 чалавек рабочых, і дзе менш 3-х членаў партыі, трэба ўскласьці адказнасьць за партработу на аднаго з партыйцаў.

**„Важнейшае значэньне ў справе павароту тварам да вытворчасьці,—кажа т. Кагановіч на XVI партзьезьдзе, і мае расстаноўка партыйных сіл на вытворчасьці“.** Па транспорту ў гэтых адносінах маецца вялікая featuresрознакалёрнасьць. Побач з групамі рабочых, дзе партпраслойка дасягае 50 і больш процантаў, маецца многа груп рабочых, дзе зусім адсутнічаюць партыйцы або зусім нязначная партпраслойка. Трэба ў гэтых адносінах парт'ячэйкам і партколектывам заняцца гэтым пытаньнем і паставіць сабе мэтаю дабіцца забясьпечаньня ўсіх груп, брыгад, зьмен, арцеляў партыйцамі, робячы гэта там, дзе магчыма па ўмовах вытворчасьці.

Неабходна, каб партыйцы ў групах зьяўляліся прыкладам, каб яны сваім прыкладам захаплялі ўсю астатнюю масу беспартыйных рабочых і вялі іх за сабою. **„Мала,—кажа Ленін—назваць сябе авангардам, перадавым атрадам, трэба дзейнічаць так, каб ўсе астатнія атрады бачылі і вымушаны былі прызнаць, што мы ідзем наперадзе“.** Комуністы павінны быць пагалоўна ахоплены соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам, штодзённа весьці барацьбу за выкананьне пляну ўсіх вымернікаў. Шляхам

шырокага разгортваньня самакрытыкі неабходна мобілізаваць клясавую пільнасьць і рэвалюцыйную актыўнасьць мас. Для гэтага патрабуецца зьмена характару нагрузак з тым, каб асноўныя нагрузкі партыйцаў былі непасрэдна ў групе, каб гэтыя нагрузкі насілі пераважна вытворчы характар, каб сама група контралявала і правярала выкананьне партыйнай нагрузкі. Работы ў цэху, групе, брыгадзе, зьмене, арцелі так многа, што ня можа быць размовы аб тым, што не хапае нагрузак, што працуюць толькі актывістыя. Ня толькі ўсе партыйцы павінны быць ахоплены партыйнай нагрузкай, але і большасьць беспартыйных рабочых груп павінны ахоплівацца грамадзкай работай.

Група ня зможа справіцца з сваімі задачамі, калі бюро парт'ячэйкі, партколектыву толькі абмяжуецца стварэньнем вызначаных організацыйных форм; трэба, каб бюро заўсёды кіравала работай у групе і дапамагала паставіць там работу, каб бюро не падмяняла сабою групу, а давала магчымасьць групе вырашаць пытаньні, якія датычацца групы.

Неабходна зьмена зьместу масавай работы ў бок політычна-вытворчы; палепшаньне зьместу і мэтодаў правядзеньня сходаў, конфэрэнцый вытворчай нарады; ахоп ўсё большай масы рабочых актыўнай грамадзкай работай; дапасаваньне форм масавай работы да ўмоў работы асноўных груп рабочых (разьезныя, пазьменныя, тыя, што працуюць на далёкай адлегласьці ад цэнтру) і дыфэрэнцыяваны падыход да асобных груп рабочых (старыя рабочыя, рабочыя, якія жывуць на вёсцы, новыя рабочыя, жанчыны, моладзь).

Пры пабудове работы па функцыянальнай сыстэме, разьмеркаваньні па сэктарох на мясцох выявіўся цэлы шэраг непаразуменьняў. Замест скарачэньня ліку паседжаньняў і камісій, пабудова сэктароў на мясцох была ўцямлена як стварэньне новага шэрагу камісій, якія зьбіраюцца, засядаюць, пішуць пратаколы і пастанаўляюць. Замест павялічэньня адказнасьці кожнага комуніста за выконваемую роботу, у шэрагу месц няправільнае разуменьне задач прывяло да памяншэньня адказнасьці; дайшло да таго, што ў некаторых мясцох усклалі адказнасьць па партыйнай лініі не на кіраўніка тэй ці іншай організацыі, тэй ці іншай галіны работы, а на кіраўніка сэктару. У некаторых ячэйках мэханічны падзел усіх партыйцаў па сэктарох замяніў сыстэму разьмеркаваньня партыйных нагрузак. Адсутнасьць яснасьці ў разуменьні мэты і назначэньня функцыянальнай сыстэмы пабудовы работы прывяло да таго, што работа ў гэтым напрамку дала мала вынікаў, а ў некаторых мясцох, захапіўшыся сэктарамі, забылі аб перабудове заводзкай работы.

У гэтым напрамку трэба растлумачыць, што аснова ў перабудове работы заключаецца не ў пабудове сэктароў, і што гэта зьяўляецца толькі часткай усёй работы ў перабудове. Практычна ў гэтых адносінах можна рэкомэндаваць пры пабудове работы па функцыянальнай сыстэме строга ўлічваць асаблівасьці работы ячэйкі.

За работу адказвае толькі адзін чалавек. Менш нарад і пратаколаў. У дапамогу адказнаму за вучастак можна даць невялікую колькасьць таварышоў або выканаўцаў. Ва ўмовах разьезнай і пазьменнай работы і для таго, каб ахапіць работу ва ўсіх групах разьезных, можна даць у дапамогу адказнаму за вучастак выканаўцаў і організатараў па зьменах.

„Перабудова практыкі работы, зьяўляючыся складанай часткай разгорнутага наступу соцыялізму па ўсяму фронту, ня можа абмежавацца толькі партыйнай работай. Адначасова з перабудовай практыкі партыйнай работы неабходна безадкладна прыступіць да перабудовы формаў, мэтодаў, зьместу работы ўсіх організацый рабочай клясы—профсаюзных, гаспадарчых, коопэрацыйных і інш., дапасоўваючы да патрэб рэконструкцыйнага пэрыоду, стварыць у іх ядро найбольш актыўных і рэволюцыйных работнікаў, адштурхваючы і выкрываючы опортуністычныя, трэд'юніоніцкія, бюрократычныя элемэнты, выгнаць вон варожыя і перарадзіўшыяся элемэнты і высунуць новых работнікаў зьнізу“ (Сталін. Справаздача ЦК на XVI партзьезьдзе).

Толькі так трэба ставіць пытаньне аб перабудове работы на транспорце.

Міх. Л.

# Ад месячніку—да штодзённай работы

(*заметкі аб месячніку праверкі беларусізацыі*)

Кастрычнікаўскі пленум ЦК КП(б)Б шырока абгаварыў нацыянальнае пытаньне і намеціў шэраг важнейшых мерапрыемстваў у справе ажыцьцяўленьня нацыянальнай палітыкі партыі. Пленум паказаў, у прыватнасьці, на неабходнасьць рашучага зруху ў справе беларусізацыі партыйнай работы, у асаблівасьці ў вышэйшых і сярэдніх яе зьвеньнях. Разам з тым пленум прыняў і наступную пастанову:

**„Пленум ухваляе ініцыятыву Фрунзаўскага і Кастрычнікаўскага райкомаў, якія правялі месячнік праверкі беларусізацыі, і прапануе ўсім партыйным організацыям правесьці адпаведную работу па праверцы становішча беларусізацыі і работы сярод нацменшасьцяй на працягу сьнежня месяца, аб'яднаўшы яе з масавай растлумачальнай работай аб задачах і мэтах нацыянальнай палітыкі ў БССР. Неабходна ўзмацніць барацьбу за поўную беларусізацыю як дзяржаўнага, так і гаспадарчага апарату. Тут у адносінах да служачых дапусьціма прымусовасьць у справе аўладаньня беларускай мовай“.**

На падставе пастановы пленуму ЦК ухваліў правесьці з 1-га сьнежня месячнік праверкі беларусізацыі і абслугоўваньня працоўных нацыянальных меншасьцяй на іх родных мовах. Зараз (15—18 сьнежня) яшчэ ня можна рабіць вынікі гэтага правядзеньня месячніку па усёй БССР, бо на мясцох работа толькі пачынаецца. Аднак, вопыт правядзеньня месячніку ў Менскай партыйнай организацыі дазваляе ўжо зараз выявіць дапушчаныя недахопы з тым, каб унікнуць іх пры правядзеньні работы астатнімі организацыямі.

Ужо зараз трэба з усёй катэгарычнасьцю сыгналізаваць аб аднэй небясьпецы. Ёсьць пагроза, якая заключаецца ў тым, што нашы партыйныя, а таксама профэсіянальныя і інш. организацыі, дабіўшыся ў парадку правядзеньня месячніку тых ці іншых дасягненьняў, ня змогуць на іх утрымацца і пасьля сканчэньня месячніку закінуць гэтую работу. Уся работа па правядзеньню месячніку павінна праводзіцца з такім разьлікам, каб дасягнутыя посьпехі ў справе беларусізацыі і па абслугоўваньню нацыянальных меншасьцяй ня толькі былі замацаваны, але і больш паглыблена праводзіліся і ў далейшай рабоце.

Толькі так нам трэба ставіць пытаньне аб правядзеньні месячніку. Кожная партыйная ячэйка і Райком, падвёўшы вынікі правядзеньня месячніку, павінны намеціць шырокую праграму далейшай работы па ажыцьцяўленьню пастаноў Кастрычнікаўскага пленуму ЦК КП(б)Б у галіне нац. пытаньня. Неабходна забясьпечыць штодзённую работу і не дапускаць зьніжэньня дасягнутых у час месячніку тэмпаў.

### Што паказаў вопыт

Карыстаючыся, галоўным чынам, матар'яламі Кастрычнікаўскай парторганізацыі (Менск), прасочым за становішчам асобных галін работы.

Вылучаныя Райкомам брыгады, якія спэцыяльна правяралі шэраг вытворчых савецкіх і ячэек навучальных установ, падаюць надзвычайна характэрныя матар'ялы. Асноўнае, што вынікае з усіх гэтых матар'ялаў, заключаецца ў наступным:

**Першае. Ячэйкі зусім недастаткова займаюцца пытаньнямі растлумачэньня і глыбокай распрацоўкай нацполітыкі партыі.**

**Другое. Становішча беларусізацыі трэба прызнаць зусім нездавальняючым,**

**пры чым у гэтай галіне мы маем больш за ўсё фармальна-бюрократычны падыход.**

**І трэцяе. Работа па абслугоўваньню працоўных нацменшасьцяй на іх родных мовах за апошнія часы паслабла.**

Асабліва слаба пастаўлена работа па беларусізацыі ў вытворчых ячэйках. З групы гэтых ячеек досыць рэльефна вылучаюцца ячэйкі чыгункі.

Характэрныя зьвесткі па ячэйцы эксплёатацыі. Як партыйцамі, гэтак і беспартыйнымі беларуская мова ня ўжываецца. Спрэчкі на сходах праходзяць на расейскай мове. Асабліва дрэнна тое, што партыйцы, якія добра ведаюць мову, ня ўжываюць яе ў сваіх выступленьнях на сходах. Больш таго. Былі і такія выпадкі: калі прымацаваныя ў ячэйку новыя партыйцы выступалі пабеларуску на сходах, дык прысутныя прасілі іх гаварыць на расейскай мове.

Сярод часткі чыгуначнікаў распаўсюджана асаблівая вялікадзяржаўная „тэорыя крушэньняў"; так, напрыклад, некаторыя працаўнікі Гомельскага чыгуначнага вузлу даводзілі, што **„ў нас нельга весьці перапіску на бел. мове, бо ад гэтага здараюцца крушэньні цягнікоў"**. Аналёгічныя разважаньні заўважаюцца і сярод некаторых працаўнікоў чыкункі ў Менску.

Меліся і другія заявы: **„У нас беларусізацыяй няма калі займацца, бо зараз трэба змагацца за выкананьне прамфінпляну"**, альбо: **„Навошта нам белмова, калі з ёю толькі да Смаленску даедзеш, а далей яна не патрэбна"**.

Наогул чыгуначныя ячэйкі пытаньнямі нацпалітыкі займаюцца зусім недастаткова, а калі і ставяць гэтыя пытаньні, дык не надаюць ім неабходнага палітычнага значэньня і не намячаюць належных практычных прапаноў. Вось, напрыклад, ячэйка аховы на чыгунцы, заслухаўшы даклад па нацпытаньню, прымае яго толькі да ведама. Мы ўжо ня кажам аб іншых паказчыках становішча работы па беларусізацыі. Усе яны сьведчаць аб тым, што на чыгунцы ў гэтай галіне трэба разгарнуць шырокую работу і стварыць самы рашучы пералом.

Як-жа абстаіць справа ў астатніх ячэйках?

Вось, напрыклад, ячэйка шклозаводу (Менск) за ўвесь 1930 г. спэцыяльнай распрацоўкай нацпытаньня не займалася. Гурткі па вывучэньню нацпалітыкі не працавалі. Бібліотэка заводу, якая налічвае 2062 кнігі, на бел. мове мае толькі 253 кнігі, на яўрэйскай—100, на полскай—90. На заводзе мелі месца антысэміцкія праявы, аднак заводзкая насьценгазэта не рэагавала на гэтыя праявы.

Ячэйка пры аддзяленьні Саюзскуры (Менск) за ўвесь час свайго існаваньня не займалася пытаньнямі нацпалітыкі партыі. Апарат Саюзскуры, які раней крыху працаваў на бел. мове, зараз зусім пакінуў гэтую справу. Былі цікавыя выпадкі „страхоўкі". Некаторыя загадчыкі аддзелаў для таго, каб зьняць з сябе адказнасьць за тое, што паперкі пішуцца на расейскай мове, загадваюць: **„пішы копію Маскве"**.

Зусім дрэнна абстаіць справа ў галіне беларусізацыі па банкаўскіх установах. Пераважная частка адказных працаўнікоў беларускай мовы ня ўжывае, беларусізацыя зьяўляецца ў практыцы работы абавязковай для машыністак і дробных канцэлярыстых. Абслугоўваньне кліентуры праводзіцца на расейскай мове. Калі да супрацоўнікаў банкаў зьвяртаюцца на беларускай мове, яны адказваюць па-расейску. Партячэйкі і профкамітэты амаль зусім гэтай справай ня цікавіліся.

### На аснове посьпехаў змагацца з недахопамі

У пацьверджаньне ўжо зробленых вышэй вынікаў можна-б было прывесьці шмат прыкладаў з практычнай работы шэрагу парт'ячеек, аднак абмяжуемся толькі пададзенымі. У працэсе ходу месячніку выявілася шмат праяў вялікадзяржаўнага расейскага шовінізму. Гэтыя праявы заключаюцца як у пасыўных адносінах да беларусізацыі, гэтак і ў пасыўным супраціўленьні беларусізацыі. Актывізуюцца шовінізмы і іншых колераў. Газэтныя паведамленьні прыносяць шмат фактаў аб актывізацыі розных колераў шовінізму. Дрэннае ва

ўсім гэтым і тое, што ў значнай частцы ячэек няма хуткага рэагаваньня на ўсе гэтыя факты, масы несваячасова мобілізуюцца на барацьбу з такімі зьявішчамі.

Зусім зразумела, што ня можа садзейнічаць рашучай барацьбе з адхіленьнямі ад лініі партыі ў нацыянальным пытаньні тое, калі ячэйкі прымаюць, напрыклад, такія пастановы. На бюро ячэйкі шчотачнай ф-кі (Менск) па пытаньню аб барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам у пастанове адзначана:

**„Считать необходимым обратить серьезное внимание на борьбу с национал-демократизмом и для этого выделить одного члена фабкома“.**

Крыху лепш справа з беларусізацыяй у навучальных установах. Аднак, і там яшчэ далёка ня ўсё зроблена, што патрабуецца. Матар'ялы Кастрычніцкага Райкому адзначаюць, што значная частка партыйцаў і комсамольцаў рабфаку, якія добра ведаюць беларускую мову, часта выступаюць на расейскай мове і пераходзяць на белмову толькі пасьля папярэджаньня.

Усе прыведзеныя факты ва ўвесь рост ставяць пытаньне аб тым, што **партыйныя ячэйкі нацыянальным пытаньнем павінны займацца значна больш, чым да гэтага часу. Нельга абмежавацца толькі месячнікам. Стварыўшы ў час месячніку адпаведны пералом, трэба ісьці далей.**

КП(б)Б мае вялізарныя посьпехі ў справе практычнага ажыцьцяўленьня нацыянальнай політыкі партыі наогул і ў галіне беларусізацыі ў прыватнасьці. Гэтыя дасягненьні асабліва яскрава былі продэмонстраваны на кастрычніцкім пленуме ЦК КП(б)Б. Яны (посьпехі) дасягнуты ў рашучай барацьбе партыі супроць вялікадзяржаўнага расейскага шовінізму, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, супроць шовінізму іншых колераў.

Дасягнуўшы значных посьпехаў у справе беларусізацыі і ў вырашэньні нацполітыкі наогул, нам трэба з усёй рашучасьцю выкрываць недахопы і рашуча іх зьнішчаць. Трэба, каб месячнік праверкі беларусізацыі і абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй зьявіўся ў гэтай справе магутным сродкам для актывізацыі **усёй партыйнай масы** на выкананьне пастаноў кастрычніцкага пленуму ЦК у галіне нацыянальнага пытаньня.

### Падвядзем вынікі

**Першае.** У далейшай рабоце нам трэба рашуча ўдарыць па фармальным падыходзе да беларусізацыі: „Беларусізацыя ня толькі ў тым, каб перавесьці на беларускую мову савецкі і партыйны апараты, але і ў паглыбленым аўладаньні партыяй узрастаючым рухам за стварэньне беларускай культуры, пралетарскай па зьместу і нацыянальнай по форме, а таксама ў падборы, выпрацоўцы і ўцягненьні ў кіруючую партработу бальшавіцка-вытрыманых кадраў беларускіх работнікаў“.

Гэтае папярэджаньне кастрычніцкага пленуму ЦК трэба добра памятаць і выконваць у далейшай практычнай рабоце. Беларусізацыя заключаецца ня толькі ў пераводзе канцэлярыі на белмову, а ў глыбокім аўладаньні беларускай пролетарскай культурай.

Правядзеньне шырокай растлумачальнай работы аб гісторыі і эканоміцы БССР, растлумачэньне карэньняў і сутнасьці беларускага нацыянал-дэмократызму, азнаямленьне шырокіх працоўных мас з беларускай літаратурай—усё гэта павінна заняць належнае месца ў практычнай дзейнасьці партыйных ячэек.

**Другое.** У пастанове ЦК аб месячніку праверкі беларусізацыі ёсьць паказаньне на тое, каб уся практычная работа па правядзеньні месячніку праводзілася пры самым шырокім удзеле рабочых, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства. Папярэднія зьвесткі аб ходзе месячніку сьведчаць аб тым, што гэта паказаньне фактычна ў большасьці арганізацый не ажыцьцяўляецца, таму на разгортваньне шырокай масавай работы вакол месячніку трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу і паставіць гэта ў якасьці першачарговай задачы на далейшае.

**Трэцяе**. Шмат якія партыйныя арганізацыі зусім недастаткова займаюцца абслугоўваньнем працоўных нац. меншасьцяй. Такое становішча зьяўляецца зусім недапушчальным і патрабуе хутчэйшага рэагаваньня. Невыпадкова пленум ЦК КП(б)Б паказаў:

**„Пленум зьвяртае сур'ёзную ўвагу ўсяе партыі на неабходнасьць рашучага пералому ў абслугоўваньні нацыянальных меншасьцяй з боку партыйнага, савецкага і профсаюзнага апарату. У прыватнасьці, неабходна паставіць сыстэматычную масавую работу сярод яўрэйскіх, польскіх і іншых рабочых на іх нацыянальных мовах у мэтах далучэньня гэтых рабочых да актыўнага ўдзелу ў справе соцыялістычнага будаўніцтва...“**

**Чацьвёртае**. Праводзячы ўсю работу пад знакам рашучага пасіленьня кіруючай ролі партыі і рабочае клясы ў справе стварэньня і разьвіцьця беларускай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, **неабходна рашуча пасіліць барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на данным этапе, з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам—дапаможнікам інтэрвэнтаў і з агентурай нацыянал-дэмократызму ў шэрагах КП(б)Б — нацыянал-опортунізмам і з шовінізмамі іншых нацыянальнасьцяй**.

Ад месячніку да шырокай работы і далейшай барацьбы за генэральную лінію партыі—вось задача дню.

Хадасевіч

# Практыка падрыхтоўкі і разьмеркаваньня кадраў

Пытаньне падрыхтоўкі і рацыянальнай расстаноўкі кадраў зьяўляецца адным з найбольш вострых, найбольш актуальных пытаньняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэтае пытаньне нельга ставіць паасобку ад выкананьня прамфінпляну на прадпрыемствах, выкананьня бягучых гаспадарча-палітычных задач на вёсцы. А між іншым мы маем цэлы шэраг устаноў і паасобных кіраўнікоў, якія, захапіўшыся бягучай практычнай работай, зусім забываюць аб заўтрашнім дні.

Характэрным прыкладам у гэтых адносінах можа быць ліквідацыя акруг. Тут мы маем пастанову ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б, якія абавязвалі ўсе цэнтральныя ўстановы зараз-жа распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі кіраўніцтва раёну. На практыцы правядзеньня ў жыцьцё гэтай дырэктывы зусім іншае. Ня гледзячы на значныя тэрміны са дню ліквідацыі акруг, усё-ж да гэтага часу жывога кіраўніцтва і практычнай дапамогі раённыя організацыі з боку значнай часткі цэнтральных устаноў адчуваюць зусім мала.

Мы маем яшчэ да гэтага часу бясконцыя тэлеграмы, вялізарнейшыя абежнікі, у якіх пералічваецца ўся важнасьць правядзеньня таго ці іншага пытаньня, а з другога боку, характэрна, што ў час правядзеньня ліквідацыі акруг у большасьці сваёй цэнтральныя ведамствы і організацыі не правялі ніякіх нарад на мясцох і нават ў цэнтры, ня ведалі аб колькасьці патрэбных ім для раённых устаноў працаўнікоў, і толькі сёньня, праз 4-5 месяцаў пасьля ліквідацыі акруг, мы маем цэлы шэраг заявак як з боку цэнтральных, гэтак і раённых устаноў аб комплектаваньні іх працаўнікамі (па заяўках 62 раёнаў патрабуецца 438 працаўнікоў па розных галінах працы).

У галіне задавальненьня патрэб раёну ў кадрах асноўнай крыніцай для кіруючых кадраў зьяўляюцца мясцовыя рэзэрвы, якія зусім невыстарчальна скарыстоўваюцца, што адзначана кастрычніцкім пленумам ЦК КП(б)Б, а на справе мы маем з боку значнай часткі раёнаў і да гэтага часу няправільную тэндэнцыю, якая недаацэньвае высоўваньне мясцовых работнікаў, спадзяючыся на ўкамплектаваньне з цэнтру. Мы маем часам на справе фактычную блытаніну з боку некаторых раёнаў, якія заяўляюць катэгорычна: **„Калі ня будуць прысланы працаўнікі, дык нельга праводзіць пасьпяхова той работы, якая ў сучасны момант ускладзена на парторганізацыю“.** Напрыклад, Крычаўскі раённы камітэт партыі сваёю пастановай камандыруе спэцыяльна сэкратара РК КП(б)Б у ЦК, каб дабіцца цэлага шэрагу працаўнікоў для раённай організацыі; Талочынскі таксама, пры чым сэкратары заяўляюць: „Калі вы мне працаўнікоў не дасьце, тады мне і ў раён не паказвайся“.

Акрамя комплектаваньня працаўнікамі раённых організацый, мы маем цэлы шэраг раённых камітэтаў партыі, якія заяўляюць аб неабходнасьці ўзмацненьня сельсаветаў (па сутнасьці гэта правільна), што некаторыя раёны і праводзяць—цэлы шэраг працаўнікоў накіроўваецца для ўзмацненьня работы с/саветаў. Усё гэта патрабуе яшчэ больш правільнага разьмеркаваньня і прытоку новых кадраў для раённых апаратаў і сельсаветаў. А між іншым на прапановы аб неабходнасьці зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі і высоўваньня ў той ці іншай організацыі новых працаўнікоў з актыву некаторыя раёны заяўляюць: **„Мы маем організацыю ў колькасьці 100-150 чалавек (у сярэднім), і ўсіх тых, хто быў прыгодны для працы па лініі савецкай, гаспадарчай і інш., мы выкарысталі, і больш вылучаць няма каго“.**

Вылучэньне кіруючых кадраў па важнейшых галінах партыйна-профэсіянальнай, гаспадарчай, савецкай і культурнай работы паказала, што за мінулыя гады дасягнуты станоўчыя вынікі ў кваліфікацыі кіруючых працаўнікоў, што асноўныя кіруючыя кадры выраслі колькасна і ўзмацніліся якасна, але побач з гэтым мы маем прыкрае разбазарваньне і нерацыянальнае разьмеркаваньне ўжо кваліфікаваных кадраў і прыклады простага парушэньня пастановы ЦК КП(б)Б з боку паасобных раёнаў. Аб гэтым сьведчыць наступнае:

Па лініі, прыкладна, сельска-гаспадарчай каапэрацыі да 40 чалавек працаўнікоў акругованага апарату скарыстана па іншых галінах працы ў раёнах, па лініі грашовых устаноў да 56 чал. працаўнікоў скарыстаны па іншых галінах працы, па лініі спажывецкай каапэрацыі да 20 чал. таксама скарыстаны па іншых галінах працы, і цэлы шэраг працаўнікоў той ці іншай галіны, якія маюць значны практычны стаж, скарыстоўваецца не па сваёй спэцыяльнасьці. А побач з гэтым заяўкі на працаўнікоў з боку раёнаў павялічваюцца, пры чым патрабуюць працаўніка па адпаведнай галіне, які мае ўжо практычны вопыт работы.

Характэрны заяўкі па 69 раёнах: **інспэктар. грашовых аддз. РВК—23, інсп. Дзяржстраху—22, старшынь Райкоопсаюзаў—7, інструкт. Райкоопсаюзу—21, старшынь райспажтаварыстваў—9, інсп. РКС—15, загадчыкаў зям. аддз. РВК—18, інсп. нарасьветы—15, інсп. палітасьветы—13** і цэлы шэраг іншых працаўнікоў (зьвесткі па становішчу на 1/X—30 г.; трэба падкрэсьліць, што заяўкі да гэтага часу амаль ня зьменшыліся). У выніку гэтага цэлы шэраг працаўнікоў высоўваецца зусім новых, якія ня маюць практычнага вопыту па лініі тэй ці іншай работы.

Студзеньскі пленум сваёй пастановай сказаў: **„Лічыць ненармальным шматгадовае, у паасобных выпадках, заседжваньне работнікаў на аднэй і тэй-жа рабоце, адначасова з гэтым пленум лічыць зусім недапушчальным без дастатковых падстаў перамяшчэньне работнікаў з аднэй работы на другую, асабліва тых, якія маюць спэцыяльную кваліфікацыю альбо дастатковую практычную падрыхтоўку“.**

Таксама кастрычніцкі пленум канстатаваў, што ў сувязі з ліквідацыяй акруг цэлы шэраг раённых камітэтаў партыі занялiся перастаноўкай кадраў з аднэй галіны работы на другую, чым парушылі дырэктывы ЦК аб замацаваньні ў асноўным работнікаў па іх рабоце.

Такое становішча, бязумоўна, трэба лічыць недапушчальным, зрываючым работу па падрыхтоўцы і кваліфікацыі кадраў.

Здавалася-б, досыць выразна і катэгарычна гаворыць пастановы ЦК, якія можна зразумець кожнай організацыі, кожнаму працаўніку. Але, ня гледзячы на гэта, мы маем цэлы шэраг парушэньняў з боку паасобных партыйных камітэтаў і да гэтага часу, напрыклад:

**Рагачэўскі РК** перамяшчае на іншую работу нам. Адм. Аддзелу, які мае больш 5 гадоў практычнага стажу, з працаю спраўляецца.

**Полацкі РК КП(б)Б** зьнімае з працы працаўніка дарожнага будаўніцтва, ня гледзячы на дырэктыўныя паказаньні аб узмацненьні гэтай галіны працы.

**Бярэзінскі РК КП(б)Б** зьнімае з працы нарсудзьдзю, у той час як па гэтай галіне маецца вялікае недаўкамплектаваньне працаўнікоў.

**Аршанскі РК КП(б)Б** зьнімае з працы працаўнікоў сувязі, якія маюць вялікі вопыт па гэтай працы.

**Ляднянскі РК КП(б Б** зьнімае з працы заг. пункту Дзяржгандбелу.

**Бабруйскі РК КП(б)Б** на прапанову накіраваць у другі раён працаўніка „Белмяса“, які мае практычны вопыт у гэтым напрамку, накіроўвае яго на іншую працу ў сваім раёне.

**Полацкі РК КП(б)Б** зьнімае адказнага працаўніка на іншую работу па пабудове ільназаводу.

**Жыткавіцкі РК КП(б)Б** зьнімае з працы працаўніка Саюзтрансу, ня гледзячы на цэлы шэраг пратэстаў з боку адпаведных ведамстваў і на паказаньне ЦК КП(б)Б.

**Веткаўскі РК** зьнімае з працы працаўніка, які мае значны практычны стаж і вопыт па лініі юстыцыі. Ня гледзячы на прапановы адкамандыраваць яго ў распараджэньне НКЮ, РК заводзіць вялікую перапіску і нарэшце скарыстоўвае яго тэхнічным сэкратаром РКК-РСІ.

**Расьнянскі РК** зьнімае з працы працаўніка Райкрэдыткі, які нядаўна скончыў спэц. курсы па гэтай галіне.

**Ляднянскі РК** зьнімае з працы ашчадкасы таварыша, які мае ў гэтым напрамку практычны вопыт.

Яшчэ цэлы шэраг прыкладаў можна было-б прывесьці ў гэтай справе, як Райкомы, ня гледзячы на пастановы, усё-ж працягваюць займацца непатрэбнай перастаноўкай кадраў, якія маюць практычны вопыт па лініі тэй ці іншай работы.

З другога боку, мы маем непатрэбны ажыотаж і бясплянавы захоп цэлага шэрагу т. т., якія скончылі БДУ і атрымліваюць тую ці іншую спэцыяльнасьць; напрыклад, апошні выпуск студэнтаў, якія скончылі плянава-статыстычны факультэт БДУ,—з іх значная частка працуе не па спэцыяльнасьці па ўстановах.

Больш як 10 таварышоў, што скончылі прав.-саўбуд. ф-т БДУ, не скарыстоўваюцца па спэцыяльнасьці.

Усё гэта яшчэ раз прымушае зьвярнуць увагу органаў Наркомпрацы і партыйных камітэтаў на мясцох—спыніць непатрэбную перакідку і правесьці больш рацыянальнае разьмеркаваньне кадраў.

Такое становішча вядзе да зрыву кваліфікацыі кадраў, а гэта значыць, і да паслабленьня работы па лініі тэй ці іншай працы. З усёй рашучасьцю кастрычніцкі пленум адзначыў такое недапушчальнае становішча і даручыў бюро ЦК павесьці самую рашучую барацьбу з гэтым зьявішчам, аж да зьняцьця з працы тых кіраўнікоў, якія яўна парушаюць гэтыя пастановы.

Апошняе пытаньне, якое я лічу патрэбным закрануць у некалькіх словах, гэта аб практыцы работы аддзелаў кадраў і адказных выканаўцаў па лініі паасобных цэнтральных устаноў.

Яшчэ студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б сваёю пастановай абавязаў цэлы шэраг устаноў (як, напрыклад, ЦСПСБ, НКАЗ, БКС, БКЦ, НКЮ, НКЗ, Галоўдартранс і інш.) організаваць вучразьмяркі, задачай якіх зьяўляецца сыстэматычная падрыхтоўка і праверка кадраў, а таксама практычнае ажыцьцяўленьне дырэктыў па выхаваньню новых пролетарскіх кадраў. Але да гэтага часу, ня гледзячы на значныя тэрміны з дню пастановы ЦК, мы маем такі-ж організацыйны пэрыод аддзелаў кадраў па асобных цэнтральных установах.

Яскрава аб гэтым расказалі загадчыкі аддзелаў кадраў на нарадзе, скліканай аддзелам кадраў ЦК КП(б)Б 15/XI-30 г. Значная частка аддзелаў кадраў паасобных устаноў займаюцца толькі тэхнічнай працай, пішуць розныя формы, размаўляюць, як завесьці вучот, ня ведаюць, колькі ім патрэбна працаўнікоў для апарату. Усяго, што робяць аддзелы кадраў, гэта накіроўваюць працаўнікоў у той ці інш. раён, гэта значыць, тэхнічна афармляюць іх пасылку.

Трэба з усёй рашучасьцю заявіць, што з боку некаторых кіраўнікоў устаноў няма дастатковай увагі аддзелам кадраў сваіх ведамстваў.

Адказны працаўнік па кадрах НКЮ ужо некалькі разоў заяўляе, што ён зьяўляецца толькі тэхнічным працаўніком, яго застаўляюць толькі зарэгістраваць накірованага працаўніка, тэхнічнага апарату ў яго няма. Агульны тэхнічны апарат установы ня выконвае патрэбнай яму работы, такім чынам, ён пазбаўлен усялякай магчымасьці праводзіць работу. Такое-ж становішча ў большай частцы ўстаноў. Аддзелы кадраў ня ведаюць сваіх кадраў, ня ведаюць колькасьці патрэбных працаўнікоў на бліжэйшы час, ня маюць конкрэтных распрацованых плянаў, стаяць на шляху самацёку, і толькі тады, калі патрабуецца той ці іншы працаўнік, пачынаецца адшукваньне яго, пры чым у большасьці сваёй падбор працаўніка праходзіць так, што якасны бок яго мала ведаюць.

Такое становішча прымушае яшчэ раз напомніць кіраўніком устаноў і раённым камітэтам парторганізацый аб пастановах студзенскага пленуму ЦК КП(б)Б,

якія абавязваюць усе парторганізацыі ў найхутчэйшы тэрмін дакладна і ўсебакова вывучыць становішча кіруючых кадраў па важнейшых галінах работы. Трэба распрацаваць канкрэтныя пляны падрыхтоўкі і вывучэньня новых кіруючых кадраў, адначасова рашуча дабівацца таго, каб у практычнай рабоце па падрыхтоўцы кадраў удзельнічалі ня толькі партыйныя організацыі, але і прафэсіянальныя, савецкія, гаспадарчыя, копэрацыйныя і іншыя масавыя організацыі.

Неабходна з усёй бальшавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю праводзіць работу па падрыхтоўцы пралетарскіх кадраў, каб гэта падрыхтоўка ішла разам з узмоцненымі тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва.

## Ад рэдакцыі

Рэдакцыя заклікае працаўнікоў Райкомаў КП(б)Б выказацца на старонках часопісі па закранутых у артыкуле пытаньнях.



**А. Бельскі**

# Некалькі заўваг аб рабоце з беднатой

XVI зьезд УсеКП(б) і бюро ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 6/XII далі зусім выразныя дырэктывы аб рабоце з беднатой. Значнае паглыбленьне і разгортваньне работы з беднатой, як важнейшай задачы работы у вёсцы, патрабуе безадкладнай і глыбокай прапрацоўкі гэтых дырэктыў партыі сярод батрацка-бядняцкіх мас. Палітычныя ўстаноўкі і організацыйныя прынцыпы работы з беднатой павінны быць прапрацованы ўсімі парторганізацыямі, усімі членамі партыі і даведзены да шырокіх мас батрацтва і бедняты.

У пастанове ЦК КП(б)Б ад 6 сьнежня канчаткова вырашана пытаньне, пры якіх умовах організуюцца групы бедняты ў калгасах. Выходзячы з таго, што групы бедняты павінны ня толькі абараняць свае інтарэсы, але і ўзмацняць саюз пралетарыяту з серадняцкім сялянствам, бюро ЦК дазваляе організацыю груп бедняты ў калгасах у першыя часы іх існаваньня і па рашэньню РК КП(б)Б у тых калгасах, „дзе наяўнасьць трэній у асяродзьдзі калгасьнікаў, организацыйныя недахопы, індывідуальныя альбо спажывецкія імкненьні ствараюць умовы, пры якіх пасьпяховае разьвіцьцё затрудняецца". Чаму не ва ўсіх калгасах організуюцца групы бедняты? Стане зусім зразумела такая пастаноўка, калі мы зьвернемся да XVI зьезду УсеКП(б), які ў сваёй пастанове адзначае, што „у сучаднаведнасьці з усім гэтым па-новаму ставіцца цяпер пытаньне аб апоры савецкай улады на вёсцы. З гэтага часу ў важнейшых збожжавых раёнах СССР вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: на калгасьнікаў, што зьяўляюцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады..." І паколькі калгасьнік, як і бядняк, зьяўляецца апорай партыі ў рабоце на вёсцы, у тых калгасах, якія ўжо замацаваны, стварэньне груп бедняты зьяўляецца немэтазгодным. Трэба адзначыць, што організацыя груп бедняты ў калгасах на пэўнай ступені разьвіцьця калгасу можа выклікаць проціпастаўленьне бедняка-калгасьніка і серадняка-калгасьніка, што ні ў якім разе ня будзе спрыяць пасьпяховаму далейшаму разьвіцьцю калгасаў і ўзмацненьню саюзу рабочае клясы і бедняты з серадняком. І без стварэньня груп бедняты трэба весьці работу з батрацтвам і беднатой у калгасе, але ні ў якім разе гэта работа не павінна паслабляць сувязі з калгасьнікам-серадняком.

Мы прыводзім ліст, зьмешчаны ў шматтыражцы рабочых фабрыкі „Віцшвея" ад 28/XI, які сьведчыць аб няправільных узаемаадносінах батрацка-бядняцкай часткі калгасьнікаў з астатняй масай калгасьнікаў.

### ЛІСТ

**батракоў і беднякоў калгасу „Віцебскі Пралетары" шэфам - рабочым фабрыкі „Прафінтэрн" № 1**

ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Мы, батракі і беднякі падшэфнага Вам калгасу імя „Віцебскага Пралетарыя", шлём рабочым фабрыкі „Прафінтэрн" № 1 шчырае бальшавіцкае прывітаньне і дзякуем за цёплы прыём нашага дэлегата тав. Арлова на сьвята 13 гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

Мы с гонарам і радасьцю паведалі ад т. Арлова аб скончэньні будаўніцтва новай фабрыкі краўцоў, аб поўным выкананьні Вамі прамфінпляну другога году пяцігодкі, аб вашым змаганьні за ліквідацыю прарыву першых месяцаў асобнай квадры, за бальшавіцкія тэмпы.

Батрацтва і бядняцтва калгасу дае Вам абяцаньне таксама змагацца за бальшавіцкія тэмпы калектывізацыі вёскі, за поўнае выкананьне рашэньняў XVI партзьезду аб пабудове сацыялістычных фабрык сельскай гаспадаркі. Мы ўпэўнены, што вы ў гэтай буйнай задачы нам дапаможаце тым, што будзеце нас вучыць, як працаваць, і тым, што самі будзеце працаваць ударнымі тэмпамі, зьнішчыце брак, прагулы і рвацтва.

> Мы, з свайго боку, таксама абяцаем змагацца за гэтае.
>
> Становішча нашага калгасу здавальняючае. Жыта зьвезена і абмалочана. Зьвезены таксама пшаніца, авёс і ячмень. Бульба ўжо закопана. Была пагроза з ільном, але і ён абмалочаны і здан.
>
> Увесь хлеб здан дзяржаве.
>
> З таварыскім прывітаньнем ад імя батрацтва і бядняцтва калгасу.
>
> **5 подпісаў.**

У даным выпадку батрацтва і беднята калгасу „Віцебскі пралетары“ зусім беспадстаўна і без усялякай палітычнай мэтазгоднасьці ігнаруе калгасьніка-серадняка, які разам з беднатой вядзе барацьбу за выкананьне гаспадарчых задач калгасу. Рапарт падшэфнаму заводу зусім не абавязвае і калгасьніка-серадняка выканаць з перавышэньнем заданьне і працаваць ударнымі тэмпамі.

Гэты факт сьведчыць аб тым, што партыйныя організацыі павінны глыбока вывучаць становішча ў калгасах і пры організацыі груп беднаты прымаць пад увагу ўсю суму пытаньняў, паказаных у пастанове бюро ЦК КП(б)Б, і ўлічваць тое, што групы беднаты ў с/гаспадарчых арцелях ствараюцца „ў асобных выпадках; калі маецца кулацкі ўплыў у калгасе, засьмечаньне калгасу чужымі элемэнтамі, неабходна і ў падобных сельскагаспадарчых арцелях організоўваць групы беднаты для ўзмацненьня і аздараўленьня калгасу“ (з перадавога артыкулу „Праўды“ ад 15 сьнежня).

* * *

Адна заўвага аб сходах беднаты. На прыкладах сходаў беднаты ў часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі гэтага году мы пераканаліся, што парт'ячэйкі няправільна організуюць работу сходаў беднаты.

Не застанаўліваючыся на тым, што сталага вучоту беднаты парт'ячэйкі ня маюць, трэба адзначыць, што ў пытаньнях вызначэньня груп беднаты няма яснасьці. Зразумела, што да вызначэньня соцыяльных груповак трэба аднесьціся зусім сур'ёзна і нельга даць рацэпту для ўсіх часоў і месц. Яшчэ 11 Конгрэс Камінтэрну ў сваіх тэзісах па аграрнаму пытаньню вызначае па наступных адзнаках батрацтва і бяднейшае сялянства:

> Працоўныя і эксплёатуемыя масы ў вёсцы, якіх павінны павесьці на барацьбу, ва ўсякім выпадку прыцягнуць на свой бок гарадзкі пралетарыят, прадстаўлены ва ўсіх капіталістычных краінах наступнымі групамі:
>
> Па-першае, сельска-гаспадарчым пралетарыятам, наёмнымі рабочымі (гадавымі, тэрміновымі і падзённымі), якія адшукваюць сабе сродкі да жыцьця, работаючы па найму ў капіталістычных сельска-гаспадарчых і зьвязаных з імі прамысловых прадпрыемствах.
>
> Па-другое, паўпралетарыямі, або паарцельнымі сялянамі, гэта ёсьць тымі, якія адшукваюць сабе сродкі да жыцьця часткова наёмнаю працаю ў сельска-гаспадарчых і прамысловых капіталістычных прадпрыемствах, часткова—працуючы на ўласным ці арэндуемым кусочку зямлі, які дае некатораю долю прадуктаў харчаваньня, неабходных для яго сям'і.
>
> У некаторых краінах няма строгай грані між першай і другой групамі. Вось таму дапусьціма, пры асобных умовах, іх сумесная організацыя“.
>
> (II Кангрэс Камінтэрну. Стэнаграма справаздачы. Рэзалюцыі па аграрнаму пытаньню).
>
> Выданьне Камінтэрну 1926 г. стар. 680.

У практыцы работы ў нашых умовах Савецкага Саюзу мы да беднаты прылічваем усіх тых, хто аслабанён па сваёй маламоцнасьці ад с/гаспадарчага падатку. Пры нашай сыстэме с/г падатку такое вызначэньне можна у асноўным лічыць правільным. Але-ж на мясцох гэта не задавальняе парт. ячэйку. Пачынаецца штучнае і беспадстаўнае павялічэньне колькасьці беднаты, асабліва ў тых сельсаветах, дзе мала беднаты. У адным месцы прылічваюцца да беднаты тыя сяляне, якія плоцяць с/г падатак да 2 руб., у другіх мясцох да 5 руб. і г. д. Ці правільна такое павялічэньне беднаты, якое дыктуецца толькі жаданьнем мець „салідныя“ сходы беднаты. Нам думаецца, што аднясеньне да беднаты часткі серадняцтва рэзка павысіць процант беднаты, што не адпавядае сапраўднасьці. Акрамя таго, такое пашырэньне апоры партыі на вёсцы зьяўляецца палітычна шкодным і панізіць якасьць работы з беднатой. Пры такой пастаноўцы пытаньня работа з беднатой для ўзмацненьня саюзу з серадняцтвам і барацьбы з кулацтвам

будзе губляць свой зьмест і створыць пагрозу паслабленьня клясавага выхаваньня беднаты. Партарганізацыі, вядучы асобную работу з беднатой (сходы, конфэрэнцыі і г. д.), не павінны адпіхваць серадняка.

Некалькі слоў адносна падрыхтоўкі і абслугоўваньня сходаў беднаты. Зусім ясна, што работай з беднатой кіруюць парт. ячэйкі. На справе гэта і праводзіцца. На сходах беднаты кіраўніцтва сходам ажыцьцяўляецца ўпаўнаважаным ячэйкі. Але падрыхтоўваюць і склікаюць сходы сельсаветы. Мы мелі магчымасьць чытаць афіцыйнае распараджэньне сельсавету, які прапануе члену с/с склікаць сход беднаты. Член с/с (паміж іншым, моцны серадняк) ідзе загадваць і з сабой прыводзіць беднату на сход. На сходзе зьяўляецца ўпаўнаважаны ячэйкі і ад імя парт'ячэйкі праводзіць сход.

Зусім зразумела, што такі парадак падрыхтоўкі і скліканьня сходаў беднаты зьяуляецца няправільным.

Ячэйка павінна даручыць усю работу, і па скліканьню і па правядзенью сходаў беднаты, членам партыі і ні ў якім разе не карыстацца адміністрацыйнымі магчымасьцямі с/савету. Бедната павінна адчуваць, што з ёю працуе асобна парт'-ячэйка. Другі парадак скліканьня сходаў ператварае сходы беднаты ў агульныя сходы і змазвае ролю парт. ячэйкі

* * *

У сваім артыкуле мы закранулі частку работы з беднатой, разьлічваючы на тое, што таварышы падзеляцца сваім вопытам работы і дапамогуць унесьці большую яснасьць у пытаньні практычнай работы з беднатой.

**Ад рэдакцыі**

Артыкул друкуецца ў парадку абгаварэньня.



# НА МЯСЦОХ

А. Каран

## Правы опортунізм—прычына прарываў у Гарадокскай парторганізацыі

Абсьледваньне Гарадокскай парторганізацыі, пад пунктам погляду пастаноўкі парткіраўніцтва гаспадарчым і палітычным жыцьцём раёну, паказала, што прычынай прарываў у асноўных галінах работы організацыі зьяўляецца налічча правага ўхілу ў практычнай рабоце паасобных ячэек і камуністых савецкага і каапэрацыйнага апаратаў, а таксама іншых арганізацый раёну.

Фракцыя Р. В. К. пры абгаварэньні пляну асеньняй сяўбы шмат увагі зьвярнула на „прапрацоўку“, каб даказаць яго нерэальнасьць, пераўвялічэньне. Яшчэ на апошнім пленуме РК КП(б)Б 20/XI г. г. былі прапановы, каб запісаць у рэзолюцыі пленуму, „адзначыўшы нерэальнасьць пасеўнага пляну Н.К.З.“ У выніку гэтых „абгаварэньняў“ Р.В.К. прымае свой паменшаны плян севу і яго правядзеньне. І зусім зразумела, што пры такой права-опортуністычнай рабоце Р.В.К. мы маем недасеў азімых па Гарадокскаму раёну на 29 проц. пляну Н.К.З. Тое самае здараецца і пры правядзеньні работы па сіласаваньню. Р.В.К. „прапрацоўвае“ плян Н.К.З, скарочвае яго, як „непасільны“, з 12 тысяч тон на 3 тысячы тон. З ворывам пад зяб яшчэ горш. Гэты плян Р.В.К. ня толькі не абгаварвае, але-ж нічога ня робіць, каб выканаць дырэктывы партыі ў гэтай важнай рабоце.

Прарывы ў гаспадарча-палітычнай рабоце Гарадокскага раёну пачаліся яшчэ з уборачнай кампаніі. Па афіцыйных справаздачах складаецца ўражаньне пасьпяховага правядзеньня ўборачнай кампаніі, а на справе і тут прарыў. У шмат якіх калгасах засталося пад сьнегам сена (калгас „Ленінскі шлях“ і інш.); аўсы, ячмяні ў некаторых калгасах таксама часткова засталіся няскошанымі альбо ў копах пад сьнегам. Жыта ў большасьці калгасаў прарасло. Уборка ільну зусім правалена: да паловы ўраджаю ільну ў калгасах засталося пад сьнегам.

Партыйнае кіраўніцтва раёну ўсе гэтыя прарывы праглядзела і ня ўдарыла належным чынам па правым ухіле. Пры абгаварэньні мерапрыемстваў РВК па асеньняй сяўбе ў райкоме афіцыйна прымаецца плян НКЗ і адначасова не адмаўляецца скарочаны плян РВК. Былі распаўсюджаны ў організацыі размовы аб пераўвялічэньні пляну севу НКЗ. Гэтыя размовы дэмобілізоўвалі ўвагу парт. організацый да гэтай важнейшай работы. Цэнтральны камітэт КП(б)Б вынес дзьве вымовы і вымову строгую з папярэджаньнем РК і фракцыі РВК, папярэдзіўшы парт. кіраўніцтва раёну аб неабходнасьці пераключыцца ў рабоце на бальшавіцкія тэмпы, мобілізаваць увагу парт. організацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці на ліквідацыю прарываў па гаспадарчай і палітычнай рабоце ў раёне. Гэты сыгнал ЦК аказаўся недастатковым для кіраўніцтва і не дапамог знайсьці галоўную прычыну прарываў, правы опортунізм, каб павесьці рашучую барацьбу з ім.

Толькі калі праваліліся нарыхтоўкі па раёну (на 20 лістапада г. г. выканан плян па зярну на 73 проц., бульбе 27 проц., ільну-валакна 2,8 проц. і мобілізацыі сродкаў 43 проц.), Бюро РК склікае пленум РК КП(б)Б, РайКК і РК КСМБ, дзе ставяцца пытаньні аб прарывах у гаспадарчай і палітычнай рабоце ў раёне.

У пастановах пленуму РК і РайКК, у асноўным правільных, ёсьць шэраг недасканальнасьцяй, і паасобныя пункты няправільна орыентуюць організацыю на тое, што быццам ня **было часу займацца правым ухілам, бо трэба было**

**выпраўляць вялікія „левыя“ загібы, дапушчаныя пры суцэльнай калектывізацы (2 і 5 пункт рашэньня пленуму РК),** вось мы і білі на іх. Пленумы РК і РКК чотка ня ставілі лёзунгу партыі аб барацьбе на два фронты, з перанясеньнем галоўнага агню на правы ўхіл, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе. У рашэньні пленуму РК не асудзіў стаўку на самацёк з боку фракцыі райвыканкому, сельсаветаў і ячэек у нарыхтоўках. Гэтыя організацыі вялі загатоўкі „колькі, хто дасьць“, не даводзячы пляны да асобных вёсак, і праявілі грубейшы правы опортунізм, не давёўшы цьвёрдых заданьняў да кулака і заможніка. Толькі ў пачатку сьнежня м-ца пачалі даводзіцца заданьні да кулака і заможніка, і то частка сельсаветаў вызначыла па 10 пуд. зерня, па пуду ільну, 30 пуд. бульбы кулаком, якія маюць па 15 га зямлі.

Работа па колектывізацыі ў Гарадокскай арганізацыі не займала цэнтральнага месца ўва ўсёй гаспадарча-політычнай рабоце, ня гледзячы на дырэктывы партыі і на тое, што раён калектывізаваны толькі на 7 проц. Гэта работа ня ўвязвалася з правадзімымі гаспадарча-політычнымі кампаніямі, у выніку гэтага мы маем шэраг выпадкаў разлажэньня калгасаў і зусім кепскае гаспадарча-палітычнае становішча большасьці калгасаў раёну. Напрыклад, у калгасе „Ленінскі Шлях“ разьвялося пагалоўнае п'янства на чале з былым старшынёю, камуністым Лядзенка, адсутнасьць працдысцыпліны; згніла канюшына, жыта на полі, 50 проц. сена засталося пад сьнегам, разбазарана кулацкая маёмасьць (8 кулацкіх кароў прапілі); у камуне Сталіна п'янства, разлажэньне, камунары п'яные парэзалі нажамі адзінаасобнікаў, больш паловы ільну засталося пад сьнегам, камунары сябры партыі на сходзе прапануюць з камуны організаваць хутары і г. д.

З прычыны такога становішча у большасьці калгасаў прыліў вельмі слабы (з пачатку асеньняй сяўбы прынята толькі 117 гаспадарак). Зусім зразумела, што такія адносіны да калгаснага руху з боку фракцыі Р. В. К., калгассаюзу, с/савету, ячэек КП(б)Б зьяўляюцца грубейшай праявай правага ўхілу на практыцы. Несваячасовае рэагаваньне з боку РК КП(б)Б ня чым іншым ня тлумачыцца як прымірэнцтвам да правага ўхілу,

Слаба разгорнутая самакрытыка не змагла мобілізаваць партыйную організацыю і ўсю савецкую грамадзкасьць раёну на барацьбу з правым опортунізмам і прарывамі ў рабоце Гарадокскага раёну. Нявытрыманасьць, нэрвознасьць парткіраўніцтва, пры крытыцы недахопаў, не складала належных умоў для разгортваньня самакрытыкі ў парт. организацыі і сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

Слабая пастаноўка палітвыхаваўчай работы па мобілізацыі мас вакол выкананьня асноўных задач партыі па соцыялістычнаму будаўніцтву на вёсцы, асноўныя рашэньні партыі не прапрацоўваюцца сярод батрацтва, калгасьнікаў і беднаты і на серадняцкіх сходах. Работа з батрацтвам і беднатою пастаўлена слаба. Райком ня ведае, што робяць у гэтай галіне ячэйкі, і слаба ім дапамагае.

Работа сярод жанчын зусім слабая. Да гэтага часу не перавыбраны дэлегацкія сходы. Зусім слабае кіраўніцтва РК працай парт'ячэек і ў практычнай дапамозе ў іх рабоце, калі ня ўлічыць „папяровага“. Таму частка ячэек працуе бяз пляну і ня ведаючы, як пачаць тую ці іншую працу. Мае месца разлажэньне паасобных ячэек. Партдысцыпліна ў організацыі зусім слабая. Сябры і кандыдаты партыі лічаць зусім звычайным выяжджаць з організацыі бяз ведама і дазволу з боку ячэек і райкому. Паасобныя таварышы з партактыву, пасланыя на вёску па правядзеньню гаспадарча-політычнай кампаніі, лічаць магчымым ня ехаць, а калі і паедуць, дык праз дватры дні варочаюцца назад.

РК КП(б)Б да апошняга часу належных захадаў да ўзьняцьця партдысцыпліны ня прымаў.

Трэба было-б зараз-жа мобілізаваць усю ўвагу організацыі на перамогу гэтых прарываў і правалаў і ўдарыць па праваму ўхілу. Але гэтага ня было. Кіраўніцтва раёну гэтага ня робіць.

Пленум райкому партыі ад 20/XI-30 г. прымае правільныя і поўнасьцю заслужаныя парт. спагнаньні, вынесеныя сэкратарыятам ЦК КП(б)Б, кіраўніцтву РК і фракцыі РВК. А далей замазвае сэнс пастановы сэкратарыяту ЦК: „Прымаючы пад увагу, што асабістая адказнасьць з таварыша Райсіна як сэкратара РК і сябра фракцыі РВК за дапушчаныя прарывы ня зьнімаецца, але ўлічваючы яго работу ў організацыі і цьвёрдыя рашучыя мерапрыемствы, якія ён праводзіў па выкананьню плянаў гаспадарча-палітычных кампаній, прасіць ЦК пункт пастановы ЦК ад 11/XI г. г. аб сэкратару РК тав. Райсіне перагледзець". (За—16, супроць—14).

Умяшацельства ЦК КП(б)Б папярэдзіла організацыю, у асноўным здаровую і моцную па колькасьці (да 400 чалавек членаў і кандыдатаў партыі), ад далейшага загніваньня ў права-опортуністычным балоце і, бязумоўна, аслабаніла яе ад такога кіраўніцтва, якое замазвала правы ўхіл, якое праваліла ўсе гаспадарча-палітычныя кампаніі ў Гарадокскім раёне.



Гарбуноў і Салдаценка

# Вопыт работы ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій

## Адзінаасобнік агітуе за калгас

**„Цяпер ужо ня мы адны, кваліфікаваныя бальшавікі, а самі сяляне з калгасаў, дзесяткі тысяч сялян, арганізатараў і агітатараў калгаснай справы, будуць несьці наперад сьцяг калектывізацыі“**

**Сталін**

Практыка арганізацыі і работы вярбовачных камісій і асабліва ініцыятыўных груп у арганізацыі калгасаў зьяўляецца надзвычайна цікавай і важнай. Яна набывае зараз, у сувязі з дырэктывай партыі аб калектывізацыі 45 процантаў усіх сялянскіх двароў у БССР на працягу трэцяга году пяцігодкі, асаблівае значэньне.

Ініцыятыўныя групы робяцца апорнымі пунктамі суцэльнай калектывізацыі.

Аб гэтым сьведчаць вынікі работы вярбовачных камісій і ініцыятыўных груп, створаных у шэрагу раёнаў БССР.

Такія формы работы за калектывізацыю, як арганізацыя ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій, пачынаюць прымаць шырокі масавы размах. Па вестках з 55 раёнаў, арганізавана 488 ініцыятыўных груп і 473 вярбовачныя камісіі. Па Асіпавіцкім раёне, напрыклад, арганізавана 27 ініцыятыўных груп, па Глускім—17, па Жлобінскім—9, па Ўваравіцкім—18, па Хойніцкім—12, па Рэчыцкім—10 і інш.

Вярбовачныя камісіі, як правіла, арганізуюцца з калгаснага актыву, з найбольш аўтарытэтных калгасьнікаў, якія аказваюць уплыў на адзінаасобнікаў. Вярбоўшчыкі ставяць сваёй задачай—растлумачваньне посьпехаў і дасягненьняў калгасаў, пастаноў 16 партзьезду па пытаньнях калектывізацыі, ільгот калгасу і статуту.

Вялікі вопыт у арганізацыі і рабоце ініцыятыўных груп мае Малевіцкая партыйная ячэйка (Жлобінскі раён).

У часе бальшавіцкай сяўбы створаныя ячэйкай дзьве групы вярбоўшчыкаў дабіліся арганізацыі двух ініцыятыўных груп: у вёсках—Заводная і Карма.

Пад уплывам посьпеху калгасу ў праўдзеньні сяўбы ініцыятыўная група вёскі Заводная перарасла ў калгас. Усе адзінаасобнікі, арганізаваныя ў ініцыятыўную групу, выехалі на асеньнюю сяўбу калектыўна. Да іх далучылася яшчэ 18 гаспадарак. У выніку калектыўнай вытворчай працы вырас новы калгас.

Асаблівую цікавасьць набывае практыка ініцыятыўнай групы вёскі Карма. Пасьля растлумачэньня пастаноў 16 зьезду ЎсеКП(б) і 13 зьезду КП(б)Б, пад уплывам калгасьнікаў калгасу „Чырвоны партызан“, ініцыятыўная група ў ліку 6 гаспадарак была прыцягнута да працы ў калгас па ўборцы ўраджаю. Адзінаасобнікі, працуючы ў калгасе, азнаёміліся з яго работай, з дасягненьнямі і недахопамі. Ударная работа калгасьнікаў захапіла гэтых адзінаасобнікаў. Яны дапамагалі ліквідаваць прарывы ў калгасе і выжыць маючыяся недахопы.

Гэтыя адзінаасобнікі, папрацаваўшы ў калгасе, яшчэ больш пераканаліся ў перавагах калектыўнай гаспадаркі. Яны ўбачылі, што калгасьнікі маюць прыбытак ў два разы больш адзінаасобніка. Пасьля звароту з калгасу адзінаасобнікі расказалі сваім аднавяскоўцам-кармянцам пра посьпехі і барацьбу калгасьнікаў.

Учарашнія адзінаасобнікі, такім чынам, сталі арганізатарамі і агітатарамі калгаснага руху. Яны разьбілі кулацкую агітацыю аб „гультаёх“, аб „пайку“ і інш.

Вынікі аказаліся бліскучымі. У часе ворыва на зяблева ініцыятыўная група вёскі Карма арганізавалася ў калгас. Новыя калгасьнікі вышлі на ворыва зяблева ў адну баразну.

І так у Малевіцкім сельсавеце дзьве ініцыятыўныя групы, якія былі арганізаваны вярбоўшчыкамі калгасу „Чырвоны партызан“, перарасьлі ў калгасы. Два новыя калгасы вырасьлі па ініцыятыве саміх калгасьнікаў і адзінаасобнікаў. Гэтыя новыя калгасы, у сваю чаргу, вылучылі ўжо сваіх вярбоўжчыкаў, якія разам з калгасьнікамі „Чырвонага партызану“, пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі, упарта змагаюцца за калгасны прыліў, за калектывізацыю ўсіх вёсак Малевіцкага сельсавету.

Усё гэта зьяўляецца вынікам упартай работы малевіцкіх бальшавікоў. Партыйная ячэйка здолела злучыць выкананьне гаспадарчых задач з арганізацыяй новага калгаснага прыліву. Яна стала на чале калгаснага руху.

Аналёгічная работа па стварэньні ініцыятыўных груп праведзена вярбоўшчыкамі калгасу „Рухавік“ (Пянчынскі сельсавет, Уваравіцкі раён). Пад кіраўніцтвам вопытнага рулявога, 25-тысячніка, таварыша Протчанкі (старшыня калгасу „Рухавік“) вярбовачныя групы растлумачылі адзінаасобнікам вынікі работы, парадак разьмеркаваньня ўраджаю і прыбытку ў калгасе. У пасёлках „Зара“ і „Чырвоны сьвет“ (дзе яшчэ ўлетку з выхадцаў былі створаны ініцыятыўныя групы) вярбоўшчыкі-калгасьнікі правялі сходы адзінаасобнікаў. На сходах яны растлумачылі сваю арытмэтыку, расказалі пра вынікі работы калгасу. Калгасьнікі давялі адзінаасобнікам, што яны на 68 калгасных двароў маюць 103 тыс. руб валавога прыбытку (гэта больш паўтары тысячы рублёў на кожную калгасную гаспадарку!) Аказалася, што прыбытак адзінаасобніка гэтай мясцовасьці ў тры разы меншы,чым прыбытак калгасьніка. Адзінаасобнікі пераканаліся, што калгасьнікі забясьпечаны ў выстарчальнай колькасьці хлебам, бульбай і іншымі прадуктамі да новага ўраджаю.

Свой плян па збожжазагатоўках калгасьнікі перавыканалі: па жыце—на 150 процантаў, па аўсу—на 350 проц., па ільну—на 160 проц. Сотні тон бульбы застаўлена калгасам для адкорму сьвіней.

У выніку многія адзінаасобнікі пачалі арганізоўваць ініцыятыўныя групы. Групы расьлі.

Ужо ў дні сьвяткаваньня 13-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі яны перарасьлі ў калгасы. У калгасы цалкам уступілі пасёлкі „Зара“ і „Чырвоны сьвет“. На зяблевае ворыва яны ўжо аралі ў адну баразну.

На гэтым новыя калгасьнікі ня спыніліся. Яны разам з адзінаасобнікамі, новымі вярбоўшчыкамі калгасу „Рухавік“, пад кіраўніцтвам 25-тысячніка таварыша Протчанкі, уключыліся ў барацьбу за новага калгасьніка, вядучы ўпартую барацьбу з кулакамі.

Асабліва праявілі сябе ў барацьбе за калгас адзінаасобнікі таварышы: Цуранкоў К. А., браты Максіменкі, Кунязелеў і інш.

Яны зрабілі абход адзінаасобных двароў, дабіліся ўступленьня 15 гаспадарак у калгас. Вядзецца работа па падрыхтоўцы ўсяго Пянчынскага сельсавету да суцэльнай калектывізацыі на працягу 3-га году пяцігодкі.

Такую ж практыку ўжывалі і члены калгасу імя Энгельса, якія, пад кіраўніцтвам партыйнай калгаснай ячэйкі, ператварылі ініцыятыўныя групы ў новыя калгасы.

Паасобныя калгасьнікі-актывістыя з вярбоўшчыкаў запрашаюць да сябе „на гарбату“ адзінаасобнікаў. За „гарбатай“ у прыяцельскай гутарцы расказваюць „па душах“ пра жыцьцё калгасу.

* * *

## Парт'ячэйка—штаб калгаснага руху

> **„Упяршыню пасьля стагодзьдзяў працы на чужых, падняволенае працы на эксплёататараў зьяўляецца мажлівасьць работы на сябе і пры тым работы, якая апіраецца на ўсе заваёвы тэхнікі і культуры...**
> **... Арганізацыйных талентаў у сялянства і рабочай клясы шмат. І гэтыя таленты толькі-толькі пачынаюць уяўляць сябе, прачынаюцца, цягнуцца да жывое, творчае. вялікае працы, брацца самастойна за будаўніцтва сацыялістычнай грамады“.**
>
> **Ленін**

Майская парт'ячэйка, Жлобінскага раёну, арганізавала ініцыятыўныя групы ў вёсках Малыя Казловічы, Майскае, Антонаўка, Дзяніскавічы 1-я і Дзяніскавічы 2-я. Ініцыятыўнымі групамі ахоплена звыш 40 гаспадарак адзінаасобнікаў.

Гэтыя будучыя калгасьнікі актыўна працавалі ў калгасе „Расьсьвет-Переможца“ на ўборцы бульбы і на малацьбе. Адна ініцыятыўная група з вёскі Дзяніскавічы, у ліку 7 адзінаасобнікаў, падала заяву аб прыёме іх у калгас.

— Не магу дачакацца, пакуль уся вёска пойдзе,—так заявіў адзін адзінаасобнік з гэтай групы. У сваёй заяве яны так і пішуць:

**„Прымеце нас у калгас... Мы хочам разам з вамі будаваць сацыялізм. Мы хочам уключыцца ў сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Мы дапаможам выканаць пяцігодку ў чатыры гады..“**

Калгасьнікі „Паросткі сацыялізму“ арганізавалі вярбовачныя камісіі, пайшлі па вёсках Падлескага сельсавету з справаздачай калгасу. У вёсцы Падлесьсе яны арганізавалі ініцыятыўную групу, якая разраслася да 32 гаспадароў. На сёньняшні дзень гэтыя 32 адзінаасобнікі ўступілі ў калгас „Паростак сацыялізму“.

Дзякуючы разгорнутай рабоце ў Азярышчанскім сельсавеце арганізаваўся новы калгас імя тав. Варашылава.

Беднякі-адзіналічнікі, арганізаваўшы ініцыятыўную групу, пад кіраўніцтвам камітэту ўзаемадапамогі, абвясьцілі сябе ўдарнікамі. Яны арганізавалі ўдарную брыгаду, засеялі і ўбралі хлеб з былой кулацкай зямлі. Ад платы за работу яны адмовіліся.

Кулакі прымалі самыя рашучыя меры, каб разагнаць гэтую групу з 26 беднякоў. Былі ўжыты ўсе сродкі барацьбы: пагрозы, патрава, гарэлка і нават подкуп асобных беднякоў. Але ініцыятыўная група трымалася стойка. Асабліва праявіў сябе бядняк, старэйшы брыгадзір, таварыш Коршак Кастусь. Дзякуючы яго энэргіі і энтузіязму ініцыятыўная група не распалася. Цікава адзначыць, што гэта група арганізавала чырвоны абоз і здала ўсе свае лішкі хлеба дзяржаве.

Асобныя калгасы Жлобіншчыны маюць вялікую практыку па арганізацыі новага калгаснага прыліву. Яны арганізуюць групы вярбоўшчыкаў. Апошнія ствараюць ініцыятыўныя групы, якія ў сваю чаргу перарастаюць у калгасы.

Яшчэ месяц назад „Зьвязда“ паведамляла аб ганебным зьявішчы ў калгасе „Чырвоны баец“, які адгарадзіўся ад адзінаасобнікаў і нават адмаўляўся ад прыёму адзінаасобнікаў у калгас. І ўсё гэта рабілася на вачох Мормальскай партыйнай ячэйкі.

З арганізацыяй груп вярбоўшчыкаў з калгасьнікаў, на чале з мормальскімі камуністымі, якія, урэшце, сталі на чале калгаснага руху, справа карэнным чынам зьмянілася. На працягу апошняга тыдню амаль увесь хутар „Работка“ ўліўся ў калгас „Чырвоны баец“ (уступіла 12 гаспадарак). Акрамя таго, у калгас „Чырвоны Кастрычнік“ уступіла 7 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У чым сакрэт такога посьпеху? Справа ў тым, што са зьяўленьнем сыгналаў „Зьвязды“ мормальскія камуністыя, пад кіраўніцтвам „25-тысячніка“ тав. Галавачэнка сакратара ячэйкі—тав. Ягорчанка, пабальшавіцку прызналі свае памылкі і пачалі іх энэргічна выпраўляць.

Ячэйка стала на чале калгаснага прыліву, павярнулася да яго тварам.

На дасягнутых посьпехах ячэйка ня спыняецца. Гэтымі днямі вярбоўшчыкі калгасаў „Чырвоны баец“ і „Чырвоны Кастрычнік“ у вёсцы Істопкі, Мормальскага сельсавету, арганізавалі новую ініцыятыўную групу, у якую ўступіла 9 гаспадарак. Зараз праводзіцца работа па арганізацыі калгасаў у гэтай вёсцы.

Такім чынам, мормальская парт'ячэйка зараз б'ецца за арганізацыю новага калгаснага прыліву, паказваючы прыклад другім парт'ячэйкам, як трэба змагацца за калектывізацыю.

Сотні ініцыятыўных груп, пад уплывам посьпехаў перадавых калгасаў, перарасьлі ў калгасы. Зусім бясспрэчна роля ячэек КП (б) Б, як баявых штабаў калгаснага прыліву.

Там, дзе парт'ячэйкі сталі на чале калгаснага прыліву, арганізавалі папулярызацыю посьпехаў калгасаў, ствараюцца шматлікія ініцыятыўныя групы, новыя калгасы. Там жа, дзе парт'ячэйкі стаяць у баку, праяўляюць апартуністычную бязьдзейнасьць, там адчуваецца ўплыў кулака, які імкнецца затрымаць калектывізацыю. У такіх мясцох ініцыятыва мас праходзіць праз галовы партыйных ячэек. Групы вярбоўшчыкаў і ініцыятыўныя групы арганізуюцца там без кіраўніцтва

парт'ячэек. К прыкладу, можна прывесьці Чабатовіцкую ячэйку, Буда-Кашалеўскую і інш.

Ініцыятыўныя групы і вярбовачныя камісіі, як форма організацыі калгаснага прыліву, цалкам сябе апраўдалі. Гэту ініцыятыву калгасьнікаў і лепшых адзінаасобнікаў, беднякоў і серадзякоў, трэба ўсямерна падтрымаць. Па тых паасобных партарганізацыях, якія ігнаруюць гэты магутны рух, праяўляючы прававапартуністычную недаацэнку значэньня работы ў галіне арганізацыі калгаснага прыліву, і адну з лепшых форм гэтай работы—ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій, трэба ўдарыць самым рашучым чынам.

Трэба адзначыць, што наш друк зусім недастаткова асьвятляе работу ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій, ён ня ўзяў пад штодзённы кантроль гэту форму калгаснага руху.

Мы знойдзем спробы асобных сельсаветаў назначэньня ініцыятыўных груп, але яны не атрымліваюць на старонках друку адпору, як парушэньня асноўных прынцыпаў калгаснага будаўніцтва. Ініцыятыўныя групы часта застаюцца без належнага кіраўніцтва і падтрыманьня з боку сельсаветаў і нізавых парт'ячэек.

Трэба проста сказаць, што гэтай форме калгаснага руху не аддаецца досыць увагі. Між іншым з прыведзеных вышэй прыкладаў можна бачыць, што ініцыятыўныя групы ломяць сьцены ва ўзаемаадносінах калгасьнікаў з адзінаасобнікамі, а гэта вельмі важная ўмова калектывізацыі.



**Ф. Хмара**

# Дрэнны вопыт

*(з матар'ялаў брыгады Культпропу ЦК КП(б)Б па Шклоўскаму раёну)*

## Сетка партыйнай асьветы

Хуткія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва і разгурнутае наступленьне на клясавага ворага па усяму фронту выклікаюць яго шалёнае супраціўленьне. Вораг выкарыстоўвае ўсе магчымасьці для зрыву нашай работы. У сваёй барацьбе ён намацвае нашы слабыя месцы і імі карыстаецца часам не бяз посьпеху.

Адным з слабых месц у нашай рабоце зьяўляецца адсутнасьць дастатковай палітычнай падрыхтоўкі партыйных і беспартыйных кадраў.

Партыя зараз жорстка ставіць пытаньне аб палітычным узброеньні кадраў сацыялістычнага будаўніцтва, і ўсе апошнія рашэньні партыі менавіта і падкрэсьліваюць неабходнасьць партыйнай вучобы.

У гэтым годзе вясной, на нарадзе па партасьвеце пры ЦК УсеКП, і ўлетку, на нарадзе пры ЦК КП(б)Б, вынесьлі рашэньне аб організацыі сеткі партвучобы на новых больш гнуткіх асновах, каб мець магчымасьць ахапіць найбольшую частку членаў партыі і беспартыйнага актыву. Разьвіцьцё сеткі завочных вучэбных устаноў павінна было забясьпечыць ахоп тых таварышоў, работа якіх зьвязана з выездамі.

Карацей кажучы, сетка партыйнай асьветы гэтага году павінна была даць больш значны эфэкт, чым у мінулыя гады.

Што-ж мы маем на справе? Возьмем, напрыклад, Шклоўскі раён. За ўвесь час, з пачатку разгортваньня сеткі, бюро райкому прыняла адно рашэньне (24-IX) па пытаньню партвучобы і на гэтым заспакоілася. Некалькі пазьней (4-XI) пасланы цыркуляр па ячэйках з патрабаваньнем даслаць весткі аб ліку закамплектаваных. Гэтым бюро райкому абмежавалася. 21-XI, у дзень прыезду брыгады (праз паўтары месяцы пасьля пачатку вучобы), на нарадзе сэкратароў ячэек, паміж усімі пытаньнямі, караценька было сказана аб неабходнасьці разгортваньня вучобы.

Рашэньне бюро партыйнага камітэту ні ў воднай ячэйцы не мабілізавала дастатковай увагі партыйцаў і беспартыйных мас на партвучобу ў асобных ячэйках. Пастанова была падшыта да справы. На фабрыцы „Спартак“ пастанова бюро парткалектыву аб разгортваньні сеткі (на падставе пастановы Бюро РК) абгаварвалася на нарадзе сэктароў вучобы, а ў цэхах гэта пытаньне пастаўлена ў бягучых справах.

У выніку да гэтага часу вучоба не распачата, за выключэньнем асобных ячэек (ф-ка „Спартак“ с.-с. Гарадзішча). Прычым тут вучоба пачалася самацёкам, без адпаведных паказаньняў, з чаго і як пачаць. Камплектаваньне праведзена надзвычайна дрэнна, аб чым можна мяркаваць па наступных фактах: ф-ка „Спартак“—рабочых 600 чалавек, закамплектавана 93 чал., з іх беспартыйных толькі 33 чалавекі; савпартшколу наведваюць 20 проц.

Пастанова партыі аб большым уцягваньні беспартыйных у сетку партыйнай асьветы, спартакаўцамі ня выканана.

Калі запытаеш, чым гэта тлумачыць, прапагандысты адказвае:

„Перашкодзілі вытворчыя манэўры, а потым быў пасланы ў раён“.

Школа на „Спартаку“ да гэтага часу ня мае дакладнай установкі, што прапрацоўваць, ня гледзячы на тое, што матар'ялы культпропаў ЦК і Дому камасьветы ёсьць... у кішэні заг. партгабінэту. Выкладчыкаў па агульна-адукацыйных прадметах таксама няма. На

ф-цы ёсьць вызвалены прапагандыст, які вядзе ўсю працу па прапагандзе, ён жа і выкладчык у савпартшколе. Гэты таварыш сам прызнаецца, што вучні ад яго разьбягуцца, бо ён ня мае часу для падрыхтоўкі. Прыходзіць у школу не падрыхтаваны, чытае па кніжцы і тут жа разьбірае. Натуральна, што пры такой „прапагандзе“ мы палітычна масу ня ўзброім.

У сельскай ячэйцы (Гарадзішча) камплектаваньне дало досыць добры склад, колькасны і якасны (адносна вядома), аднак вучоба хоць і пачалася, але ўжо было два зрывы. Выкладчык, ён-жа і сакратар, хатнік, рэдактар сьценгазэты (якія не працуюць) і яшчэ і яшчэ нязьлічана абавязкаў, чалавек нэрвовы да крайнасьці, разводзіць рукамі:

— Ня ведаю, з чаго пачаць і як пачаць.

У сэкратара Высоцкай ячэйкі дык і зусім галава „закружылася“ ад кампаній, як заявіў ён.

У Новабрашчынскім сельсавеце зусім яшчэ нічога не распачата, а таксама і ў горадзе.

У чым жа прычына?

Па тлумачэньні членаў райкому, справа ў тым, што шэраг ячэек ня здолеў справіцца з кампаніямі, а ў некаторых, дык проста казалі:

— Пачакайце, скончым бульбу, пачнем вучобу.

Бульбу амаль скончылі—вучобы няма; пачалася кампанія па перавыбарах сельсаветаў, па ільну, канаплі і г. д.

А вучоба?

Вучобы як ня было, так і няма.

Трэба сказаць, што з кадрамі ў Шклове справа пастаўлена дрэнна. Мала людзей, але гэта зусім ня значыць, што партвучоба павінна чакаць „лепшых дзён“, калі ня будзе кампаній,—чаго наўрад ці дачакаюцца тыя таварышы, якія па опортуністычнаму зачыняюць вочы ад партвучобы. Ценем сьледуе за імі па пятах бульба і лён, а вучоба ня воўк, у лес не ўцячэ.

Становішча з камсамольскай вучобай стаіць яшчэ горш.

Некалькі слоў аб партгабінэце.

Габінэту няма. Ёсьць шафа, дзе ляжыць літаратура, замкнутая на ключ, ніхто ёю не карыстаецца. Да гэтага часу (ужо 3 месяцы) у бюро РК ніводнага разу ня ставілася пытаньне аб габінэце, а толькі ў прыватных гутарках. Толькі 11-XI памяшканьне далі. Брыгада ЦК выехала 4-XII; габінэт яшчэ зачынен. Падвойныя рамы яшчэ не зашклілі. Работы няма. А з ячэек таварышы прыходзяць за дапамогай. Чыя тут віна, цяжка сказаць, думаецца, што бязумоўна РК недаацэньвае значэньня работы, калі да гэтага часу ня можа прымусіць пачаць працаваць свайго памочніка—партгабінэту. Між іншым ёсьць заг. габінэту, які аплачваецца; мэтад распрацоўкі і кіруючы матар‘ял ляжыць у яго ў кішэні, але калі ён заікнуўся, што трэба матар‘ял надрукаваць і разаслаць па ячэйках, дык заг. аргпропу заўважыў:

— Пачакаем, пакуль што. Выпрацуем сталую сетку, а потым пашлем.

Такім чынам, габінэт ня мог нават дапамагчы блытаючым і няведаючым, з чаго пачынаць, прапагандыстым у той час, як матар‘ял ляжаў у кішэні.

Вось якія справы па партасьвеце ў Шклоўскім раёне.

## Рабселькораўскі рух

Пераходзім да рабселькораўскага руху і насьценгазэт.

Тут справа стаіць ня лепш. Па тых матар‘ялах і гутарках з рабселькорамі ўдалося выявіць, што на рабселькораўскі рух да гэтага часу ня зьвернута належнай увагі. Вясной гэтага году была рабселькораўская канфэрэнцыя—і ўсё. Скліканая на 1-XII канфэрэнцыя ня зьехалася, што, па думцы асобных членаў бюро, залежала ад надвор‘я, у той час як жаночая канфэрэнцыя ўсё-ж-такі сабралася.

Рабселькоры, з якімі ўсё-ж давялося пагутарыць, скардзяцца на тое, што з боку цэнтральных газэт, асабліва „Савецкай Беларусі“ і „Беларускай Вёскі“, няма ніякага кіраўніцтва. Матар‘ялы, якія пасылаюцца, прападаюць. У паштовай скрынцы не адказваюць. Гэтыя нараканьні мелі месца і ў горадзе і на вёсцы.

Насьценгазэты ў большасьці месц не працуюць, выдаюцца яны эпізодычна. На такім прадпрыемстве, як ф-ка „Спартак“, рэдкалегія існуе фармальна, ніхто ня цікавіцца гэтай работай. Насьценгазэты ў калгасах, якія павінны мабілізаваць вакол сябе ўсю масу па выпраўленьні памылак, зусім не працуюць.

## Палітасьветная работа

Можна пачаць з таго, што палітасьветінспэктар за 6 месяцаў сваёй работы на раёне ніводнага разу ня быў. У выніку хаты-чытальні не апалены, не асьветлены і з разьбітымі шыбамі. Работы ў хатах-чытальнях няма ніякай. Яны замкнуты на ключ.

Калі запыталіся ў сэкратара Высоцкай ячэйкі, ці бывае адчынена хата, ён адказаў:

— Амаль ніколі.

— Дзе-ж вы праводзіце работу?

— Дзе прыдзецца.

І сапраўды, работа праходзіць дзе хочаш, але толькі ня ў хаце-чытальні.

Тое ж самае наглядаецца па ўсім раёне. Такое становішча зьяўляецца вынікам адсутнасьці адказнасьці хатнікаў за сваю працу, бо яны адначасова зьяўляюцца і сэкратарамі ячэек. Здавалася-б, што сэкратарства ні ў якім выпадку не павінна было-б зьняць гэтай адказнасьці, але справа ў тым, што гэтай адказнасьці з іх ня пытае ні райвыканком, ні інспэктар. Плянаў работы няма. Чырвоных куткоў таксама няма. Апрача гэтага, трэба сказаць, што і сродкі адпушчаюцца недастатковыя. Хатнікі аплачваюцца ніжэй, чым настаўнікі.

## Бібліотэка

У гарадзкой бібліотэцы ёсьць 1550 кніжак, прычым з усёй колькасьці літаратуры **ўсяго 5 проц. на беларускай мове**.

Ва ўсіх бібліотэках заўважаюцца недахопы нацменаўскай літаратуры.

Цікава, што ў бібліотэцы на ф-цы „Спартак“ у „барахло“ зданы творы: Гогаля, Ан. Франса, Ромэн Роляна, Джэка Лёндана і нават Леніна (Ленін аб Талстым) і шмат каштоўных кніжак.

Бібліотэка пры лясьніцтве хавае такія кніжкі, як Прышчэпаў, Зарэцкі і інш. пэрлы нацдэмакратызму.

Вельмі мала дзіцячай літаратуры.

Так абстаяць справы ў Шклоўскім раёне.



# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б і ЦКК КП(б)Б

## Аб становішчы работы сярод беднаты і далейшых задачах

*(Пастанова ЦК КП(б)Б)*

1. У сувязі з дасягнутымі посьпехамі партыі ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі, сацыяльная база савецкай улады ў вёсцы ўмацавалася і пашырылася. Шырокае разгортваньне калгаснага руху стварыла новую апору савецкай улады ў вёсцы ў асобе калгасьніка.

Гэта, аднак, ні ў якім выпадку не азначае адмаўленьня партыі ад работы з вясковай беднатой, асабліва на дасягнутым у БССР узроўні калектывізацыі, калі пераважная большасьць сялянскіх гаспадарак усё яшчэ застаецца адзінаасобнымі гаспадаркамі. Гутаркі аб адмаўленьні партыі ад работы з беднатой і ад апоры на беднату ёсьць гутаркі яўна-опортуністычныя і патрабуюць рашучага асуджэньня. Недаацэнка і пасыўнасьць у рабоце па організацыі беднаты і батрацтва зьяўляецца аднэй з самых горшых праяў правага ўхілу на практыцы.

2. ЦК КП(б) адзначае, што, ня гледзячы на рад дырэктыў кіруючых органаў партыі аб разгортваньні работы з батрацтвам і беднатой, фактычнае становішча работы ў раёнах сьведчыць аб невыкананьні нізавымі партыйным організацыямі і радам цэнтральных устаноў дырэктыў партыі аб разгортваньні работы з батрацтвам і беднатой:

а) важнейшыя гаспадарча-палітычныя кампаніі ў вёсцы (сяўба, загатоўкі) праходзяць без выстарчальнага разгортваньня з боку партыйных організацый работы сярод батрацтва і беднаты. Прычынай недахопаў у правядзеньні кампаній у значнай меры зьяўляецца слабасьць работы з беднатой;

б) ня гледзячы на простыя паказаньні ЦК, групы беднаты не арганізаваны пры адпаведных калгасах і ўсіх сельгаспадарчых таварыствах, а там. дзе групы організацыйна афармлены, не разгарнулі належнай практычнай дзейнасьці;

в) якасны падбор кіраўнікоў груп беднаты ў асноўнай масе нездавальняючы, акрамя таго, райкомы КП(б)Б не забясьпечылі выстарчальнага кіраўніцтва імі;

г) маецца яўнае аслабленьне ў радзе месц матар'яльнай і культурнай дапамогі беднаце; фонды, асыгнаваныя для каапэраваньня батрацтва і беднаты, у большасьці каапэрацыйных арганізацый выкарыстоўваюцца зусім нездавальняючы.

3. Становішча, што стварылася ў рабоце з батрацтвам і беднатой, зьяўляецца недапушчальным і патрабуе карэннага рашучага пералому. Работа сярод беднаты і батрацтва павінна быць рашуча палепшана як унутры калгасаў, так і ў адзінаасобным сэктары сельскай гаспадаркі.

Пры разгортваньні работы сярод беднаты партыйныя арганізацыі павінны выходзіць з таго, што:

а) бедната зьяўляецца тэй сілай, абапіраючыся на якую і арганізуючы яе, партыйныя арганізацыі павінны весьці рашучую барацьбу супроць спроб кулацтва ўнесьці разлад паміж адзінаасобнікамі і калгаснікамі. супроць спроб кулацтва ўзяць пад сваё кіраўніцтва адзінаасобніка;

б) „партыйныя арганізацыі ў калгасах павінны забясьпечыць такую пастаноўку работы груп беднаты, каб яны ня толькі абаранялі непасрэдныя інтарэсы беднаты, але і садзейнічалі ўмацаваньню саюзу рабочае клясы і вясковай беднаты з серадняками“ (з пастановы XVI зьезду УсеКП(б).

Унутры калгасу работу з беднатой неабходна накіраваць на ўсямернае гаспадарчае і організацыйнае замацаваньне калгасаў. Бедната павінна зьявіцца застрэльшчыкам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасе, даваць узоры найбольш гэраічнай і самааддачай працы, садзейнічаць максымальнаму ўзьняцьцю ў калгасе прадукцыйнасьці і якасьці працы.

4. У мэтах максымальнага ўзмацненьня работы сярод беднаты, ЦК КП(б)Б прапануе райкомам:

а) організаваць групы беднаты пры ўсіх сельскагаспадарчых таварыствах, каапэрацыйных і савецкіх організацыях. Ва ўсіх калгасах павінна быць пастаўлена работа з беднатой. Аднак, не ва ўсіх калгасах неабходна ствараць групы беднаты. У тых калгасах, дзе пасьпяхова выжываюцца спажывецкія настроі, існуюць сьвядомыя адносіны да выкананьня сваіх абавязкаў перад дзяржавай, гаспадарчае ўмацаваньне калгасу шляхам інтэнсыфікацыі і пашырэньня гаспадаркі, правільная лінія ў пытаньнях абагуленьня, наяўнасьць працоўнай дысцыпліны і правільная арганізацыя працы ствараюць упэўненасьць у сапраўднай моцнасьці данага калгасу,—групы беднаты не павінны ствараецца. Наадварот, групы беднаты павінны ствараецца па пастанове РК КП(б)Б ва ўсіх тых выпадках, дзе наяўнасьць церцяй у асяродзішчы калгасьнікаў, організацыйныя недахопы, індывідуалістычныя або спажывецкія імкненьні ствараюць умовы, пры якіх пасьпяховае разьвіцьцё калгасу ўскладняецца.

Што датычыць калгасаў, якія нанова арганізуюцца, дык у першы пэрыод іх існаваньня неабходна арганізоўваць групы беднаты з ліку батракоў і беднякоў, абраных у члены праўленьня і рэв. камісіі калгасу.

Асноўнай умовай пры правядзеньні работы з беднатой у калгасах павінна зьявіцца ня толькі недапушчэньне якіх бы там ні было разладаў паміж калгасьнікамі, беднякамі і серадняками, а, наадварот, устанаўленьне шчыльнага саюзу з серадняком, накіраванага на ўзмацненьне калгасу, і абавязковае прыцягненьне серадняка да кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём калгасу.

б) Дзейнасьць груп беднаты ў калгасах неабходна падпарадкаваць таму, каб калгасы найбольш пасьпяхова спраўляліся з гаспадарча-палітычнымі задачамі, што на іх ускладаюцца. Стрыжнявымі пытаньнямі работы груп беднаты павінны зьявіцца вытворчыя пытаньні жыцьця калгасу. Асеньняя сяўба, правільная арганізацыя працы, разьмеркаваньне ўраджаю, вырашэньне задач жывёлагадоўлі, сваячасовае выкананьне пляну збожжазагатовак, выкананьне контрактацыйных дагавароў, барацьба з спажывецкімі настроямі, з безгаспадарчасьцю ў калгасе—вакол гэтых важнейшых пытаньняў і неабходна будаваць работу груп беднаты ў калгасах. Група беднаты павінна зьяўляцца асноўным дапаможнікам праўленьня і парт'ячэйкі ў вырашэньні гэтых задач.

в) У далейшай дзейнасьці райкомаў ўвесьці ў сыстэму скліканьне нарад кіраўнікоў груп беднаты, наладзіўшы сыстэматычнае кіраўніцтва і інструктаж кіраўнікоў груп беднаты, а таксама рэгулярную справаздачнасьць кіраўнікоў нарад парт'ячэйкамі.

г) Пры правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній неабходна арганізоўваць работу так, каб максымальна актывізаваць удзел батрацтва і беднаты ў гэтых кампаніях. Папярэднія нарады, сходы і канфэрэнцыі беднаты з канкрэтным абгаварэньнем пытаньняў практычнага ўдзелу беднаты ў правядзеньні кампаній зьяўляюцца элемэнтарнай формай работы і павінны шырока практыкавацца партыйнымі організацыямі.

д) У працягу месячнага тэрміну праверыць выдаткаваньне фондаў беднаты і батрацтва, што вылучаны па лініі каапэрацыі, КСУ і інш. організацый, прыняўшы сапраўдныя меры да поўнага скарыстаньня фондаў па прызначэньні. Аб выніках праверкі далажыць ЦК.

е) Прыняць рашучыя меры па прыцягненьні ў работу батрацка-бядняцкіх груп і ва ўсю работу сярод беднаты-жанчын-батрачак і бяднячак.

Устанавіць пэрсанальную адказнасьць кіраўнікоў груп беднаты за прыцягненьне да работы батрацка-бядняцкіх груп батрачак і бяднячак.

5. У сувязі з тым, што найбольш слаба пастаўлена работа груп беднаты ў калгасах і сельска-гаспадарчых таварыствах, ЦК КП(б)Б прапануе на працягу бліжэйшага часу правесьці праверку-агляд работы груп беднаты і работы сярод беднаты наогул у гэтых організацыях. Праверку правесьці з мэтай максымальнага ўзмацненьня работы сярод беднаты ў калгасах і с.-г. таварыствах і ўстанаўленьня сапраўднага кіраўніцтва з боку кожнай партыйнай ячэйкі гэтай работай.

Агітмасаваму аддзелу ЦК КП(б)Б распрацаваць дырэктыўныя паказаньні аб правядзеньні агляду-праверкі, забясьпечыць прыцягненьне да ўдзелу ў праверцы ўсёй калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы, распрацаваць тэрмін і арганізаваць шырокае асьвятленьне гэтага пытаньня ў цэнтральным і раённым друку. Намечаныя мерапрыемствы ўнесьці на зацьверджаньне чарговага сэкратарыяту ЦК.

6. Фракцыям цэнтральных і раённых савецкіх і каапэрацыйных устаноў праверыць становішча работы сярод беднаты па ўсёй сыстэме і дабіцца ўзмацненьня гэтай работы. У сувязі з тым, што дырэктыва бюро ЦК аб вылучэньні спэцыяльных інструктароў па рабоце сярод беднаты пры ЦКВ, Калгассаюзе, Паляводсаюзе, Белмалжывёлсаюзе і спажывецкай каапэрацыі гэтымі арганізацыямі поўнасьцю ня выканана ў другі раз, прапанаваць вылучыць спэцыяльных таварышоў, асноўнай нагрузкай якіх павінна зьявіцца работа сярод беднаты. З ліку адказных працаўнікоў раённых устаноў паказаных організацый вылучыць спэцыяльных таварышоў, на якіх ускласьці правядзеньне работы сярод беднаты.

Агітмасаваму аддзелу ЦК прасачыць за выкананьнем гэтай пастановы.

7. ЦК КП(а)Б адзначае, што асабліва слаба пастаўлена работа сярод беднаты ў сыстэме саматужна-прамысловай каапэрацыі. Групы беднаты ў большасьці саматужна-прамысловых арцеляй не арганізаваны. Прапанаваць фракцыі Белсампрамсаюзу разгарнуць работу сярод беднаты, мабілізаваўшы яе ўвагу на разгортваньне сацспаборніцтва ў рабоце сампрамкаапэрацыі, на ачыстку арцеляй ад кулацка-нэпманскіх элемэнтаў.

Пры правядзеньні работы сярод беднаты райкомы павінны больш увагі аддаваць пастаноўцы гэтай работы ў прамкаапэрацыі.

8. ЦК КП(б)Б адзначае яўна нездавальняючы ўдзел камсамольскай арганізацыі ў рабоце партыі сярод беднаты. Прапанаваць ЦК ЛКСМБ прыняць меры да павышэньня актыўнага ўдзелу камсамолу ў рабоце сярод беднаты, асабліва па лініі разгортваньня работы сярод батрацка-бядняцкай моладзі.

9. Арг. інструктарскаму аддзелу ЦК, разам з агітмасавым аддзелам, абсьледваць работу сярод беднаты дзьвюх раённых парторганізацый, пасьля чаго заслухаць даклады райкомаў на сэкратарыяце ЦК.

10. Лічыць неабходным склікаць пры ЦК КП(б)Б нараду па пытаньнях работы сярод батрацтва і беднаты. Даручыць оргінстру і агітмасаваму аддзелу ЦК падрыхтоўчую работу да нарады, намеціць тэрмін і склад удзельнікаў нарады, унёсшы на зацьверджаньне чарговага сэкратарыяту ЦК.

# Рэзолюцыя Бюро ЦК КП(б)Б аб ходзе лесанарыхтовак

1. Бюро ЦК КП(б)Б канстатуе, што плян дровалесанарыхтовак ударнага кварталу, зацьверджаны ЦК і СНК. на 11-XII выкананы: па дзелавой драўніне нарыхтоўка—на 63 проц. і вывазка—4,3 проц. па дровах—нарыхтоўка на 31,3 проц. і вывазка—5,4 проц. Гэтае недапусьцімае выкананьне зьвязана з тым, што Лесбел і яго мясцовыя органы не забясьпечылі гаспадарчым кіраўніцтвам, Наркампрамцы—снабжэньнем рабгужсілай, Белкоопсаюз—плянавым рабочым снабжэньнем лесазагатовак, профсаюзныя організацыі не мобілізавалі па баявому масы рабочых на выкананьне заданьня ўдарнага кварталу, а таксама асабліва ў сувязі з тым, што раённыя партыйныя організацыі ў першую чаргу асноўных загатоўчых раёнаў слаба кіравалі дровалесанарыхтоўкамі.

2. Пацьвердзіць выкананьне пляну лесанарыхтовак асобнага кварталу 1930 г., прынятае ЦК КП(б)Б і СНКБ: па дзелавой драўніне: нарыхтоўкі—2.757.000 і вывазка 1.461.000 кубамэтраў і па дровах: нарыхтоўкі—1.600.000 і вывазка 1.133.000 кубамэтраў.

Адзначыць зусім недапушчальным, што ў самым канцы асобнага кварталу лесанарыхтовак Саюзлеспромам дадзен зьніжаны плян лесанарыхтовак, аб чым паведаміць ЦК УсеКП(б) асобнай дакладной запіскай.

3. Даручыць РК КП(б)Б і фракцыям РВК на грунце шырока разгорнутае масавае работы сярод батрацтва, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі давесьці плян дровалесанарыхтовак і вывазкі да раёну, вёскі і калгасу. Мобілізоваць батрацтва, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы вёскі для рашучага адпору кулацкае агітацыі, накіраванай на зрыў гэтае кампаніі. Правесьці работу па замацаваньню рабочых на ўвесь пэрыод лесанарыхтовак, разьвіцьцю соцыялістычных форм працы сярод рабочых, разгортваньньню соцспаборніцтва і ўдарніцтва і організацыі сквозных брыгад, прымаючы меры да падняцьця вытворчасьці працы і ўзмацненьня працоўнае дысцыпліны.

4. Даручыць РК і фракцыям РВК тэрмінова даць цьвёрдыя павялічаныя заданьні кулацкім і заможным гаспадаркам па дровалесанарыхтоўках і вывазцы. Лесбелу і фракцыям РВК устанавіць спэцыяльны кантроль і справаздачнасьць аб ходзе выкананьня гэтага заданьня кулацказаможнай часткай вёскі. Ужываць да кулацкіх гаспадарак меры, прадугледжаныя адпаведнымі пастановамі ЦВК і СНК БССР.

Даручыць сэктару друку Культпропу ЦК шырока асьвятляць ход лесанарыхтовак і вывазкі ў цэнтральным і раённым друку.

5. Улічваючы вялікую патрэбу ў рабгужсіле (30 тысяч дроварубаў і 90 тысяч возчыкаў), ускласьці адказнасьць за вярбоўку яе на Н.К.Працы і яго мясцовыя органы. Перакідку рабочых і возчыкаў з месца вярбоўкі да месца працы вытвараць Лесбелу па ўзгадненьню з НКПрацы. Прыняць да ведама заяву т. Амбранжунаса, што плян вярбоўкі рабгужсілы раёнам накіраваны.

Даручыць РК і фракцыям РВК мець сталы кантроль за выкананьнем лічбы вярбоўкі рабочае сілы на лесанарыхтоўкі.

6. Лічыць неабходным стварэньне ў лясной гаспадарцы сталае рабочаэ сілы да 6000 чалавек. Прыняць да ведама заяву тав. Палякова аб тым, што ў лік гэтае колькасьці рабочых лясной гаспадаркі ЦК ЛКСМБ праводзіць мобілізацыю 1000 комсамольцаў.

Абавязаць Белкоопсаюз, НК Аховы Здароўя і ЦП Саюзу Лесдрэўрабочых забясьпечыць рабочых продуктамі харчаваньня, мэдычным і культурным абслугоўваньнем.

Прыняць да ведама заяву т. Амбранжунаса аб тым, што да канца 1931 г. на мясцох работ гэтая колькасьць рабочых будзе забясьпечана жыльлёвымі ўмовамі (прыстасаваньне існуючых памяшканьняў, пабудова новых баракаў, а таксама наемн. памяшканьня).

7. Даручыць Белкалгасцэнтру поўнасьцю забясьпечыць вылучэньне рабочай і гужавой сілы на лесанарыхтоўкі, абумоўленай дагаворамі паміж леспрамгасамі і калгасамі.

Даручыць Калгасцэнтру даць паказаньні калгасам аб заключэньні дагавароў на вывазку і лесанарыхтоўкі з леспрамгасамі, дзе яшчэ гэтыя дагаворы не заключаны.

8. Даручыць Белкоопсаюзу ў дэкадны тэрмін і ў адпаведнасьці з вызначанымі для Лесбелу фондамі харчоў, фуражу і прамтаварамі прыняць захады да завозу гэткіх на месца работ, асабліва ў глыбінныя пункты, наладзіўшы вўчот і кантроль іх паступленьня і выдаткаваньня. Адначасова прыняць захады, каб завазімыя прамтавары адпавядалі патрэбам лесарубаў і возчыкаў. Не пазьней 15/I—31 г. адчыніць неабходную колькасьць сталовак і чайных для абслугоўваньня рабочых лесарубаў.

Прыняць да ведама заяву т. Кандрэля, што ўсе фонды харчаваньня і тавараў нізавой сы-

стэмай завезены. Белканторы Саюзхлебу ў дэкадны тэрмін адгрузіць фураж, згодна нарадаў Лесбелу.

Даручыць т.т. Хаскіну, Балціну і Амбранжунасу пераглядзець контынгент прамтавараў, завезеных у раёны, для прэміраваньня лесанарыхтовак і тыя тавары, якія не падыходзяць для прэміраваньня, разбраніраваць, замяніць частку гэтых тавараў іншымі, не ўваходзячымі ў фонд рабочага забясьпечаньня.

9. Для ўзмацненьня цягавай сілы па вывазцы лесу і мэханізацыі яе Лесбелу паставіць пытаньне перад Саюзлеспромам аб організацыі трактарнае калёны.

Даручыць СНКБ у дэкадны тэрмін высьветліць магчымасьць скарыстаньня гусянічных трактароў, якія маюцца ў БССР, для лесараспрацовак.

10. Лесбелу дабіцца атрыманьня праз органы забясьпачэньня і Саюзлеспром завозу патрэбнае колькасьці лыка, шыннага і падкоўнага жалеза для лесанарыхтоўшчыкаў і возчыкаў.

11. Маючы на ўвазе вялікае значэньне свяячасовай адпраўкі лесаматар'ялаў Данбасу (рудн. стойка—абапалы, дошкі і кругляк),—Лесбелу нарады на адгрузку крыпежных матар'ялаў выконваць у першую чаргу.

12. У сувязі з цяжкім становішчам снабжэньня апалам заводаў і працоўнага насельніцтва буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў, у першую чаргу гарадоў—Менск, Гомель, Віцебск,— лічыць неабходным увядзеньне платнае працгужпавіннасьці для вывазкі дроў.

Даручыць СНКБ у аднадзённы тэрмін вырашыць, у якіх раёнах неабходна ўвесьці працгужпавіннасьць.

Даручыць т. Ледніку, пад асабістую яго адказнасьць. забясьпечыць падачу чыгуначнага транспарту.

Пытаньне аб агульным становішчы з апалам абгаварыць на чарговым паседжаньні сэкратарыягу.

Лічыць правільнай пасылку ЦСПСБ рабочых брыгад па вывазцы дроў. Даручыць ЦСПСБ і ЦРК у далейшым пасіліць пасылку рабочых брыгад для адгрузкі дроў.

Даручыць Райкому асабліва прасачыць за выкананьнем заданьняў па пункту 11 і 12-му.

13. Белканторы Дзяржбанку прыняць захады да забясьпечаньня лесанарыхтовак грашовай наяўнасьцю ў межах лімітаў. Лесбелу да 1 студзеня 1931 г. перавесьці ўсе леспрамгасы на гаспадарчы разрахунак.

14. Забараніць РК перавод кіруючых кадраў леспрамгасаў на іншую працу без папярэдняга ўзгадненьня з Лесбелам і Аддзелам Кадраў ЦК, а таксама забараніць мобілізацыю іх на іншыя кампаніі на ўвесь пэрыод дровалесанарыхтовак. Даручыць Аддзелу Кадраў ЦК. РК КП(б)Б і Лесбелу ўзмацніць кіруючымі работнікамі Леспрамгас. Даручыць фракцыі ЦСПСБ да 11-І—31 г. мобілізаваць групу работнікаў з іншых саюзаў на ўзмацненьне нізавых профорганізацый саюзу Лесдрэў.

15. У першай палове студзеня 31 г. для падліку вынікаў асобнага кварталу і абгаварэньня мерапрыемстваў на 31 год склікаць партнараду пры ЦК КП(б)Б па лесагаспадарчых пытаньнях.

Арг. інструктарскаму і агіт масаваму аддзелам ЦК разам з Лесбелам і саюзам Лесдрэў прапрацаваць парадак дню, парадак скліканьня і падаць на зацьверджаньне сэкратарыяту.

16. На грунце гэтае пастановы райкомам фракцыям РВК разгледзець усю суму пытаньняў, зьвязаных з лесанарыхтоўкамі і вывазкамі свайго раёну. Работу гэтай гаспадарча-політычнай кампаніі праводзіць такімі-ж баявымі тэмпамі, як выкананьне хлеба-бульбанарыхтовак і інш. кампаній, мобілізаваўшы ўсе партыйныя, комсамольскія ячэйкі, сельсаветы і грамадзкасьць.

17. Даручыць РСІ ў дэкадны тэрмін праверыць выкананьне ўсёй гэтай пастановы і далажыць ЦК.

---

# Рэзолюцыя аб чарговых задачах кантрольных камісій КП(б)Б

1. Заслухаўшы і абгаварыўшы даклады аб выніках ІІ пашыранага пленуму Ц.К. КП(б)Б і задачах кантрольных камісій КП(б)Б у барацьбе за генэральную лінію партыі, Усебеларуская нарада старшынь Гар. і РайКК-РСІ цалкам і поўнасьцю далучаецца да ўсіх пастаноў пашыранага пленуму ЦК КП(б)Б, якія ўяўляюць сабою баявую праграму сацыялістычнага наступленьня на аснове рашэньняў XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б.

2. Пралетарыят БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры дапамозе пралетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу, дабіўся гігантскіх посьпехаў у справе індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі на базе саўгаснага і калгаснага будаўніцтва.

Гэтыя рашаючыя посьпехі зьявіліся вынікам правільнай палітыкі нашай партыі, накіраванай на правядзеньне разгорнутага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ажыцьцяўленьне палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі і бязьлітаснай барацьбы з правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай, „левым" опортунізмам і прымірэнцтвам да ўхілаў ад лініі партыі.

3. Вядучы разгорнутае сацыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту, зьмятаючы на сваім шляху рэшткі капіталістычных клясаў, рабочая кляса сустракае шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў. Працягваецца шалёная антысавецкая кампанія з боку імпэрыялістычных драпежнікаў. Актывізуецца антысавецкі, шкодніцкі элемэнт, узмацняе сваю контр-рэвалюцыйную дзейнасьць нацыяналістычны элемэнт як з лягеру вялікадзяржаўнага шавінізму, так і беларускага

нацыянал-дэмакратызму і розных інш. шавінізмаў і нацыяналізмаў. Узмацняе сваю дзейнасьць апазыцыйны элемэнт унутры нашай партыі, які імкнецца гнуснай спэкуляцыяй на нашых цяжкасьцях зьвярнуць партыю з Ленінскіх пазыцый.

Пазыцыя правага опортунізму зьяўляецца па сутнасьці пазыцыяй рэстаўрацыі капіталізму, што з асаблівай нагляднасьцю пацьвярджаецца супаданьнем праграмы правых з поглядамі контррэвалюцыйнай Громана-Кандэацьцеўскай групы. Правыя опортуністыя ашукваюць партыю, заяўляючы аб фармальным прызнаньні генэральнай лініі, а на справе яны перайшлі да скрытай фракцыйнай барацьбы, праводзячы здрадніцкую двурушніцкую палітыку, змыкаючыся з паўтрацкісцкімі, „лявацкімі" элемэнтамі для сумеснай барацьбы супроць палітыкі партыі, супроць Ленінскага ЦК УсеКП(б) і яго правадыра т. Сталіна. Былыя лідэры правай апазыцыі (Бухарын, Томскі, Рыкаў) тактыкай „маўчаньня" у адносінах да двурушніцкай палітыкі фракцыйнай дзейнасьці Руціна, Сьляпкова і інш. сваімі паводзінамі (Бухарын на яч. „НИС", выступленьне Рыкава на сходзе рабочых „Утыльсыравіна") аб'ектыўна садзейнічаюць узмацненьню фракцыйнай раскольніцкай работы супроць генэральнай лініі партыі.

Ухваляючы пастанову аб выключэньні з партыі выкрытых двурушнікаў, опортуністых Руціна, Сьляпкова, Марэцкага, Нусінава, Каўрайскага і інш., нарада патрабуе ад Ц. К. і ЦКК УсеКП(б) паставіць перад былымі лідэрамі правых пытаньне такім чынам: альбо яны за генэральную лінію партыі, намечаную XVI Зьездам УсеКП(б) і абавязаны даказаць гэта на справе, а не „адмоўчвацца", альбо яны застаюцца на сваіх старых пазыцыях, дык неабходна ў адносінах былых лідэраў правых ужыць паказаныя XVI зьездам самыя рашучыя арганізацыйныя захады.

Сучаснае ўнутрыпартыйнае становішча патрабуе ад кожнага члена партыі яшчэ большай клясавай пільнасьці, бязумоўнага ўжыцьця пастаноў XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б аб несумяшчальнасьці падзяленьня правых поглядаў з знаходжаньнем у партыі.

Нарада ставіць перад усімі кантрольнымі камісіямі задачу мабілізаваць КП(б)Б на ўзмацненьне барацьбы з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, з „левымі" опортуністымі, з якімі правыя заключылі блёк для фракцыйнай барацьбы супроць нашай партыі, вядучы ў той-жа час барацьбу з прымірэнчымі адносінамі да ўхілаў ад Ленінскай палітыкі нашай партыі.

4. У выніку правільнага, у асноўным, правядзеньня нацыянальнай палітыкі, КП(б)Б мае буйныя посьпехі на фронце эканамічнага і культурнага сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Абвастрэньне клясавай барацьбы на ідэолёгічным фронце з усёй рашучасьцю ставіць пытаньне аб разгроме чужых пралетарыяту буржуазных шовіністычных тэорый аб узмацненьні работ па падрыхтоўцы пралетарскіх, бальшавіцкі-вытрыманых кадраў. Нарада цалкам далучаецца да ўсіх пастаноў пленуму па нацыянальнаму пытаньню, да рашэньня аб несумяшчальнасьці поглядаў нацыянал-опортунізму з прабываньнем у радох КП(б)Б, да рашэньня аб вывадзе з складу ЦК КП(б)Б т. Ігнатоўскага і ўжыцьці ў адносінах да яго рашучых арганізацыйных захадаў за грубое скрыўленьне партыйнай лініі ў рабоце БАН і да рашэньня ў адносінах да т. Васілевіча.

Нарада даручае ўсім кантрольным камісіям весьці рашучую барацьбу за правядзеньне Ленінскай нацпалітыкі супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, ні ў якім разе не паслабляючы барацьбы з нацыянал-опортунізмам у шэрагах КП(б)Б і шовінізмам розных колераў, сыстэматычна праявяраючы правядзеньне нац палітыкі партыі.

5. Скончаная ліквідацыя акруг паставіла перад раёнамі шэраг важнейшых гаспадарча-палітычных задач. На раёны лажыцца зараз увесь цяжар, куды „сьцякаюцца ніці калгаснага будаўніцтва і ўсялякай іншай гаспадарчай работы ў вёсцы і па лініі каапэрацыі, і па лініі саветаў, і па лініі загатовак" (Сталін).

Гэта ставіць перад усімі КК—РСІ, як асноўную і важнейшую задачу забясьпечыць максымальныя тэмпы індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, на аснове поўнага выкананьня і перавыкананьня ўсіх паказальнікаў пляну ўдарнага кварталу і 3-га году пяцігодкі. У прыватнасьці:

а) забясьпечыць поўнае выкананьне прамфінпляну ўдарнага кварталу ў 1931 г. на аснове далейшай мабілізацыі творчай ініцыятывы рабочае клясы, далейшага разгортваньня ўдарніцтва, рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, садзейнічаючых зьніжэньню сабекошту, палепшаньню якасьці прадукцыі і ўздыму вытворчасьці працы;

узмацніць кантроль над новым будаўніцтвам яго плянаваньнем, рацыяналізацыяй, паніжэньнем будаўнічага індэксу, рашуча зьнішчаючы пазаплянавае будаўніцтва; зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на правядзеньне мерапрыемстваў, забясьпечваючых прамысловасьць сыравінай—энэргетычная база (торф, лясная гаспадарка)—і на разгортваньне мясцовай саматужнай прамысловасьці;

б) ажыцьцёвіць сталы кантроль над правядзеньнем пастаноў XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду УсеКП(б) аб непаслабнай рабоце па далейшай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; стаць на чале новай хвалі калгаснага прыліву і кіраваць ім, захоўваючы ў працы па калектывізацыі бальшавіцкія прынцыпы, на аснове мабілізацыі рабочай клясы, працоўнай масы сялянства, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, на правядзеньне суцэльнай калектывізацыі, не допускаючы опортуністычнага „самацёку" і перагібаў, нясупынна і сыстэматычна праводзіць, на базе суцэльнай калектывізацыі, ліквідацыю кулацтва як клясы;

в) павінна быць зьвернута сур'ёзнейшая ўвага на выкананьне ўсіх пляноў загатовак (хлеба, бульбы, фуражу, ільну і інш.), на мабілізацыю сродкаў, на выкананьне пляну разьвіцьця жывёлагадоўлі, на лепшую пастаноўку работы спажывецкай каапэрацыі і арганізацыю масавага пралетарскага кантролю над работай каапэрацыі; дабіцца поўнага выкананьня пляноў арганізацыі прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм, сьвінаадкормачных пунктаў, арганізацыі сеці разьмер-

кавальнікаў і рабочых сталовак на прадпрыемствах, лічачы праблему рабочага забясьпечаньня аднэй з асноўных палітычна-эканамічных праблем партыі і ўраду ў асобным квартале 1930 і 1931 г.;

г) ажыцьцёвіць сталы кантроль над выкананьнем плянаў па новаму будаўніцтву на транспарце, разгортваньню дарожнага будаўніцтва, рамонту рухавога складу, якасьці рамонту, ліквідацыі прарываў на транспарце; асабліва на разьвіцьцё рачнога транспарту;

д) праблема кадраў патрабуе напрагчы ўсе сілы для пастаноўкі ўзорнай працы па падрыхтоўцы тэхнічных і культурных кадраў у межах, устаноўленых плянамі, абавязаць усе КК-РСІ паставіць пільны кантроль за вырашэньнем гэтай рашаючай праблемы партыі.

6. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтых важнейшых гаспадарча-палітычных задач, пастаўленых зараз перад раёнамі, высоўвае з усёй сілай пытаньне аб неабходнасьці тэрміновай перабудовы і палепшаньня работы раённага і цэнтральнага апарату, умацаваньня сельскага апарату, правядзеньня рашучай барацьбы з бюрократызмам і расхлябанасьцю ў рабоце апарату. Даручыць усім КК-РСІ зьвярнуць вялікую ўвагу на пастаноўку рацыяналізатарскай работы, на правільную расстаноўку сіл, на далейшае высоўваньне новых кадраў калгасьнікаў, батракоў і беднякоў, на савецкую і кааперацыйную работу. „Узмацніць адказнасьць парт'ячэек, членаў партыі і асабліва камуністых-кіраўнікоў за факты бюрократызму і шкодніцтва“ (з пастаноў XVI зьезду).

7. Пасьпяховасьць у ажыцьцяўленьні ўсіх пастаўленых перад КК-РСІ задач залежыць перш за ўсё ад правільнай пастаноўкі сваёй работы і ад арганізацыі мабілізацыі рабочых і асноўнай масы працоўнага сялянства на правядзеньне гэтых задач, шырока абапіраючыся ў сваёй рабоце на грамадзкія організацыі і актыў, сваячасова папярэджваць і зьнішчаць недахопы ў рабоце, біць па недахопах і канкрэтных насіцелях зла і адначасова дапамагаць паставіць узорна той ці іншы вучастак работы.

Масавасьць ва ўсёй рабоце, ажыцьцяўляючы ролю арганізатара мас, апора на лепшую частку актыву, на ўдарнікаў-рабочых, калгасьнікаў, батракоў, беднякоў, рабселькораў і друк, камсамол зьяўляецца тэй асновай у рабоце КК-РСІ, якая забясьпечыць пасьпяховасьць і правільнасьць у яе рабоце.

8. Аўтарытэт КК-РСІ на мясцох, шырокая папулярызацыя яго работы зьяўляюцца другой, асноўнай задачай. Склад КК-РСІ павінен падбірацца з лепшых. ідэолёгічна стойкіх партыйцаў, дастаткова аўтарытэтных у партарганізацыі і працоўных мас, якія праявілі сябе стойкімі бальшавікамі у грамадзянскай вайне (ударнікі, актывістыя-калгасьнікі, рабочыя з вытворчасьці). Неабходна рашуча пакончыць выбары ў склад КК-РСІ адміністрацыйна-тэхнічных работнікаў. У сувязі з арганізацыяй Гар. і РайКК-РСІ, на што патрабавалася значная колькасьць новых работнікаў, неабходна пытаньню падбору і высоўваньня работнікаў для КК-РСІ удзяліць важнейшую ўвагу; замацаваньне маючыхся работнікаў, падбор і выхоўваньне на месцы кадраў з актыву КК-РСІ—ёсьць галоўнейшая задача, стаячая перад ЦКК і ўсімі КК-РСІ. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на сталы падбор інспэктарскага складу з партыйна-камсамольскага актыву, які мае ўсебаковы вопыт партыйна-масавай работы і які забясьпечыць правільную арганізацыю работы пры апоры на шырокія працоўныя масы.

9. Даручыць усім КК-РСІ паставіць шырокую справаздачнасьць аб сваёй рабоце перад масавымі організацыямі, асьвятляючы канкрэтныя пытаньні работы. аб дасягнутых выніках, шырока ставіць на абгаварэньне перад рабочымі і працоўнымі масамі свае пляны і вынікі абсьледваньня, паставіць сыстэматычную праверку выкананьня партыйных і ўрадовых дырэктыў, а таксама рашэньняў мясцовых і савецкіх органаў і сваіх рашэньняў, памятаючы, што „правяраць людзей і правяраць фактычнае выкананьне справы—у гэтым, яшчэ раз у гэтым, толькі ў гэтым — цяпер самое галоўнае ўсяе работы, усяе палітыкі“. (Ленін).

10. У сувязі з выклікаемымі цяжкасьцямі па частаму скліканьню пленумаў КК, пры адсутнасьці прэзыдыумаў у частцы раёнаў і неабходнасьці шырэй уцягваць парт. актыў у работу КК,—прызнаць неабходным пашырыць склад КК, устанавіўшы мінімальны склад—7 членаў і максымальны—21 член. У сувязі з гэтым вытварыць давыбары членаў КК і абраньне прэзыдыумаў КК ва ўсіх Рай і ГарКК у складзе ад 3 да 5 членаў, і па меры неабходнасьці для разгляду парт. спраў ствараць часовыя парт. тройкі, уцягваючы ў іх па чарзе ўсіх сяброў КК.

11. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтых важнейшых задач, пастаўленых перад нашай партыяй і кантрольнымі камісіямі, патрабуе рашучага ажыцьцяўленьня баявога бальшавіцкага лёзунгу самакрытыкі.

Даручыць усім КК строга сачыць і садзейнічаць ажыцьцяўленьню і разгортваньню самакрытыкі і ўнутры-партыйнай і рабочай дэмакратыі. весьці рашучую барацьбу з элемэнтамі, якія заціскаюць крытыку, з бюрократычнымі адносінамі да рэагаваньня на крытыку рабочых і працоўных мас і крытыку ў друку, вядучы ў той жа час барацьбу з спробамі скарыстаньня гэтага лёзунгу супроць генэральнай лініі партыі. Накіраваць бальшавіцкую самакрытыку ў абарону генэральной лініі партыі супроць опортуністых усіх колераў, асабліва супроць правых, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, дабіўшыся таго, каб самакрытыка зьявілася сапраўдным мэтадам сацыялістычнага будаўніцтва.

# Рэзолюцыя аб чарговых задачах масавай работы

1. Рашаючыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, выклікаўшыя бурны рост грамадзка-палітычнай актыўнасьці рабочае клясы і шырокіх працоўных мас, ствараюць усе умовы дзеля ажыцьцяўленьня паказаньняў тав. Леніна, каб „усю працоўную масу мужчын і жанчын асабліва правесьці праз удзел у Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі".

Ад органаў КК—РСІ патрабуецца зараз такое ўзмацненьне і палепшаньне мэтадаў масавай работы, з тым, каб яна цалкам суадпавядала тэмпам усёй узрастаючай актыўнасьці мас, накіраванай на ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

Паставіць перад усімі КК—РСІ, як цэнтральную задачу,—стаць арганізатарам сапраўды шырокіх рабочых і працоўных мас па іх мабілізацыі на поўнае выкананьне ўсіх пастаўленых задач XIII зьездам КП(б)Б і XVI зьездам УсеКП(б). Ацэнку дзейнасьці Рай і Гар. КК—РСІ рабіць па ступені разгортваньня імі масавай работы.

2. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне задачы—прывесьці савецкі апарат у адпаведнасьць з складанымі гіганцкімі задачамі рэканструкцыйнага пэрыоду, узмоцненая барацьба з бюрократызмам, чыстка савецкага апарату з шырокім прыцягненьнем рабочых мас садзейнічалі устанаўленьню сыстэматычнага масавага пралетарскага кантролю—шэфства заводаў над савецкім апаратам. Канстатуючы нездавальняючае становішча шэфскай працы, прызнаючы шэфства рабочых прадпрыемстваў над савецкімі установамі аднэй з лепшых форм масавай работы КК-РСІ, — лічыць неабходным: а) каб КК-РСІ сталі на чале шэфскага руху, аказваючы разьвіцьцю шэфства заводаў сур'ёзьнейшую увагу, арганізаваць кіраўніцтва, сытэматычную дапамогу заводам-шэфам, прыстасаваўшы дзеля гэтай мэты увесь апарат КК-РСІ;

б) акрамя вылучэньня спэцыяльнага працаўніка па агульнаму кіраўніцтву шэфскай працай, даручыць КК-РСІ прымацаваць сяброў КК і інспэктароў для дапамогі шэфствуючым прадпрыемствам і распрацоўкі пераліку работ шэфаў, удзелу ў распрацоўцы паасобных праґаноў па лепшаньні работы падшэфнай установы;

в) абавязаць інспэктароў пры абсьледваньні ўстаноў, над якімі маюцца шэфы, уцягваць у абсьледваньне рабочых шэфствуючых прадпрыемстваў з тым, каб брыгады, якія ажыцьцяўляюць кантроль над паасобнымі зьвеньнямі апарату, былі ўдарнымі брыгадамі РСІ;

г) склікаць пэрыодычныя нарады па пытаньнях шэфства, канфэрэнцыі рабочых брыгад, падводзячы вынікі шэфскай працы на прэзыдыумах і пленумах КК—РСІ;

Даручыць усім Гар. і Рай КК—РСІ у бліжэйшы час арганізаваць сумесна з прафсаюзамі і рэдакцыямі газэт масавы агляд становішча шэфскай працы, арганізаваўшы сталую прапрацоўку пастаноў ЦК і ЦКК УсеКП(б) і XI партыйнага зьезду па гэтым пытаньні на ўсіх прадпрыемствах, пашырыць колькасьць шэфствуючых прадпрыемстваў, як у горадзе, так і арганізаваць шэфскую працу прадпрыемстваў, распалажаных у раёнах, над паасобнымі зьвеньнямі савецкага апарату.

Даручыць Кастрычнікавай, Фрунзаўскай, Віцебскай і Гомельскай Гор КК на працягу лістапада і сьнежня мес. правесьці масавыя гарадзкія канфэрэнцыі па шэфству, пашырыўшы гэты вопыт і ў астатніх раёнах.

Работа заводаў-шэфаў у падшэфных установах у бліжэйшы час павінна быць накіравана на арганізацыю праверкі выкананьня рашэньняў камісіі па чыстцы падшэфных устаноў, праверкі становішча работы рабочых-вылучэнцаў, прымацаваньне рабочых брыгад да паасобных важнейшых частак падшэфнага апарату для сталай праверкі і нагляду за правільнасьцю работы яго, практыкуючы вылучэньне груп рабочых выканаўцаў, вылучэньне брыгад па праверцы выкананьня важнейшых пастаноў партыі і ўраду падшэфнай установай, як-так: работа органаў асьветы па ўсеагульнаму навучаньню і палітэхнізацыі школ, рабочае забясьпечаньне, работа грашовага апарату па мабілізацыі сродкаў і інш., паставіўшы рэгулярную справаздачнасьць брыгад перад рабочымі прадпрыемстваў (даклады брыгадзіраў на цэхавых і агульных сходах, з садакладамі працаўнікоў РСІ)

Пэрыодычна падагульваць вопыт брыгад, своечасова рэагаваць і сыгналізаваць аб паасобных хваравітых момантах, якія сустракаюцца ў ходзе працы брыгадзіраў і шэфскай працы, не дапускаючы момантаў скажэньня ідэі шэфства—масавага рабочага кантролю зьнізу над савецкім апаратам,—ідэяй сутаварыства і ўзаемных абавязацельстваў па ўзаемнаму кантролю, дабіўшыся, каб у шэфскую працу былі ўцягнуты шырокія масы рабочых шэфствуючага прадпрыемства.

3. Сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, ажыцьцяўленьне задачы ліквідацыі кулацтва, як клясы, на падставе суцэльнай калектывізацыі, патрабуюць ад КК—РСІ ў раёне асноўнай увагі вырашэньня да гэтых задач, пасіленьня праверкі органаў, непасрэдна занятых сацыялістычнай перабудовай сельскай гаспадаркі, вядучы рашучую барацьбу з скажэньнямі генэральнай лініі партыі па пытаньнях калектывізацыі.

Актыўным дапаможнікам КК—РСІ на сяле павінны стаць камісіі РСІ пры с. саветах, работа якіх да гэтага часу не наладжана. Прапанаваць усім КК—РСІ, у сувязі з перавыбарамі с. саветаў, правесьці арганізацыю камісій РСІ пры ўсіх сельскіх саветах, забясьпечыўшы ўцягненьне ў іх работу шырокіх пластоў рабочага, саўгаснага, калгаснага, батрацкага і бядняцкага актыву і прыцягненьне лепшай часткі серадракоў. Ажыўленьне і пасіленьне дзейнасьці сэкцый РСІ павінна пайсці па лініі:

а) павароту іх работы да ажыцьцяўленьня задачы каллектывізацыі, шляхам праверкі імі дзейнасьці земорганаў на вёсцы, гаспадарчай дзей-

насьці калгасаў і саўгасаў, садзейнічаньня правільнай арганізацыі працы ў калгасах і дапамогі с. савету і мясцовым органам з боку камісій РСІ, у далейшым уцягненьня шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас у калгас;

б) абсьледваньня паасобных галін працы дзяржаўных каапэрацыйных і грамадзкіх устаноў і арганізацый, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельскага і мястэчковага савету, з мэтай выяўленьня недахопаў і палепшаньня работы абсьледуемых устаноў, поўнага забясьпечаньня ў іх рабоце чоткай клясавай лініі;

в) сэкцыі РСІ павінны моцна зьвязацца з саўгасамі і калгасамі, адкуль чэрпаць актыў з батрацтва і беднаты, зрабіўшы іх сапраўднымі асяродкамі арганізацый вакол задач партыі на вёсцы с.-г. рабочых, батракоў, беднякоў і лепшай часткі серадзякоў.

Даручыць усім КК-РСІ пільна сачыць за тым, каб сэкцыі не ператварыліся ў дадаткі да адміністрацыйных органаў на мясцох, а зьяўляліся-б сапраўднымі кантрольнымі органамі. Працуючы пад агульным кіраўніцтвам тых органаў, пры якіх яны утвараюцца (сельсаветы, мястэчковыя саветы), сэкцыі павінны весьці работу ў напрамку агульных задач, намячаемых РайКК — РСІ. Даручыць РайКК ў сваёй рабоце па кіраўніцтву сэкцыямі зорка сачыць і змагацца з замкнутасьцю, стварыўшы мэтадам работы сэкцый масавасьць, шырачайшую галоснасьць і справаздачнасьць у рабоце.

Сэкцыям РСІ ў сваёй рабоце належыць усямерна скарыстоўваць рэв. камісіі пры саветах каапэрацыі і калгасах, ажыцьцяўляючы кантроль над іх дзейнасьцю, але ні ў якім разе не падмяняючы іх работу. Пад агульным кіраўніцтвам і цесным кантакце з сэкцыямі РСІ павінны працаваць атрады „Лёгкай кавалерыі", групы садзейнічаньня РСІ ў калгасах і саўгасах, якія і складаюць разам адну з актыўнейшых груп РСІ на вёсцы.

Даручыць РайКК-РСІ ажыцьцяўляць сыстэматычнае жывое кіраўніцтва сэкцыямі РСІ пры с. саветах, даваць асноўны накірунак у рабоце іх, выходзячы з свайго пляну работ, даючы ім канкрэтныя заданьні сваёй работы па раёну і с. савету, склікаць сыстэматычныя нарады кіраўнікоў сэкцый, дабіцца праз РВК правільнага кіраўніцтва і дапамогі ў їх рабоце з боку с-савету.

4. Надаючы выключную ролю сэкцыям РСІ пры гарадзкіх саветах у справе прыцягненьня шырокіх рабочых мас да ажыцьцяўленьня кантролю выкананьня і барацьбы з бюрократызмам, даручыць Гар. і Рай КК пасіліць кіраўніцтва сэкцыямі РСІ пры гарсаветах; у сувязі з перавыбарамі Гарсаветаў дабіцца больш масавага ўдзелу у іх дэпутатаў Гарсавету „лёгкай кавалерыі", дэлегатак—работніц, накіраваўшы работу сэкцый на правядзеньне сыстэматычнай праверкі выкананьня рашэньняў пленуму і прэзыдыуму гарсаветаў на арганізацыю абсьледваньня як самастойных так сумесна з Гар. і РайКК—РСІ раду важнейшых вучасткаў гарадзкой гаспадаркі, увязаўшы пляны работы сэкцый з плянам Гар. і Рай КК—РСІ з тым, каб не дапушчаць паралелізму ў рабоце, ставіць пэрыодычна даклады сэкцый на пасяджэньнях Гар. і Рай КК, Гарсавету і масавых рабочых сходах.

5. Рост актыўнасьці рабочае клясы, накіраваный на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, патрабуе ад органаў КК-РСІ ў сваёй практычнай штодзённай рабоце, пры самай актыўнай дапамозе прафсаюзаў, накіроўваць гэтую актыўнасьць рабочых мас на поўнае выкананьне і перавыкананьне плянаў па ўсіх паказальніках прамфінпляну, садзейнічаючы далейшаму разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на ўсіх прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах, вядучы рашучую барацьбу з праяўленьнем опартунізму у гэтым пытаньні, сумесна з прафсаюзамі пэрыодычна склікаць канфэрэнцыі ўдарных брыгад па пытаньнях выкананьня прамфінпляну, палепшаньня якасьці прадукцыі і зьніжэньня сабекошту, арганізацыі рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, строга сачыць за своечасовым ажыцьцяўленьнем прапаноў рабочых, вынасімых на агульных сходах, вытворчых нарадах, вядучы самую жорсткую барацьбу з бюрократычнымі адносінамі кіраўнікоў да правядзеньня ў жыцьцё рабочых прапаноў. Улічваючы, што вопыт арганізацыі часовых кантрольных камісій на прадпрыемствах сябе цалкам апраўдаў, даручыць КК-РСІ сумесна з прафсаюзамі пашырыць гэты вопыт, накіраваўшы работу ЧКК на праверку выкананьня рабочых прапаноў, рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, на асобныя вучасткі дзейнасьці, прадпрыемства паставіўшы шырокую справаздачнасьць ЧКК перад рабочымі масамі, абавязаць прафсаюзы сталаму кіраўніцтву работай ЧКК і садзейнічаньню поўнай рэалізацыі іх прапаноў.

Сумесная работа КК-РСІ з прафсаюзамі павінна заключацца у тым, каб: а) сыстэматычна склікаць ударныя брыгады, вытворчыя эканомкамісіі па абагуленьні вопыту іх працы і палепшаньні кіраўніцтва імі; б) сыстэматычна склікаць ЧКК (Часов кантрольн. камісіі), рацыяналізатарскія бюро ТНБ па прапрацоўцы плянаў і матар'ялаў зьвязанных з абсьледваньнем прадпрыемстваў: в) асабліва павінна быць цеснай сувязь КК-РСІ з саюзам Саўгандльслужачых, каб праз эканомкамісіі і нарады ўцягваць сяброў саюзу у рацыяналізатарскую работу ўстаноў.

6. „Лёгкая кавалерыя", організаваная па ініцыятыве камсамолу, адыгрывае выключную ролю у справе арганізацыі неафіцыйнага масавага кантролю рабочай і працоўнай моладзі над дзяржапаратам на вытворчасьці, над работай грамадзкіх організацый у справе вырашэньня і праверкі ажыцьцяўленьня важнейшых пастаноў партыі і ўраду.

Выходзячы з гэтага, даручыць усім Гар. і РайКК зьвярнуць сур'ёзнейшую увагу гэтаму ініцыятыўнаму руху працоўнай моладзі пад кіраўніцтвам Камсамолу; сумесна з Камсамолам садзейнічаць пашырэньню колькасьці груп з тым, каб пры кожнай яч. КСМ была арганізавана група „Легкай кавалерыі". Дабіваючыся ад камсамолу правільнага штодзеннага кіраўніцтва работай у „ЛК", КК-РСІ павінны:

а) прыцягнуць „Л. К." да плянавай работы РСІ. да работы бюро скаргаў, утварэньня масавых налётаў РСІ і кантролю за выкананьнем рашэньняў РСІ;

б) даручыць КК-РСІ своечасова вырашаць справы і рэагаваць на матар'ялы „Легкай кавалерыі";

в) арганізаваць пры ўсіх Гар. і РайКК-РСІ спэцыяльныя атрады „Л. К." з лепшых правераных кавалерыстых;

г) сыстэматычна сумесна з камсамолам склікаць зьлёты „Легкай кавалерыі" і кіраўнікоў груп;

д) узмацніць работу КК-РСІ па абароне „легкіх кавалерыстых" ад прасьледваньняў за актыўную работу па барацьбе з бюракратызмам і канкрэтнымі носьбітамі цяганіны і бюрократызму ў апараце.

КК-РСІ сумесна з камсамолам павінна дабіцца, каб формы і мэтады работы груп „Легкай кавалерыі" былі прасякнуты зьместам глыбокага палітычнага выхаваньня „легкіх кавалерыстых" і правадзімыя мерапрыемствы „ЛК" цалкам суадпавядалі задачам партыі ў сучасны пэрыод. Неабходна перамагчы замкнутасьць і сакрэтніцтва ў рабоце, моманты бравіраваньня званьнем „легкага кавалерыста", організуючы большую галоснасьць у рабоце праз пастаноўку дакладаў груп „ЛК" на рабочых, камсамольскіх сходах, вытворчых нарадах, у друку.

Прыцягваючы да работы „Легкай кавалерыі" шырокія пласты рабочай, саўгасна-калгаснай, батрацка-бядняцкай, серадняцкай моладзі і дарослых рабочых, неабходна ў той жа час не дапушчаць у групы „ЛК" кулацка-нэпманскіх і чужых элементаў, ачышчаючы групы ад гэтых элемэнтаў.

7. Надаючы важнае значэньне справе організацыі работы Бюро скаргаў пры Гар. і Рай КК-РСІ, даручыць усім КК-РСІ паставіць работу Бюро скаргаў такім чынам, каб забясьпечыць шырокае ўцягненьне да яе работы рабочых засядацеляў з рабочых батракоў, калгасьнікаў і груп беднаты і дэлегацкіх пунктаў, абіраемых на масавых сходах, паставіўшы з гэтым актывам сыстэматычную работу па яго інструктаваньні, прыцягваючы ягода расьсьледваньня скаргаў, ставіць шырокую справаздачнасьць рабочых засядацеляў перад абіральшчыкамі. Прыцягваць рабочых засядацеляў і актыў дабраахвотнікаў да сыстэматычнага абагуленьня і вывучэньня скаргаў з мэтай пастаноўкі перад суадпаведнымі органамі пытаньня аб палепшаньні работы паасобных зьвеньняў апарату, асабліва да праверкі работы нізавога савецкага, ляснога і каапэрацыйнага апарату, пераносіць разбор скаргаў па важнейшых пытаньнях на шырокія сходы рабочых і працоўных мас; прыцягваць да работы Бюро скаргаў, акрамя рабочых засядацеляў, шырокі актыў добраахвотнікаў, вярбуючы іх з рабочых, батрацкабядняцкіх, калгасных і лепшай часткі серадняцкіх мас і працоўнай, блізкай партыі і савецкай уладзе, інтэлігенцыі.

8. Скарыстаньне ў рабоце КК-РСІ лепшых добраахвотнікаў — спэцыялістых, адданых справе рабочае клясы, па сацыялістычным будаўніцтве павінна займаць значнае месца ў рабоце КК-РСІ. Даручыць усім КК-РСІ наладзіць організацыю і скарыстаньне ў практычнай працы інжынэрна-тэхнічных сіл, аграномаў, землеўпарадкавацеляў, настаўнікаў, бухгальтэраў, мэліоратараў урачоў у мэтах падвышэньня якасьці абсьледвацельскіх работ, атрыманьня консультацыі па паасобных пытаньнях, у мэтах палепшаньня работы на прадпрыемствах, у сельскай гаспадарцы, ў барацьбе з бюрократычнымі скажэньнямі лініі партыі ў савецкім апараце.

9. У мэтах большага ўцягненьня шырокіх рабочых і працоўных мас у работу КК-РСІ, організацыі масавага кантролю выкананьня рашэньняў партыі і ўраду пад кіраўніцтвам КК-РСІ, даручыць усім Гар. і Рай КК—РСІ плян абсьледвацельскай работы па важнейшых вучастках гаспадаркі і культуры гораду і раёну будаваць такім чынам, каб у гэтае абсьледваньне ўцягваць сапраўды шырокія рабочыя і працоўныя масы пад кіраўніцтвам НК-РСІ, ажыцьцяўляючы гэтакім чынам рашэньні XVI партканфэрэнцыі аб тым, каб „прыцягненьне шырокіх рабочых мас да праверкі выкананьня і такім чынам абучэньне новых слаёў рабочых і сялян справе дзяржаўнага кіраваньня, зьявілася умовай таго, што праверка выкананьня ўсё у большай меры становіцца сапраўдным мэтадам палешаньня савецкага апарату". Кожнае абсьледваньне павінна расцэньвацца ў першую чаргу па ступені прыцягненьня мас, шляхам організацыі абсьледавацельскіх брыгад, шырокай агласкі праграм абсьледваньня і вынікаў на сходах рабочых і працоўных мас, прыцягваючы да непасрэднага ўдзелу ў праверцы і абсьледваньні, утвораных органамі КК-РСІ, на прадпрыемствах, пры якіх існуюць ЧКК, „Легк. кавалер.", ударных брыгад, вытворчых камісій, груп садзейнічаньня РСІ.

10. Ажыцьцяўленьне пастаўленых гіганцкіх задач XVI зьездам партыі магчыма толькі пры ўмове разгортваньня сапраўды сьмелай бальшавіцкай самакрытыкі, накіраванай на абарону генэральнай лініі партыі. Органы КК-РСІ павінны ажыцьцяўляць пільны кантроль і садзейнічаць разгортваньню самакрытыкі, змагацца з спробамі і элементамі зажыму самакрытыкі, садзейнічаць хуткай рэалізацыі і рэагаваньню на крытыку шырокіх працоўных мас шляхам:

а) арганізацыі сыстэматычнай работы з рабселькорамі і сьцянкорамі, склікаючы іх па прапрацоўцы важнейшых пытаньняў работы КК-РСІ, уцягваючы іх у абсьледвацельскую работу і праверку рэагаваньня на заметкі, беручы рабселькораў пад актыўную абарону ад прэсьледваньня за рашучую і сьмелую крытыку;

б) устанавіць сталую сувязь з рэдкалегіямі насьценных газэт, пэрыодычна праводзіць рабселькораўскія рэйды па праверцы рэагаваньня на заметкі, прыцягваючы да праверкі саміх рабселькораў, рашуча змагаючыся з нераагаваньнем на крытыку ў друку;

в) організаваць асьвятленьне работы КК-РСІ у друку, у раённых і цэнтральных газэтах шляхам пэрыодычнага выпуску „Лісткоў РСІ";

г) садзейнічаючы разгортваньню бальшавіцкай самакрытыкі, адначасова змагацца з элемэнтамі, якія спрабуюць скарыстаць бальшавіцкі лёзунг самакрытыкі супроць генэральнай лініі партыі.

11. Паставіць, як важнейшую задачу перад усімі сябрамі ЦКК на мясцох, сябрамі Гар. і Рай КК-РСІ—гэта уцягненьне іх у работу КК-РСІ, дабіўшыся, каб яны на справе сталі організатарамі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах шырокіх працоўных мас навакол КК-РСІ і сталі на чале работы ЧКК, груп садзейнічаньня РСІ, камісій і сэкцый РСІ пры саветах.

12. Даручыць усім Гар. і РайКК-РСІ паставіць шырокую справаздачнасьць аб сваёй рабоце перад партыйнымі, рабочымі і працоўнымі масамі, падводзячы вынікі гэтай работы, ажыцьцяўляючы прапановы, уносімыя па справаздачы.

13. Даручыць Гар. і РайКК-РСІ наладзіць сталы вучот масавай работы і работу з актывам РСІ, дабіўшыся на працягу 1931 г. вылучэньня з актыву РСІ на адказную работу у савецкі, каапэрацыйны, гаспадарчы, прафэсыйны і РСІ апарат 500 чал.

# Ад рэдакцыі „Партработніка“

У нумары 16 часопісі „Партыйны Работнік“ дапушчаны наступныя апячаткі:

У другім абзацы перадавога артыкулу надрукавана: „Было-б немагчыма бяз зьніжэньня трацкісцкай апазыцыі“, трэба: „БЫЛО-Б НЕМАГЧЫМА БЯЗ ЗЬНІШЧЭНЬНЯ ТРАЦКІСЦКАЙ АПАЗЫЦЫІ“.

Там жа на 3-й старонцы надрукавана: „Двурушнікам няма месца ў партыі. Марэцкі, Стэцкі з партыі выключаны“. Трэба: „МАРЭЦКІ, СЬЛЯПКОЎ З ПАРТЫІ ВЫКЛЮЧАНЫ“.

РЭДКАЛЕГІЯ

# МЭТОДАРАСПРАЦОЎКІ

## Рашэньні 2-га пленуму ЦК КП(б)Б

### Тэма: Нацыянальная палітыка

Мэтай тэмы зьяўляецца:

1. На падставе вывучэньня рашэньняў пленуму ЦК КП(б)Б вытлумачыць сутнасьць ленінскай лініі партыі па нацыянальнаму пытаньню і правільнасьць рашэньняў XVI партыйнага зьезду.
2. Даказаць, што нашыя дасягненьні ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва зьяўляюцца вынікам правільна праводзімай КП(б)Б нацыянальнай політыкі і бязьлітаснай барацьбы з усялякімі адхіленьнямі ад ленінскай лініі ў нацыянальным пытаньні.
3. Вывучыць вытокі тэорыі і практыку нацыянал-дэмакратызму на Беларусі на розных этапах.
4. Даказаць, што нацыянял-опортунізм зьяўляецца буржуазнай агентурай ў радох нашай партыі і несумяшчальнасьць поглядаў нацыянал-опортунізму з прыналежнасьцю да КП(б)Б.
5. Вывучыць канкрэтныя задачы, якія паўстаюця перад кожным слухачом школы ў сувязі з рашэньнямі XVI зьезду і 2-га Пленуму ЦК КП(б)Б,

#### Плян тэмы:

Нацыянальныя пытаньні ў праграме ЎсеКП(б)Б.

Ці зьмяняецца прынцыповая ўстаноўка ў нацыянальным пытаньні да і пасьля Кастрычніка.

Сутнасьць спрэчак паміж Леніным і Бухарыным (рознавіднасьць люксэмбургіянства) па нацыянальнаму пытаньню.

Сутнасьць і прычыны пастаноўкі нацыянальнага пытаньня на XII зьездзе ЎсеКП(б) і асноўныя ўстаноўкі па гэтаму пытаньню.

Рашэньні XVI зьезду ЎсеКП(б) па нацыянальнаму пытаньню.

Клясавая сутнасьць вялікадзяржаўнага і мясцовага шовінізму.

Сутнасьць рашэньняў 2-га Пленуму ЦК КП(б)Б па нацыянальнаму пытаньню.

Социяльныя карэньні нацыянал-дэмократызму БСГ і „Нашай Нівы“, як праграмы і зьмест іх працы.

БНР, як контр-рэволюцыйная організацыя.

Тактыка нацдэмаў ў аднавіцельным пэрыодзе.

Тактыка нацдэмаў у рэконструкцыйным пэрыодзе.

Сувязь узмацненьня праяў нацыянал-дэмократызму і шовінізму розных колераў з агульным абвастрэньнем клясавай барацьбы.

Сувязь нацыянал-дэмократызму з вялікадзяржаўным шовінізмам.

Практычныя ажыцьцяўленьні нацыянальнай політыкі КП(б)Б.

Чарговыя задачы КП(б)Б у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР:

а) павялічэньне пролетарскага ядра ў прамысловасьці.

б) палепшаньне якасьці кіраўніцтва культурнай працай і падрыхтоўка пролетарскіх беларускіх культурных кадраў.

в) пастаноўка працы сярод нацыянальных меншасьцяй.

г) конкрэтныя задачы ў галіне нацполітыкі на даным прадпрыемстве.

#### Агульныя мэтодычныя заўвагі

Кіраўнік пачынае заняткі з агульнае ўстаноўкі, што нацыянальнае пытаньне зьяўляецца аднэй з складаных частак клясавай барацьбы, і высьвятленьня нацыянальнай політыкі партыі, пачынаючы з пастаноўкі гэтага пытаньня ў праграме нашае партыі.

Пры распрацоўцы гэтай часткі трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на ленінскую крытыку люксэмбургіянства і яе расійскай рознавіднасьці (Бухарын, Пятакоў), зварочваючы асаблівую ўва у на мнімую лявізну бухарынскай устаноўкі па гэтаму пытаньню. Тут варта працытаваць мейсца з прамовы т. Леніна на 8-м зьезьдзе ЎсеКП(б). (Ленін, т. XIX, стар. 210 1-шы абзац 212 стар.).

Неабходна таксама для гэтай часткі выкарыстаць матар'ял з кніжкі Сталіна „Выбраныя работы па нацпытаньні“, стар. 84, ад слоў „так нац. пытаньне з прыватнага пытаньня“ да канца арт. на 85 старонцы).

Разабраўшы агульна-тэорэтычную ўстаноўку, можна перайсьці да пастаноўкі нацыянальнага пытаньня на XII зьезьдзе ЎсеКП(б). Тут асаблівa трэба высьветліць тры пытаньні: 1) прычыны пастаноўкі нацыянальнага пытаньня на XII зьездзе; 2) асноўную сутнасьць вялікадзяржаўнага шовінізму і шовінізму мясцовага, 3) аб формах і мэтодах барацьбы з адхіленьнямі ад нацыянальнай політыкі партыі

У гэтым разьдзеле варта выкарыстаць з дакладу т. Сталіна наступнае месца ад слоў: „у чым заключаецца клясавая сутнасьць“ да слоў у гэтым адна з асноў нацпытаньня наогул 1-2 старонцы.

З рэзалюцый XII зьезду ЎсеКП(б).

Пасьля гэтага магчыма перайсьці да пастаноўкі нацыянальнага пытаньня на XVI зьезьдзе. Тут таксама патрэбна высьветліць тры асноўныя

пытаньні: 1) чаму XVI зьезд завастрыў увагу партыі на нацыянальным пытаньні; 2) у чым канкрэтна выяўляюцца праявы вялікадзяржаўнага шовінізму і 3) чаму на даным этапе вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай.

Разглядаючы гэтую частку тэмы, неабходна ўвязаць ўзмацненьне праяў вялікадзяржаўнага і мясцовага шовінізму з агульным абвастрэньнем клясавай барацьбы.

Пераходзячы да разгляду рашэньняў 2-га пленуму ЦК КП(б)Б, трэба даказаць, што рашэньні XVI зьезду аб тым, што галоўнай небясьпекай на даным этапе зьяўляецца вялікадзяржаўны шовінізм, цалкам і поўнасьцю адпавядаюць умовам і абставінам Беларусі, даказаўшы правільнасьць гэтых довадаў конкрэтнымі матар'яламі свайго прадпрыемства або ўстановы. Аднак, завастраючы ўвагу на барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, дасканальна давесьці, што гэтыя сьцьвярджэньні не адзначаюць паслабленьня барацьбы супроць беларускага, яўрэйскага, польскага і інш шовінізмаў. А дзеля таго, каб магчыма было вывучыць ворага, трэба ведаць яго програму. Карыстаючыся плянам, дасканальна давесьці ўсю контррэволюцыйную сутнасьць нацыянал-дэмократызму і формы барацьбы з ім (нацдэмократызмам). Правільнасьць вырашэньня нацпалітыкі КП(б)Б трэба давесьці на падставе вывучэньня дасягненьняў у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, соц. рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, каранізацыі і г. д. Гэта павінна быць абгаворана пры вывучэньні астатніх рашэньняў 2-га пленуму.

Адсюль ужо лёгка будзе перайсьці да таго, каб даказаць, што нацыянал-опортунізм зьяўляецца буржуазнай агентурай у нашых шэрагах. Нацыянал-дэмократы з партбілетам, як: Прышчэпаў, Баліцкі, Ігнатоўскі, Алесь Адамавіч і інш. і нясумяшчальнасьць поглядаў нацыянал-опортунізму з прыналежнасьцю да КП(б)Б.

Вывучыць, як трэба пабудаваць працу на даным прадпрыемстве або ўстанове, каб забясьпечыць поўнае правядзеньне ў жыцьцё ўсіх рашэньняў XVI зьезду УсеКП(б) і 2-га пленуму КП(б)Б па нацыянальнаму пытаньню.

**Літаратура для слухачоў:**

**Рэзолюцыя Пленуму ЦК КП(б)Б аб нацыянальным пытаньні.**

**Рэзалюцыя XVI зьезду УсеКП(б) па паліт-справаздачы, стар. 12.**

**Даклад і заключнае слова т. Сталіна, ст. 81, 87, 89, 90.**

**Літаратура для кіраўнікоў:**

**Рэзолюцыя XII зьезду УсеКП(б) па дакладу т. Сталіна.**

**Даклад т. Сталіна на XII зьезьдзе.**

**Праграма УсеКП(б) па нацыянальнаму пытаньню.**

**Праграма Комінтэрну па нацыянальнаму пытаньню.**

**Прамова т. Леніна на 8 зьезьдзе УсеКП(б) (сабр. соч., т. XIX, стар. 211-216)**

**Сталін—„Пытаньні ленінізму", стар. 110-118.**

**Сталін—Выбраныя работы па нацыянальнаму, пытаньню стар. 78-85, 174-185, 95-116.**

## Кантрольныя пытаньні

1. Чаму капіталістычная сыстэма ня можа вырашыць правільна нацыянальнага пытаньня.
2. Дакажэце на фактах правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў СССР.
3. Чаму вялікадзяржаўны шовінізм зьяўляецца асабліва шкодным на даным этапе.
4. Растлумачце асноўнае вызначэньне т. Леніна і Сталіна, што такое нацыя.
5. Як канкрэтна, па вашай думцы, магчыма пабудаваць інтэрнацыянальнае выхаваньне на вашым прадпрыемстве.

# Аб чарговых задачах гаспадарчага будаўніцтва

## *Пастановы 2-га Пленуму ЦК КП(б)Б*

### Мэтавая устаноўка:

Мабілізаваць увагу слухачоў на выкананьне пляну ўдарнага кварталу і падрыхтоўку сустрэчнага прамфінпляну на 1931 год.

Мабілізаваць слухачоў на актыўны ўдзел у дэкадзе мабілізацыі сродкаў і ва ўсіх бягучых гаспадарчых кампаніях.

Паказаць, што ажыцьцяўленьне тэмпаў індустрыялізацыі і колектывізацыі, намечаных пленумам ЦК, магчымы толькі ў барацьбе на два фронты—супроць правых, як галоўнай небясьпекі, „левых" і права-„лявацкага" блёку—за генэральную лінію партыі.

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура |
|---|---|
| **Вынікі другога году пяцігодкі**<br>1. Якія дасягненьні і недахопы мы мелі па БССР і на нашым прадпрыемстве (калгасе, саўгасе) за 1929-30 гаспадарчы год.<br><br>2. Вынікам чаго зьявіліся нашы гаспадарчыя посьпехі. | Рэзалюцыя пленуму ЦК КП(б)Б аб чарговых задачах гаспадарч. будаўніцтва" § 1 „Партработнік", № 14-15. |

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура |
|---|---|
| **б) Задачы ўдарнага кварталу і новага гаспадарчага году** | |
| 3. У чым значэньне асобнага ўдарнага кварталу, і якія асноўныя тэмпы росту прамысловасьці намечаны на гэты квартал і новы гаспадарчы год. | Рэзалюцыя. §§ 3-4. |
| 4. Задачы ў галіне падрыхтоўкі кадраў. | „ § 11. |
| 5. Як выкананы плян ударнага кварталу. | |
| 6. Якое значэньне для выкананьня пляну ўдарнага кварталу мае мабілізацыя сродкаў насельніцтва. | „ § 8. |
| 7. Што вырашыў Пленум па пытаньню рабочага забесьпячэньня. | „ § 9. |
| **в) Чарговыя задачы ў галіне сельскай гаспадаркі** | |
| 8. Якія недахопы мы маем, якія задачы перад намі стаяць у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР. | Рэзалюцыя, § 5. |
| 9. Якія задачы ў галіне жывёлагадоўлі. | „ § 6. |
| 10. Як выконваюцца нарыхтоўкі. | „ § 7. |
| **г) Правыя і права-„лявацкі“ блёк аб тэмпах сацыялістычнага будаўніцтва** | |
| 11. Як шкоднікі змагаліся супроць тэмпаў нашага будаўніцтва. | Рэзалюцыя, § 12. |
| 12. Якія думкі правых і права-„лявацкага“ блёку аб тэмпах сацыялістычнага будаўніцтва. | |

### З а ў в а г і

**1-е пытаньне.** Разбор гэтага пытаньня трэба пачаць з кароткага аналізу посьпехаў і недахопаў у выкананьні прамфінпляну 1929-30 году па БССР і на даным прадпрыемстве; на вёсцы—посьпехі ў справе калектывізацыі, пашырэньня пасеўплошчы і г. д. данага колгасу, саўгасу, вёскі. (Выкарыстаць матар'ял рэзолюцыі; больш падрабязныя лічбы — „Зьвязда“ 22/XI-30 году, перадавая, або старонка 3).

**2-е пытаньне.** На аналізе практыкі правядзеньня новых мэтадаў спаборніцтва і ўдарніцтва, сустрэчнага прамфінпляну, вытворчых манэўраў,—на разборы двух-трох характэрных прыкладаў вытворчага ўздыму ў час ліквідацыі паасобных прарываў на даным прадпрыемстве паказаць, што „ў мінулым 1929-30 годзе. на падставе ўзрослай актыўнасьці рабочых мас, арганізацыя сацыялістычных мэтадаў працы дала магчымасьць падвысіць узровень разьвіцьця народнае гаспадаркі, ствараючы неабходныя ўмовы для далейшага інтэнсыўнага росту сацыялістычнага будаўніцтва“. (Рэзалюцыя). Параўнаць сапраўднае дасягненьне ў справе разгортваньня ініцыятывы рабочае клясы з тэзісамі права-„лявацкага“ блёку аб тым, што ў нас існуе вялічэзны бюрократызм, „ограничивающий и суживающий размах творческих сил рабочего класса“ (Сыр ов).

На падставе разбору права-апартуністычных настрояў і практыкі і „левых“ загібаў на даным прадпрыемстве даказаць, што „адзначаныя дасягненьні зьявіліся вынікам правільнай палітыкі партыі, накіраванай на правядзеньне разгорнутага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, а таксама вынікам правядзеньня палітыкі партыі на фарсаваньне высокіх тэмпаў індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і дзякуючы рашучай барацьбе з правымі і „левымі“ опортуністамі за ажыцьцяўленьне лініі партыі (Рэзалюцыя).

**3-е пытаньне.** Паказаць, што ўвядзеньне ўдарнага кварталу ні ў якім разе не зьяўляецца вынікам немагчымасьці выканаць пяцігодку ў чатыры гады, як гэта тлумачыць наш клясавы вораг, што квартал

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура |
|---|---|

мае самастойную ўдарную праграму, якая ўключае адпаведны квартал пяцігодкі і аднвчасова ставіць сабе задачу: „Перакрыцьце ўсіх прарываў, якія былі дапушчаны на паасобных вучастках ў выкананьні пляну 1929-30 гаспадарчага году“ (рэзалюцыя).

Паказаць, што выкананьне гэтых важнейшых задач, зьяўляецца абавязковай прадпасылкай складаньня і пасьпяховага выкананьня гаспадарчага пляну на 1931 гаспадарчы год. (Рэзалюцыя).

Пасьля гэтага намеціць і зафіксаваць на школьнай дошцы асноўныя ліміты ўдарнага кварталу па данаму прадпрыемству па БССР (аічбы з рэзалюцыі Пленуму). Для выразнасьці можна азнаёміць слухачоў з асноўнымі лімітамі на 1931 г. па БССР (глядзі табліцу, „Зьвязда“, 22 стар. 3), каб даць уяўленьне аб тым, якія тэмпы павінны быць падрыхтаваны пасьпяховым выкананьнем пляну ўдарнага кварталу. Параўнаць гэтыя тэмпы з поглядамі права-„левага“ блёку на 3-ці год, не як на рашаючы год пяцігодкі, а як на год, які будзе „годом решительного исправления допущенных ошибок“ (Сырцов).

**4-е пытаньне.** Паказаць, што апошнія выяўленьні шкодніцкіх і контр-рэволюцыйных інтэлігенцкіх організацый яшчэ больш падкрэсьлілі ўсю шкоднасьць права-апартуністычнай недаацэнкі праблемы кадраў. З недахопу кадраў правыя і права „левы“ блёк імкнуцца зрабіць новае вузкае месца для разьвіцьця сацыялістычнае гаспадаркі.

**5-е пытаньне.** На падставе аналізу колькасных і якасных паказальнікаў прадпрыемства за кастрычнік, лістапад у лічбах па асноўных галінах прамысловасьці па БССР за кастрычнік („Зьвязда 22 1930 году, стар. 4), паказаць. што тут справа абстаіць ня зусім добра. Высьветліць асноўныя прычыны намеціўшагася прарыву. меры для ліквідацыі. Прывесьці прыклад лепшых прадпрыемстваў. цалкам выконваючых плян ударнага кварталу.

**6-е пытаньне.** Высьветліўшы, што „асаблівую ролю ў справе пасьпяховага выкананьня народна-гаспадарчага пляну ўдарнага кварталу набывае задача мабілізацыі грашовых сродкаў, насельніцтва і мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў усіх гаспадарчых арганізацый, асабліва прамысловасьці“ (рэзалюцыя), паказаць на нездавальняючае выкананьне пляну (лічбы „Зьвязда“. 29/XI-30 г., стар. 1-4) і мабілізаваць увагу слухачоў на актыўны ўдзел у правядзеньні дэкады мабілізацыі сродкаў на барацьбу з опортуністычнымі адносінамі да пытаньняў выкананьня фінансавага пляну ва ўсіх галінах, на праверку выкананьня ўсіх абавязковых і добраахвотных плацяжоў калгасамі, на вёсцы, пашырэньне і афармленьне пазыкі, правядзеньне самаабкладаньня, захаваньне клясавай лініі ў падатковай палітыцы і г. д. У рабочай аўдыторыі зьвярнуць увагу: а) што крэдытаваньне прадпрыемства ставіццаў залежнасьць ад выкананьня прамфінпляну, б) што не- абходна максымальная ўвага да мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства, в) што цяжкасьці з выплатай зарплаты могуць быць зьмягчаны разгортваньнем сыстэмы без наяўных разьлікаў.

**7-е пытаньне.** Прыйсьці да вываду, што праблема рабочага забясьпечаньня „можа быць пасьпяхова вырашана толькі пры ўмове стопроцантнага выкананьня ўсіх колькасных і асабліва якасных паказальнікаў народна-гаспадарчага пляну і абавязковага ўпарадкаваньня работы спажывецкай коопэрацыі, (Рэзолюцыя). (Матар'ял аб прарывах у коопэрацыі глядзі „Зьвязда“, 28/XI, старонка 3 „Чаму зьнята кіраўніцтва МЦРК“). Параўнаць з троцкісцкай прапановай—права-„левага“ блёку аб павышэньні цэн, бо наша коопэрацыя быццам бы „отвыкает даже от принципа хозрасчетности“ і зьневажае нават рэнтабельнасьць, гэта ёсьць прыбытковасьць сваіх прадпрыемстваў, і гэта ў той час, калі XVI зьезд

Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура

канстатаваў, што коопэрацыя, якая ня зьніжае цэн, „действует в данном случае не как социалистический сектор, а как своеобразный сектор, зараженный непманским духом“ (Сталін).

**8-е пытаньне.** Peралічыўшы асноўныя недахопы ў справе калектывізацыі (глядзі рэз. пленуму), паказаць на наяўнасьць новай хвалі колгаснага руху, азнаёміць слухачоў з лімітамі, намечанымі па колектывізацыі (20 проц. да 1 студзеня 1931 г., 45 проц. на 1931 год, 85 проц. ахопу вытворчым сел.-гаспадарчым коопэрваньнем да 1/I-31 году; на падставе недаацэнкі правымі і права-„лявацкім“ блёкам новае хвалі колектывізацыі наступны год павінен быццам бы быць толькі годам „праверкі колхозного движения“, у працягу гэтага году нам трэба яшчэ толькі „создать стимулы, которыми реальный крестьянский человеческий материал будет закрепляться в коллективизации“ (Сырцов).—прывесьці слухачоў да вываду, што пасьпяховае выкананьне плянаў калектывізацыі магчыма толькі пры ўмове барацьбы на два фронты. „Усім арганізацыям неабходна... стаць на чале новай хвалі колгаснага прыліву і кіраваць ім, захоўваючы ў працы па колектывізацыі бальшавіцкія прынцыпы, не допускаючы апартуністычнага самацёку і перагібаў, не супыняючы і сыстэматычна праводзячы, на базе суцэльнай колектывізацыі, ліквідацыю кулацтва, як клясы“. У якасьці ілюстрацыйнага матар‘ялу можна выкарыстаць факты, якія малююць раобту вярбовачных і ініцыятыўных груп („Зьвязда“, 28/XI артыкул „Бліскучая практыка“).

**9-е пытаньне.** Растлумачыўшы асноўныя ўстаноўкі рэзалюцыі можна выкарыстаць факты і работы „Сьвінаводу“ па БССР („Зьвязда“, 12/XI, стар. 3), работы данага саўгасу, калгасу, адкормачнага пункту коопэрацыі і г. д. На падставе посьпехаў „Скатаводу“ і „Сьвінаводу“ па СССР (гл. „Большевик, № 21“, артыкул „Права-левый“ блок в борьбе против партии“) паказаць рад поглядаў права-„левых“ аб нерэальнасьці плянаў жывёлагадоўлі.

**10-е пытаньне.** Разабраўшы канкрэтныя дырэктывы Пленуму на некалькіх прыкладах (1/2 проц. выкананьня пляну па ільну-валакну на 20-е лістапада, 20, 25, 30-проц. выкананьне заданьня па адгрузцы асобных відаў лесаматар‘ялу для Данбасу на 20-е лістапада), паказаць на сувязь выкананьня пляну загатовак са справай выкананьня плянаў прамысловасьці і рабочага забясьпечаньня (бульбазагатоўкі); у вёсцы праверыць выкананьне загатовак даным колгасам, вёскай і ўдзел колгасу ў лесезагатоўках (гл. „Зьвязда“, 28/XI, стар. 2-3).

**11-е пытаньне.** Шкоднікі на гаспадарчым фронце, як галоўны спосаб зрыву пяцігодкі, ужывалі заплянаваньне мінімальных тэмпаў гаспадарчага жыцьця. Паказаць, ідэолёгічнае спаўзаньне права-„лявацкага“ блёку, тэорыя якога, у асноўным, зноў зводзіцца да трацкісцкай немагчымасьці пабудаваць сацыялізм у нашай краіне, адмаўленьня таго, што мы ўступілі ў пэрыод сацыялізму і г. д., да ідэолёгіі шкоднікаў інтэрвентаў. Адсюль вывад, што „толькі рашучая барацьба на два фронты, у першую чаргу з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і прымірэнцкімі адносінамі да яго, барацьба за генэральную лінію партыі, за выкананьне высокіх тэмпаў індустрыялізацыі, сацыялістычную перабудову вёскі, барацьба за поўнае выкананьне задач па суцэльнай колектывізацыі і на гэтай падставе ліквідацыі кулацтва як клясы, гарантуе пасьпяховую перамогу маючыхся гаспадарчых цяжкасьцяў і выкананьне генэральнага лёзунгу партыі—ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў чатыры гады (Рэзалюцыя).

Літаратура для слухачоў. Рэзалюцыя.

Літаратура для кіраўніка. Акрамя паказанага ў тэксьце „Бальшавік, № 21, артыкул Б. Таль „Права-„левы“ блок у борьбе против партии“.

## Для першапачатковай школы

# Партыя

### Мэтавая ўстаноўка:

1. Устанавіць гістарычную ролю пралетарыяту ў справе арганізацыі баявой партыі, узброенай перадавой тэорыяй і значэньне рэвалюцыйнай партыі ў рэвалюцыйнай барацьбе рабочае клясы.

2. Разабраць формы партыйнага кіраўніцтва масамі і задачы перабудоўлі партарганізацыі пад лёзунгам мабілізацыі мас за бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва.

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура | Мэтадычныя заўвагі |
|---|---|---|
| **I. Партыя і кляса** | | |
| Што такое партыя і яе ўзаемаадносіны з клясай. | „Памятка бальшавіка", Кержанцаў, стр. 51-53. Сталін, стр. 142-143. | Пры разборы гэтага пытаньня неабходна зьвярнуць увагу на высьвятленьне чоткага прызначэньня партыі, як авангарду рабочае клясы. „Партыя ёсьць вышэйшая форма клясавага аб'яднаньня пралетарыяту",(Ленін). Падкрэсьліць неабходнасьць арганізацыі баявой партыі пралетарыяту без якой была-б немагчыма перамога ў кастрычніку 1917 году, паказаўшы далей, што" бяз партыі, як асноўнай кіруючай сілы, ніяк немагчыма працяжная і моцная дыктатура пралетарыяту. |
| **II. Як арганізавана партыя** | | |
| 1. Арганізацыйн. прынцыпы бальшавіцкай партыі.<br>2. Дысцыпліна адзінства партыі.<br>3. Ячэйка, як асноўная арганізацыя.<br>4. Схэма арганізацыі партыі. | Кагановіч „Как построена" ВКП стр. 37-42.<br>Там-жа, ст. 24-27, Кержанцаў, ст. 54-56.<br>Кагановіч, стар. 59-68, 42-43.<br>Кержанцаў, ст. 56. | У гэтым пытаньні неабходна падрабязна разабраць сутнасьць дэмакратычнага цэнтралізму, як кіруючага прынцыпу арганізацыйнага будаўніцтва нашай партыі, падкрэсьліць, што толькі строгая цэнтралізацыя і дысцыпліна ўнутры палітычнай партыі зьяўляецца залогам пасьпяховага выкананьня пастаўленых перад партыяй задач. Асьвятліўшы пытаньне арганізацыі ячэек, неабходна спыніцца на задачах ячэйкі ў дадзены момант, паказаўшы, што, у сувязі з нябачаным уздымам соцспаборніцтва, вытворчай працы і паляпшэньнем вытворчасьці, а таксама ліквідацыяй кулацтва як клясы на падставе суцэльнай колектывізацыі, „задачы ячэйкі ўскладняюцца, таму, што ячэйка павінна кіраваць усім гэтым вялізарным працэсам творчасьці многамільённых мас (Кагановіч). |
| **III. Форма парткіраўніцтва масамі** | | |
| 1. Прыводныя рамні і рычагі партыі да мас.<br>2. Фракцыі і ўзаемаадносіны з парткмітэтамі.<br>3. Для чаго неабходна захаваць кіраўніцтва партыі. | Сталін, ст. 21-24; Кержанцаў, ст. 59-61. Кагановіч „Очередные задачы" ст. 24-29.<br>Кагановіч „Очередн. задачы", стар. 74-79.<br>Там жа, стар. 79-80. | Пры разборы гэтага пытаньня неабходна паказаць слухачом, што такія прыводныя рычагі— „гэта масавая арганізацыя пралетарыяту, без дапамогі якой немагчыма ажыцьцяўленьне дыктатуры пралетарыяту" (Сталін).<br>Далей паказаць, як партыя кіруе гэтымі масавымі арганізацыямі, галоўным чынам, праз фракцыі, задача якіх зьяўляецца „усебаковае ўзмацненьне ўплыву партыі і правядзеньне яе палітыкі ва ўсіх непартыйных арганізацыях і партыйны кантроль над работай усіх паказаных установ і арганізацый". |

| Пытаньні для прапрацоўкі | Літаратура | Мэтадычныя заўвагі |
|---|---|---|
| **IV. Задачы партыі ў рэканструкцыйны пэрыод і перабудова работы партарганізацый** | | |
| 1. Кіраўніцтва гаспадаркай і кадры. | Кагановіч „Очередные задачы партработы", ст. 8-16. | Неабходна падкрэсьліць важнасьць узмацненьня кіраўніцтва партыі гаспадарчай дзейнасьцю і вырашэньня праблемы кадраў. Паказаць, што мабілізацыя актыўнасьці мас і рашучая барацьба на два фронты—супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левага" ухілуі супроць падпольнай антыпартыйнай фракцыйнай дзейнасьці права-„лявацкага" блёку—ёсьць залог посьпехаў у сацыялістычным будаўніцтве. Разабраць абавязкі члена партыі з пункту погляду выкананьня задач па сацыялістычнаму будаўніцтву (удзел у соцспаборніцтве, ударніцтве і г. д.). Падкрэсьліць, што ўся масавая работа і ўсіленьне кіраўніцтва партыі патрабуе рэарганізацыі партыйнага апарату. |
| 2. Мабілізацыя актыўнасьці мас. | Там-жа 17-29. | |
| 3. Барацьба на два фронты і з прымірэнцтвам. | Рэзалюц. XVI зьезду, стар. 11-12. | |
| 4. Абавязкі члена партыі. | Кержанцаў „Памятка бальшавіка", ст. 61-65. | |
| 5. Рэарганізацыя партапарату. | Кагановіч „Очередные задачы" стар. 46-53. | |

**Літаратура для кіраўніка:**

Акрамя паказанай, рэкамендуецца наступнае:
Сталін „Вопросы Ленинизма", выданьне 1929 г., стар. 21-24, 141-153.
„Итоги XVI с'езда партии", выданьне „Прибой", стар. 158-161, 166-168.

---

## 1-ае заданьне для дэкадных камвузаў

# Барацьба на два фронты

## А. Ленінізм і барацьба на два фронты

**I. Асноўныя рысы правага і „левага" опортунізму пры пераходзе ад аднавіцельнага пэрыоду да рэканструкцыі:**

I. Асноўная лінія правага опортунізму:

1. Лібэральнае разуменьне НЭП'у.
2. Тэорыя патуханьня клясавай барацьбы.
3. Узрастаньне кулака ў сацыялізм.
4. Курс на індывідуальную гаспадарку і адмаўленьне ролі калгасаў і саўгасаў.
5. Тэорыя патухаючай крывой і зьніжэньня тэмпаў.
6. Неразуменьне вытворчых форм змычкі.
7. Неразуменьне індустрыялізацыі і кіруючай ролі пралетарыяту.

**II. Асноўныя рысы „левага" опортунізму:**

1. Тэорыя немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне.
2. Недаацэнка сераднякa і саюзу з ім.
3. Тэорыя зьверхіндустрыялізацыі.
4. Неразуменьне ленінскай тэорыі коопэрацыі.
5. Адміністраваньне ў галіне эканомікі.
6. Курс на адсталага рабочага.
7. Трацкісцкія арганізацыйныя прынцыпы ў пытаньнях:

а) партыйнага кіраўніцтва;
б) адносін паміж старымі і маладымі кадрамі
в) барацьбы з бюрократызмам.

**III. Новы этап і барацьба на два фронты:**

I. Новыя моманты ў поглядах правага опортунізму:

1. Тэорыя роўнавагі двух сэктараў.
2. Тэорыя самацёку.
3. Неразуменьне сацыялістычнай прыроды калгасаў і імкненьне затрымацца на прымітыўных формах колгасаў.
4. Неразуменьне значэньня лёзунгу ліквідацыі кулацтва як клясы.
5. Неразуменьне шкодніцтва, як формы клясавай барацьбы.
6. Трэд'юніанізм у пытаньнях профруху і недаацэнка актыўнасьці рабочае клясы.

II. Левыя загібы на новым этапе:

1. Адмаўленьне прынцыпу добраахвотнасьці ў калгасным руху.
2. Адмаўленьне асаблівасьцяй асобных раёнаў і рэспублік.

3. Фарсаваньне пераходу да вышэйшых форм колгаснага руху.

4. Імкненьне ліквідаваць НЭП у горадзе і не правільнае разуменьне новага этапу.

5. Імкненьне ліквідаваць сельскія саветы.

6. Ацэнка лініі партыі як адступленьне.

**IV. Перапляценьне правых і „левых“ апартуністых і ўтварэньне права-„лявацкага“ блёку**

I. Лінія правых і „левых“, як курс на буржуазную рэстаўрацыю ў нашай краіне

II. Асноўныя рысы права-„лявацкага“ блёку.

1. Недаацэнка сацыялістычнага значэньня колгасаў.

2. Курс на зьніжэньне тэмпаў капітальнага будаўніцтва.

3. Неразуменьне нашых цяжкасьцяй як цяжкасьцяй росту.

4. Недаацэнка актыўнасьці рабочае клясы.

5. Недаацэнка проблемы кадраў, як формы клясавага змаганьня.

6. Барацьба з парткіраўніцтвам.

III. Двурушніцтва, як форма фракцыйнай барацьбы опортунізму

**V. Сацыяльныя карэньні правага і „левага“ ухілаў ад генэральнай лініі партыі.**

1. На якіх этапах рэвалюцыі перамагае небясьпека таго ці іншага ўхілу.

2. Ленінская характарыстыка прымірэнцтва да ўхілаў.

**Літаратура:**

1. Ленін, т. XVII, выд. I, стар. 124-130 „Детская болезнь левізны“. § 4.

2. Ленін т. XVIII, ч. I, стар. 352-358 „Новые времена, старые ошибки в новом виде“.

3. Ярославский. „13 год барацьбы з опортунізмам“ „Праўда, 7/XI-30 г.

4. Сталін. Палітсправаздача 16-му з'езду, аддз. III, партыя.

5. Зыкаў і Крылоў. „О правой опасности“ выд. II, гл. „Почему правый уклон главная опасность“, стар. 192—206, „О примиренчестве к правому уклону“. стар. 208-218.

6. Рэзалюцыя XVI канфэрэнцыі; частка, касаючая аб ухілах.

7. Мікаян. „Прамова на XVI зьезьдзе“.

8. Сталін. „Аб правым ухіле“—прамова на пленуме ЦК у красавіку 1929 г.

9. Сталін. „Прамова на пленуме ЦК“, лістапад 1928 г., § 3.

10. Сталін. „К пытаньням аграрнай палітыкі ў СССР“.

11. Сталін. „Адказ т. т. калгасьнікам“.

12. Чарняўскі. „Бязьлітасны агонь па права-„лявацкаму блёку“, „Правда“ ад 10/XI-30 г.

13. М. Горын. „Блёк на пляцформе правага опортунізму“.

**Максымум:**

1. „На два фронты, зборнік, выд. „Прыбой“, 1930 г., арт. В. Карповіча, ст. 5-27.

2. Вынікі XVI зьезду, выд. „Прыбой“ „На два фронты“, ст. 166-223.



*Рэдкалегія*: **О. Канакоцін, Танхілевіч, Лабадаеў**

Цана 25 кап. 

АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА

на 1931 год

НА

# „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦК КП(б)Б

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

Менск, вул. Карла Маркса, 14. ЦК КП(б)Ь

Рэдакцыя часопісі „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 месяц . . . 25 к. | на 6 месяцаў . 1 р. 50 к. |
| „ 3 месяцы . . . 75 к. | „ 1 год. . . 2 р. 75 к. |

**Кошт асобнага нумару 15 к.**

ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва—
**Менск, Пляц Волі, № 5.**

Аддзел падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР—
**Менск, Савецкая, 54.**

Кантора газэты „Зьвязда“ і ўсе паштовыя аддзяленьні і пісьманосцы

**Партыйныя і камсамольскія ячэйкі, распаўсюджвайце часопісь „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“**

